# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**10**

**(719) КАСТРЫЧНІК, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Наталля АЎДЗЕЕВА**
**Алесь БАДАК**
**Міхась БАШЛАКОЎ**
**Максім ГАЛЬПЯРОВІЧ**
**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**
**Сяргей ДУБОВІК**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**
**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**
**Лідзія МАКАРЭВІЧ**
**Уладзімір МАТУСЕВІЧ**
**Іван САВЕРЧАНКА**
**Барыс СВЯТЛОЎ**
**Таццяна СІВЕЦ**
**Віктар ШНІП**
**Таццяна ШЭЛЯГОВІЧ**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ**

**Анатоль КАЗЛОЎ —**
рэдактар аддзела прозы

**Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ —**
рэдактар аддзела паэзіі

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ —**
рэдактар аддзела крытыкі

**Генадзь АЎЛАСЕНКА —**
рэдактар аддзела падлеткавай творчасці

**Дар'я ШОЦІК —**
рэдактар аддзела школьнага жыцця

**Ганна КІРЭЕНКА —**
рэдактар інтэрнэт-версіі

**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» г. Мінск**

**У НУМАРЫ:**



## Прадмова рэдакцыі

*Калі б ад самага пачатку апавядаць вам па парадку, як казаў наш класік, то ніяк не выпадае не адзначыць, што ідэя гэтага нумара належыць увогуле не часопісу «Маладосць», а спадарыні Але Мяснянкінай, намесніку дырэктара па навуковай працы Брэсцкай абласной бібліятэкі. Выказаная рамантычна прыгожым, ледзь не самым снежным снежаньскім днём мінулага года, яна — зачапіла. І прымусіла марыць: першы міжнародны, міжрэгіянальны. Нумар, што прадставіць беларусам творчасць літаратараў-замежнікаў — жывую, толькі-толькі з-пад пяра суседзяў, палякаў і ўкраінцаў. Цікава, як у іх з верлібрамі і эпатажам, эксперыментам і кропкамі-коскамі? Якія тэндэнцыі, плыні, традыцыі?.. Нашы — ці будуць удзячнымі? Мы — ці ўразім замежнікаў?*

*Брэст, яго будынкі, дрэвы, ліхтары і вуліцы яшчэ захлыналіся ў антуражы пачуццёвай невыказнасці, яшчэ ішла зіма, а ўжо пачыналася праца над восеньскім нумарам. Неперадавальна напружаная і вельмі прыемная…*

*Між тым, нумар гэты па-ранейшаму берасцейскі. Адкрываецца прадмовай губернатара. Да таго ж, мае асаблівае прызначэнне:*

**Прысвячаецца юбілею Ніны МАЦЯШ**

# Радасць пачуцця.
# Свежая бяроста Берасцейшчыны





*Канстанцін СУМАР*

# *Радуюся поспехам брэсцкіх пісьменнікаў*

Да часопіса «Маладосць» я стаўлюся з вялікай павагай.

Па-першае, за яго ўвагу да Брэстчыны — пастаянную і нязменную на працягу многіх год, што выяўляецца і ў выданні штогадовага рэгіянальнага нумара, пачынаючы з 2006-га (ведаю, што толькі Брэсцкая вобласць мае свой нумар рэспубліканскага літаратурнага выдання).

Па-другое, таму што часопіс напоўнены цеплынёю і любоўю да роднай зямлі. Менавіта таму згадзіўся са старонак гэтага выдання падзяліцца сваімі думкамі пра духоўныя, а найперш літаратурныя здабыткі нашай вобласці, выказаць свае меркаванні наконт развіцця літаратуры і духоўнага складніка нашага існавання, які для мяне, як, спадзяюся, і для любога чалавека, ніяк не меней важны, чым матэрыяльны. А можа, нават і самы важны. Тым больш, што я заўсёды цікавіўся літаратурай, люблю Якуба Коласа, яго магу цытаваць і цытаваць.

Што датычыцца ўвагі да сучаснага творчага жыцця вобласці, то адзначу, што мы шчыра і пільна зацікаўлены ў з'яўленні новых значных імёнаў у літаратуры, як і ў любой іншай галіне мастацтва. І, як вынік, у з'яўленні значных, выбітных твораў, па якіх нашчадкі маглі б вывучаць наш час, фарміраваць з дапамогаю гэтых ведаў уласнае светаадчуванне, каб яно дазваляла развівацца далей у тым кірунку, што вызначаны лозунгам: «За квітнеючую Беларусь!».

Абласным выканаўчым камітэтам падтрымліваюцца ўсе творчыя саюзы, у тым ліку і Саюз пісьменнікаў Беларусі, які ўшчыльную заняўся выяўленнем літаратурных талентаў, арганізоўвае разам з органамі ўлады ўсіх узроўняў літаратурныя конкурсы, творчую вучобу, шматлікія сустрэчы з прафесійнымі пісьменнікамі ў навучальных установах, наладжвае стасункі з беларускімі пісьменнікамі замежжа.

Яшчэ ў 2006 годзе падчас нашай першай сустрэчы з новаабраным старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолем Крэйдзічам я дакладна акрэсліў пазіцыю абласной улады адносна падтрымкі літаратараў і літаратуры рэгіёна. І прытрымліваюся гэтай пазіцыі дасюль, і буду далей прытрымлівацца. Яна вельмі простая і зразумелая. Я тады сказаў, што ўсё новае, калі яно нясе ў сабе пазітыўны зарад, падтрымаюць чытачы, а гэта значыць, і ўлада. У той жа размове падтрымаў дзве важныя прапановы: заснаванне абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка і выданне за бюджэтныя сродкі «Літаратурнай карты Берасцейшчыны» — гэткага музея літаратуры ў выглядзе кнігі на амаль 570-ці старонках.

Ужо не адзін год гэтыя ідэі паспяхова рэалізуюцца. І я задаволены, што на прэміі вылучаюцца кнігі і творы сапраўды годныя — як па мастацкіх вартасцях, так і па грамадскім гучанні. Таму з задавальненнем уручаю лаўрэатам дыпломы, паціскаю ім руку, і з кожным годам усё больш і больш пераконваюся: прэмія станоўча ўплывае на літаратурны працэс, павялічваецца колькасць аўтараў, кніг, прычым, усё лепшай і лепшай мастацкай якасці.

За гэты час у мяне дома сабралася даволі прыстойная бібліятэка кніг адных толькі брэсцкіх пісьменнікаў; прычым, з аўтографамі аўтараў, чым я вельмі ганаруся. І хоць шмат часу забірае работа гаспадарча-арганізацыйная, але знаходжу хвіліну, бяру ў рукі кнігу і даю сабе адпачынак ад клопатаў, насалоджваюся прыгожым словам.

Чакаю ад сваіх землякоў-творцаў новых цікавых, высокамастацкіх твораў. Узровень падтрымкі, у тым ліку матэрыяльнай, пісьменнікаў будзе расці прапарцыянальна з іх укладам у слоўнае мастацтва вобласці і краіны, у выхаваўчы працэс. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба: літаральна за некалькі дзён да ўручэння мінулагодняй літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка мы вырашылі павысіць памер прэміі ў два разы. Прызнаюся шчыра: мне рабіць гэта было вельмі прыемна, бо рэальна бачыў плён працы нашых майстроў слова. Атрымаўся прыемны сюрпрыз тым, хто гэтую ўзнагароду заслужыў талентам, духоўнымі і фізічнымі намаганнямі.

Дарэчы, за час існавання прэміі яе ўжо атрымалі 25 чалавек. І атрымаюць яшчэ многія, бо ў літаратуру ідзе таленавітая моладзь. Вось чаму разам з літаратурнымі прэміямі ўручаюцца ўзнагароды яшчэ і пераможцам літаратурных конкурсаў для дзяцей і юнацтва, якія арганізоўвае пісьменніцкае аддзяленне.

Скажу без перабольшвання: слухаючы з залы, як дзеці дэкламуюць на сцэне свае вершы, радуюся: гэта ж такія таленты падрастаюць. І няхай не ўсе яны ў будучым стануць прафесійнымі літаратарамі, дастаткова ўжо таго, што людзі з Божай іскрынкай у сэрцы, яны абавязкова будуць прыносіць вялікую карысць сваёй зямлі.

Дарэчы, сёлета цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў абласной літпрэміі адбудзецца ў Белаазёрску. Яна будзе прысвечана 70-годдзю вядомай паэтэсы Ніны Мацяш. Яе памяці прысвечаны і дзіцячы літконкурс: «Без дружбы мне — як без вады і хлеба». Запрашаю ўсіх прыняць удзел у мерапрыемстве напрыканцы лістапада бягучага года.

А ўвогуле прыклады таго, што мы — улада і творцы — робім агульную справу развіцця мастацтва (у дадзеным выпадку — літаратурнага) вобласці, можна прыводзіць і прыводзіць.

Гэта бесперапынны працэс, які мы рухаем наперад разам.

***Канстанцін Андрэевіч СУМАР,***
***старшыня Брэсцкага абласнога***
***выканаўчага камітэта***

***БІЯГРАФІЧНЫЯ ЗВЕСТКІ***

***Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Вічын Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. У 1973-м скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут, у 1987-м — Мінскую вышэйшую партыйную школу. З 1970 года — інжынер-гідрамеліяратар калгаса імя У. І. Леніна Лунінецкага раёна. У 1971—1975 гадах працаваў галоўным аграномам, намеснікам старшыні калгаса «Шлях Леніна» Лунінецкага раёна. У 1975—1981-х — старшыня калгаса «Рассвет» Лунінецкага раёна. У 1981—1991-х — першы намеснік старшыні выканаўчага камітэта Лунінецкага раённага Савета народных дэпутатаў, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі, другі, першы сакратар Брэсцкага райкама КПБ. У 1991—1995 гадах — старшыня Брэсцкага раённага Савета народных дэпутатаў, старшыня Брэсцкага райвыканкама. У 1996—1998 гадах — намеснік начальніка Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь. У 1998—2000 гадах — першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама. З 2000-га — старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта Рэспублікі Беларусь. У 2000—2004 гадах — міністр па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь. У лістападзе 2004 года абраны членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Старшыня Брэсцкага аблвыканкама з сакавіка 2004 года.***

Анатоль КРЭЙДЗІЧ

# ЯЕ ЗАПАВЕТ — БЫЦЬ АДЗІННЫМІ

*Позна ўвечары 18 снежня 2008 года на мой электронны адрас прыйшоў апошні ліст ад Ніны Мацяш. У гэты час я скончыў працаваць і выключыў камп'ютар, і той ліст чытаў ужо раніцай 19 снежня, натуральна, не ведаючы, што яе ўжо няма. А ліст быў пяшчотны, суцешлівы, бо яна дужа непакоілася пра тое, каб літаратурная Берасцейшчына выглядала годна ва ўсіх адносінах.*

*І ўжо наступны ліст пісаўся адначасова і ёй, і сабе, і людзям, і ў прастрань, у невядомасць…*

*«Мілая Ніна Язэпаўна, думаецца і думаецца пра Вас і пра тое, што здарылася, застылі пальцы над клавіятурай і баляць, бо як ні напружвайся, каб сабраць у адзінае цэлае, у тое* ***адзіннае,*** *якое Вы спавядалі заўсёды, ды ніяк, ніяк не ўмясціць у свядомасці усю Вашу веліч як чалавека, проста Чалавека — самага спагадлівага на свеце, самага далікатнага, прыгожага, светлага, надзейнага, мудрага, мужнага, моцнага і… безабароннага, усю Вашую веліч як Паэта — самага вытанчанага, відушчага, віртуознага, усю Вашую веліч як Грамадзяніна — самага высокага, годнага, адданага роднай старонцы, роднай Беларусі. О-о, яе, гэтую Вашую веліч, яшчэ ўсведамляць і ўсведамляць бясконца.*

*Вы так многа паспелі зрабіць у сваім прыгожым, як і сама, жыцці. “Агонь”, “Удзячнасць”, “Ралля суровая”, “Прыручэнне вясны”, “Поўны келіх”, “Паварот на лета”, “Шчаслівай долю назаві”, “Душою з небам гаварыць”, “Я вас люблю”, “Палёт над жытам”… Казкі, пераклады з нямецкай, французскай, польскай, украінскай моў у кнігах “Свет, варты вяртання” (з Віславы Шымборскай), “Маленькі прынц” і “Планета людзей” (з Антуана дэ Сент-Экзюперы), “Поры году” (з Франсуа Жакмэна), “Маруся Чурай” (з Ліны Кастэнка), “Перабіраю самацветы” (выбраныя пераклады з еўрапейскай паэзіі), “Багаславі сустрэчу мне” (з паэзіі Плеяды)… Гэта не проста Вашая творчасць — гэта здабытак, гонар усёй Беларусі, гэта сцвярджэнне самой Беларусі ў сябе дома і ў свеце. Наступная кніга, якую Вы назвалі “У прыгаршчах ветру”, выйдзе ў наступным годзе ў выдавецтве “Літаратура і Мастацтва” ўжо, на вялікі жаль, як пасмяротная, і Вы парадуецеся разам з намі гэтай падзеі з высокага высаку. Факультэт французскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў, выкладанне нямецкай мовы ў Белаазёрскай прафесійна-тэхнічнай навучальні, старшыня абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, уганараванне Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова, высокім званнем Ганаровага грамадзяніна Белаазёрска і Берасцейскай зоркі-98, міжнароднай прэміяй імя Георгія Скаварады і іншымі, іншымі, іншымі… Гэта многа і, для Вас, так мала. Бо Вы — народная.*

*Ці мо і вышай? Цяпер, з адлётам у іншасвет, Вас адразу ж паставілі ў адзін шэраг з апосталамі. Апостал духу беларускага, беларуская заступніца. Гэтак казалі пра Вас падчас развітання. І з гэтымі словамі Вы набываеце новае жыццё, Вы працягваеце і будзеце вечна служыць любай, мілай Вам і ўсім шчырым беларусам Бацькаўшчыне.*

Жыць так, каб і пасля жыцця рабіць для сваёй зямлі больш, чым робім мы, тыя, хто працягвае па ёй хадзіць — прыклад велічны, прыклад самаахвярнага служэння Радзіме

*Жыць так, каб і пасля жыцця рабіць для сваёй зямлі больш, чым робім мы, тыя, хто працягвае па ёй хадзіць — прыклад велічны, прыклад самаахвярнага служэння Радзіме.*

*І покуль будзе бачыцца сцяжынка,*
*якой ішла ты ў бедах, бы ў шаўках,*
*вярэдзіціме сэрцы і галінка*
*твайго радка.*

*Як жа пякуць-баляць гэтыя Вашыя слоўкі памяці Яўгеніі Янішчыц, якая, як і Вы, нарадзілася і адышла ў вечнасць слотнаю восенню. Асабліва пякуць-баляць яны цяпер — развярэдзіла сэрца галінка Вашага радка:*

*Пяро макала ў думнае дасвеццe,*
*пісаліся не вершы, а лісты,*
*якімі й выкупілася ад смерці,*
*ад няматы.*

*Лісты... Даруйце, мілая Ніна Язэпаўна, што не паспеў адказаць на Ваш апошні ліст. Ён прыйшоў надвячоркам 18 снежня. Я адкрыў яго раніцай 19-га. Чытаў, яшчэ не ведаючы, што Вы... што адказваць Вам давядзецца на іншы, зусім іншы адрас.*

*Вось яно, апошняе Вашае слоўка:* ***“Ну, шчаслівa! Няхай не даймае мярзотнае надвор’е! Н. М.”***

*Мярзотнае надвор’е... Яно ў той жа дзень зацягнула ўсё нутро, думы і пачуцці... Холад, слата вонкавая і ўнутраная зліліся ў адно. І сталі мы ўсе адзінымі. Усе, хто развітваўся з Вамі пад хмурым і слёзным небам, чые душы зліліся і таксама сталі небам, гэткім жа слёзным.*

***“...твая сляза ў маю слязу глядзела”.*** *Трымцяць у сэрцы і гэты Ваш геніяльны радок, і сляза.*

*Мы з Вамі пра многае не дагаварылі. І цяпер нічога не застаецца, як толькі працягваць распачатую даўно размову».*

*...І вяртацца да тых нашых даўніх лістоў-размоў.*

*Некаторыя з іх прапаную ў берасцейскі нумар «Маладосці». Нумар, прысвечаны светлай памяці і юбілею знакамітай паэтэсы.*




*Ніна Мацяш.*

**24 жніўня 2008**

Анатоль, прывітанне! Дзякуй за ліст. Ляхновічу цяпер жа і напішу, каб перакінуў Табе свае пераклады (калі ён дома, нікуды не з’ехаў). Дасылаю ўласныя пераклады дзіцячых вершаў Ніны Горык. Больш нікога з валынян не перакладала, толькі харкаўчанку Аляксандру Кавалёву. Сваё не пішацца. Ліставацца з валынянамі цяжкавата: на маё электроннае пасланне адказу няма, а звычайнай поштай лісты ідуць не менш за 8—10 дзён у адзін бок. Але напішы, канешне.

Патлумач мне, калі ласка, у якой форме прапаноўваць кандыдатуры на прэмію Калесніка? Ці дастаткова Табе, як старшыні журы, ведаць, ці нейкія паперы патрэбныя? Мы вылучаем «Трохперсце», то бок — Рудкоўскага (пасмяротна), Каска і Пракаповіча. З прозай і ў нас цяжэй: кніжкі нібыта ёсць, але не цягнуць на прэмію. Вось хіба толькі кніжка Алеся Паплаўскага выйдзе, дык яна вартая адзнакі, я чытала тыя аповесці. А ў астатніх жанрах у нас таксама нягуста.

Разгорнуты водгук на «Жырандолю» быў у «Літаратурнай Беларусі» ў чэрвеньскім нумары. У «ЛіМе» намерваўся адгукнуц-

ца на альманах Янка Лайкоў, але дагэтуль нічога няма. Магчыма, перадумаў. А як перадаць Табе той водгук Вярцінскага — не ведаю. Хіба паспрабаваць адпрынтаваць і пераслаць. Ды мо лепей сам напісаў бы? Мяркуй.

«Трохперсця» ў мяне яшчэ няма, хлопцы вельмі неабавязковыя з дасыланнем, пэўна, чакаюць сустрэчы ў верасні на сходзе, каб падпісаць. Дык, як бачыш, і адгукнуцца не магу. Шчыра кажучы, і не ўмею я рабіць гэта. А да ўсяго яшчэ вельмі занятая цяпер падрыхтоўкай свайго зборніка да выдання ў Карлюкевіча (угаварылі-такі!), набіраю тэксты. І Аляксандр Пашчанка, даўні бярозаўскі «крынічанін», даслаў фаліянт (звыш 500 стар.) сваіх рускамоўных вершаў, насамрэч даволі добрых, просіць быць рэдактарам... Запаруся! І адмовіцца няма як — па даўняй прыязнасці. З Украіны пакуль няма ніякіх вестак. На двары зноў лівень... У палях-сенажацях ён ужо лішні. А вось у соцыуме... Няхай бы пазмываў у нявараць усё брыдкае, пошлае, жорсткае ды нялюдскае!..

Здароўя, добрага ўправунку з усімі набяганымі справамі! Ніна.

**12 верасня 2008**

Прывітанне, мілая Ніна Язэпаўна! З нецярпеннем чакаю водгуку на «Трохперсце». Кніга сапраўды з’яўляецца кандыдатам нумар адзін на прэмію, хоць ёсць і Лагвіновіч, і іншыя... Што да юбілееў трох сучасных паэтаў, то ці не сумясціць нам іх са стагадовым юбілеем Засіма? Хоць сам і не ўяўляю, як тое можа быць, але… У Пружанскім райвыканкаме дамовіўся, каб у выпадку перавыдання паэзіі Засіма закупілі некалькі соцень кніг. Паабяцалі цвёрда. Цяпер трэба рыхтаваць тое перавыданне. Што скажаце пра гэта? Хто можа быць рэдактарам, укладальнікам кнігі? У мяне ёсць добрыя ўспаміны пра Засіма Івана Аношкіна ды Уладзіміра Турава, артыкулы пра яго творчасць.

Рэдактарства я не хацеў, проста не адмовіўся ад прапановы. Па-першае, люблю гэтую работу і ведаю яе; па-другое, надта ж моцна прыкіпеў да Іванаўшчыны, так мне тут добра; па-трэцяе, у мяне ўжо дзве студэнткі і патрэбна капейка: старэйшая Насця перайшла на трэці курс лінгвістычнага ўніверсітэта, а малодшая Каця тыдзень таму паступіла ў каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка (пры Акадэміі мастацтваў), яна ў мяне мастачка, уступны экзамен па жывапісе адна з усіх здала на дзесяць. Цяпер трэба апранаць, забяспечваць усім для адпраўкі ў Мінск, ну, і далей забяспечваць. Гэта і радасна, і клопатна. Радуе і тое, што яны размаўляюць па-беларуску. Свядома.

І самае, відаць, галоўнае. Нядаўна наш любімы кампазітар Валянцін Перапёлкін сказаў, што вельмі хоча пабачыцца з Вамі. Я паабяцаў звазіць. Яшчэ і Рыгора Сыраватку возьмем, ён з радасцю пагадзіўся паехаць. Такія госці, думаю, і для Вас будуць прыемныя. Я паведамлю загадзя, калі будзем ехаць. Калі не на гэтым тыдні, то на наступным дакладна. То будзе мажлівасць усё абгаварыць.

На гэтым закругляюся. Усяго Вам найлепшага. Да хуткай, спадзяюся, сустрэчы.

Анатоль.

**22 кастрычніка 2008**

Дзень добры, Анатолю! Нешта не азываешся... Паведамі, калі ласка, вынікі пасяджэння рады па прэміі. «Трохперсце», як я зразумела з размовы з Алесем, пайшло на зацвярджэнне? А чые творы яшчэ — па прозе, па дзіцячай? А чаму Алесь не ўведзены ў склад рады? Пэўна, гэта не ад Цябе залежыць. Найлепшага Табе! Ніна.

**29 кастрычніка 2008**

Дзень добры, мілая Ніна Язэпаўна! Гэта я гэтак усё еду да Вас з хлопцамі, дык прымоўк. Мяркуючы па першым пасяджэнні, дык «Трохперсце» адназначна праходзіць на прэмію. Але пакуль не зацверджана рашэнне, то лепш не агучваць яго. Па дзіцячай бліжэй за ўсё Бензерукоў «Зайцаў кажушок», а па дарослай ідуць дэбаты. Вымалёўваецца «Кола Сварога» Дудзюк. Зноў жа, гэта яшчэ толькі прыкідка, бо і «Сцежкі да сядзібы» Лявона Валасюка абмяркоўваюцца, і іншыя.

Узнагароджанне хутчэй за ўсё пройдзе ў Пінскім драмтэатры і будзе прымеркавана да юбілею Янішчыц. Каго б Вы хацелі бачыць на свяце?

Да хуткага спаткання. Анатоль.

**4 лістапада 2008**

Вітаю, Толя! Вось прыблізны спіс сяброў, якія мяркуюць быць у Пінску: пінчане Павал Ляхновіч, Алена Ігнацюк, з Лунінеччыны — Сцяпан Нефідовіч, Віктар Філатаў, Мікола Ільючык і, магчыма, Вадзім Жылко. Заўтра дашлю яго і на імя Рагачука. Сёння я не заспела яго ў кабінеце.

Сама не прыеду, калі змагу, павітаю праз Цябе, дашлю сваё слова на Твой электронны. Чула, што свята Янішчыц, магчыма, будзе не 20, а 21, каб і Канстанцін Сумар, кіраўнік нашай вобласці, меў мажлівасць прысутнічаць.

Азывайся. Н. М.

**5 лістапада 2008**

Прывітанне, мілая Ніна Язэпаўна!

Усё, бачыце, ніяк не магу своечасова адказаць. Даруйце.

Спіс Вы зрабілі, як я зразумеў, толькі суседзяў і тых, хто ў Пінску. А берасцейцаў? Хаця я сам не ведаю, як павінна быць. Але падумаў, што хочуць жа хто і з берасцейцаў быць, і з іншых аддаленых рэгіёнаў. Калі Вы праз мяне перадасце вітанак, то дзякуй — гэта гонар для мяне. Сапраўды, Канстанцін Андрэевіч выказаў жаданне ўручаць прэміі, таму перанёс мерапрыемства на 21 лістапада. Мяне гэта бясконца радуе. Гэта ўвага ўлады заслужана, дарэчы, паважанай усёй творчай інтэлігенцыяй, не толькі намі, пісьменнікамі. Хутчэй за ўсё свята расцягнецца на два дні: 20-га — на радзіме Янішчыц, а 21-га — у Палескім драмтэатры.

З цеплынёю А. К.

**9 лістапада 2008**

Парадаваў,Толя!

Паведамі, калі ласка, распарадак дня (дзён), аб якой гадзіне што будзе. Калі знойдзецца транспарт, дык, магчыма, і я пад'еду ў Пінск на ўручэнне. Але гэта з тэорыі малаверагоднасці. Хоць адзін добры чалавек ужо амаль гатовы завезці. Пры ўмове, што ў той дзень не будзе нарады ў нашым райвыканкаме. Яшчэ перамовімся. Бо я таксама не ведаю, ці змогуць лунінчане пабыць у Велясніцы. Абавязкова паведамі час мерапрыемстваў. Бо сябры ж працуюць, трэба адпрошвацца. А чаму было не спланаваць і правесці ўсё ў адзін дзень — паўдня ў

**Даруйце, мілая Ніна Язэпаўна, што не паспеў адказаць на Ваш апошні ліст. Ён прыйшоў надвячоркам 18 снежня. Я адкрыў яго раніцай 19-га. Чытаў, яшчэ не ведаючы, што Вы... што адказваць Вам давядзецца на іншы, зусім іншы адрас**

Велясніцы, а ў другой палове падвечар — у драмтэатры? Нейкі пацёмкінскі размах... Гуляць дык гуляць?.. Поспеху Табе і ўсяго жаданага! Н. М.

**18 снежня 2008**

Дзякуй, Толя, за ліст і за пяшчоту. Хоць Ты мяне часам і дрэнціш. Пры вылучэнні на прэмію ажно да самога факту ўганаравання не сказаў, каму і за што прысуджана (апроч непасрэдна нашага вылучэння «Трохперсця»). А цяпер, ведаю, што С. Грышкевіч рассылае па інстанцыях сваё абурэнне няправільным выбарам намінантаў ды іх твораў. Так што будзь гатовы трымаць абарону як старшыня Рады па прэміі імя Калесніка.

Навінаў не маю, апроч адной: учора выступала ў белаазёрскім каледжы на прэзентацыі анталогіі беларускага перакладу. Былі яшчэ пісьменнікі з Мінска. Вельмі файная сустрэча адбылася!

Ну, шчаслівa! Няхай не даймае мярзотнае надвор'е! Н. М.

* * *

На гэтым лісце Ніны Язэпаўны наша перапіска абарвалася. Хіба што з тым працягам, які вынесены ў пачатак публікацыі. Ён, той працяг, быў апублікаваны як развітальны, і ў слове **адзіннае**, у гэтым ёмкім наватворы Ніны Мацяш, была выкінута адна літара «н». Хоць «Маладосць» няхай паставіцца да гэтага такога натуральнага, зразумелага і сэнсава каштоўнага наватвора з разуменнем і беражлівасцю. Давайце сапраўды быць адзіннымі, гэта значыць, згуртаванымі, адзіным цэлым беларускім арганізмам.

Настасся СІДОРКА

# ЖЫЦЦЁВАЙ ПРОЗЫ ВЕЧНАЯ ПАЭЗІЯ



***Насця Сідорка нарадзілася 13 чэрвеня 1997 года ў Брэсце. У двухгадовым узросце з бацькамі пераехала ў Жабінку, дзе сёння жыве і вучыцца ў ліцэі. Сябра літаратурнай студыі «Вестка» пры Жабінкаўскай раённай дзіцячай бібліятэцы. Аўтар паэтычнага зборніка «Пялёсткі». Перакананая, што вершы — гэта 99 % працы і толькі 1 % таленту.***

**ЧАКАННЕ**

Старая хата ў аканіцах сініх.
Шарэюць вокны, мытыя даўно.
Шаснаццаць год чакала маці сына,
Забранага афганскаю вайной.

Ад ветру хусткай захінала плечы,
Выходзіла на сцежку кожны дзень.
Як заўважала постаці сустрэчных,
Уздрыгвала: мо гэта сын ідзе?

Чакала летам, сумнаю зімою,
Чакала ў спёкі час, у дождж і снег.
Чакала — ціша зменіцца хадою
І зноўку загучыць юначы смех.

Дзе ж ён цяпер? І з кім? Мо адзінокі?
Дзе сын яе, сыночак дарагі?
Сустрэць бы зноўку позірк сінявокі,
Іскрысты, як блакітных рэк сцягі.

З-за плота пазіраюць рэшткі саду…
І больш няма… няма каму чакаць…
Але, як людзі, памятае хата —
Па маці з сынам будзе сумаваць.

* * *

Вы пачуйце, як плёскае плёс,
Лёгка-лёгка люляе лілеі!
Песню ціхую ветрык панёс,
І яна ўсё мацнее, дужэе.

Вось яе падхапіла рака,
Закруціла ў абуджаных хвалях,
Зазвінела яна ў лазняках,
Травы, краскі, жыты ўсхвалявала.

Загучалі лясы і палі:
Гукі, фарбы, матывы якія!
Песню чуеце роднай зямлі?
З ёю блізкія песні людскія.

**СЭРЦА**

Пыл і спёка. Гасцінец стары
Між палёў парыжэлых віецца.
Навалілася важка на кій,
Ледзьве цягнецца нечае сэрца.

Хто пакінуў яго на шляху,
Баязліва спустошыў хто грудзі,
Бы цяжар непатрэбны зваліў?
Падбяруць, каму схочацца, людзі.

Так лягчэй узляцець над зямлёй,
Над будзённым жыццём і турботай.
Што яму да вось гэтых палёў,
Парыжэлых ад смагі і поту!

Цвёрды. Дужы. Халодны. Чужы.
Абыходзіць надзьмута сустрэчных…
Колькі ж іх на гасцінцы старым,
Непахісных, глухіх, бессардэчных?

* * *

Апрануліся вішні ва ўборы бялявыя,
І прырода звініць, ажывае яна.
Усміхаюцца промням сасонкі
смуглявыя —
Навакол бярэ ўладу красуня-вясна.

Нібы нізкі блакіт, ззяе возера чыстае,
Птушак спевы трымцяць
у паветры льняным,
Неба ў далечы — нібы люстэрка
празрыстае,
У якое глядзяцца крылатыя дні.

Думкі-мроі танцуюць
з пялёсткамі свежымі,
Кветкі першыя шчыра вітаюць мяне,
Ва ўсім чую юнацтва
крыштальна-бязмежнае…
Як люблю гэты час у маёй старане!

* * *

Той час, што ў памяці гарыць
Святлом яскрава-залацістым,
Што смехам сонечным звініць,
Завецца цёпла так —
дзя-ці-і-нствам…

* * *

О свет! Цябе нітуе  адваротнае.
Зімы і лета дзіўная інверсія.
Усмешка і сляза. Чужое й роднае.
Жыццёвай прозы вечная паэзія!



*Настасся НАРЭЙКА*

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



***Настасся Нарэйка нарадзілася 28 кастрычніка 1986 года ў Маладзечне. Па адукацыі журналістка, працуе ў рэдакцыі газеты «Навіны Камянеччыны». Друкавалася ў «ЛіМе», «Полымі», «Маладосці» і іншых выданнях. У мінулагоднім «берасцейскім» нумары выступала як паэт, сёлета ж прапанавала чытачам «Маладосці» празаічныя спробы.***

**БЕЛАЯ СУКЕНКА**

Дзядулю было 90 гадоў. І апошнія пяць з іх ён пражыў адзін у старой вясковай хаце, якую сам пабудаваў калісьці для любімай жонкі Лідачкі. Тысячу разоў сын прасіў бацьку пераехаць у горад да сям'і, да ўнучкі, але адказ заставаўся заўсёды нязменным: «Не магу я, Віця. Тут маці твая. Тут кожная рэч пра яе нагадвае: ці то гэты кошык для рукадзелля, — яго далонь пяшчотна краналася клубочкаў усіх колераў вясёлкі, — ці то гэтая кніжка з кулінарнымі рэцэптамі, ці вось гэты драўляны грабеньчык, якім я расчэсваў колісь яе доўгія валасы…» Вочы старога вільгатнелі, і Віктар адступаў, пераставаў угаворваць бацьку. Яны абдымаліся на развітанне, і серабрыстая машына павольна выязджала на прасёлкавую дарогу (ехаць хутчэй перашкаджалі слёзы).

Жонка з дачкой сустракалі Віктара на парозе і па змучаным твары чыталі ўсё. Дваццацігадовая Ніна моўчкі брала бацьку за руку і, як дзіця, вяла на кухню, дзе чакаў чай. Яны сядзелі за круглым сталом і глядзелі на чацвёрты свабодны стул.

— Я з'езджу да дзядулі.

Віктар здрыгануўся, калі ўпэўнены голас дачкі прагучаў у аглушальнай цішыні.

— Цябе адвезці?

— Не, дзякуй. Я сама…

* * *

У аўтобусе Ніна села ля акна і абедзвюма рукамі абняла сваю сумку, з якой так смачна і спакушальна пахла піражкамі. Бабуля… Памяць вяртала ў шчаслівую пару дзяцінства, калі кожнае лета было суцэльным святам, бо праходзіла яно ў вёсцы. Тут так соладка спалася на мяккай падушцы, навалачку для якой вышывала бабуля, тут так ахвотна елася раніцой, бо ніхто не ўмеў пячы такіх блінцоў, як бабуля, тут так цікава праходзілі вечары, калі цёплай пуховай хусткай ахіналі чароўныя казкі, безліч якіх ведала бабуля.

Ніна ледзь чутна ўсхліпнула і хутка перавяла позірк на тонкія дрэўцы, што беглі за акном аўтобуса, каб ніхто не ўбачыў слёз. Першыя клейкія лісцікі толькі-толькі з'яўляліся на іх. Вясна… Так называлася і дзядулева вёска. Ніна здалёк прачытала прыгожую назву на шыльдзе прыпынка і лёгка саскочыла з прыступкі аўтобуса.

Дзядуля быў у садзе. Ён радасна памахаў унучцы і рукой паказаў ёй, каб ішла ў хату. Там за піражкамі і чаем з самавара яны доўга гаварылі пра ўсё на свеце, пазбягаючы толькі адной, самай хвалюючай тэмы. Дзядуля нагадаў пра яе сам:

— Ну што, Ніначка, зноў будзеш у горад клікаць?

Яна схамянулася на імгненне, а потым прамовіла:

— Буду.

Дзядуля ўсміхнуўся, устаў з-за стала і са словамі: «Глядзі, што пакажу» накіраваўся да буфета. Праз хвіліну на стале перад Нінай ляжала невялікая чорна-белая фатаграфія, а на ёй…

— Гэта Лідачка. Ёй тут столькі ж, колькі табе цяпер. Я з гэтым фотаздымкам усю вайну прайшоў, насіў ля сэрца, таму і не закранула яго варожая куля.

Ніна глядзела на тоненькую дзяўчыну з доўгай касой у белай сукенцы і не магла гаварыць, не магла думаць.

— Вы вельмі падобныя, — усміхнуўся ўнучцы дзядуля.

— Вельмі…

— Я чалавек ужо немалады, Ніначка. Пяць гадоў без яе жыву і не жыву. Чакаю. Я павінен быць тут, калі яна прыйдзе па мяне. Ты даруй, і бацькі няхай даруюць.

— Не трэба, дзядуля.

* * *

На самым пачатку чэрвеня з Вясны прыйшла тэлеграма: «Дзед Алёша паміpae». Тры словы. Коратка і ясна. Тэлефонаў у вёсцы не было, таму тым жа вечарам, калі даведаліся, яны паехалі да дзядулі.

У хаце мітусілася суседка цётка Арына, якая і прыслала тэлеграму.

— Як ён?

— Аей-аей…

Стрымліваючы слёзы, Віктар, Алена і Ніна ўвайшлі ў пакой хворага. Дзядуля ляжаў ля акна, а на тумбачцы стаяла, прыхінуўшыся да адной з бутэлечак лекаў, знаёмая фатаграфія.

— Прыехалі, дзеткі…

Словы з хрыпам выціскаліся з яго грудзей.

— Час мне, дзеткі, у дарогу.

Віктар учапіўся рукамі ў спінку старога крэсла.

— Вы жывіце шчасліва. І я хутка шчаслівы буду. З Лідачкай. Кліча яна мяне.

Ніна моўчкі ўтыкнулася лбом у матуліна плячо.

…Доктар так і не патлумачыў ім нічога, кінуў толькі: «Дні са два засталося».

* * *

Вечарам, калі дзядуля заснуў, Ніна на дыбачках увайшла ў яго пакой, асцярожна, каб не бразнуць нічым, узяла з тумбачкі фотаздымак, накіравалася да дзвярэй.

— Ніна? — тата, які змяніў маці ля ложка дзядулі, здзіўлена зірнуў на дачку.

— Дзядуля будзе жыць, — ціха, але ўпэўнена адказала яна.

* * *

Цётка Марыя, якую Ніна ведала даўно, абшывала літаральна ўсю Вясну. Яна ўважліва выслухала аповед дзяўчыны і, падумаўшы імгненне, кіўнула. У шафе сярод мноства адрэзаў тканіны знайшоўся і неабходны, белы, як снег. Швачка хутка накідала на паперы эскіз сукенкі, і разам яны ўзяліся за справу. Меркі, раскрой, стракатанне машынкі… У Ніны дрыжалі рукі, і цётка Марыя колькі разоў пяшчотна гладзіла яе па доўгіх валасах. У шэсць гадзін раніцы ўсё было гатова.

На парозе яны абняліся.

— Ідзі, дачушка.

Ніна кіўнула, давячыся слязамі, і пабегла назад. Да грудзей яна прыцiскала лёгкі скрутак з сукенкай, у белых складках якой ляжала фатаграфія.

* * *

Дзядуля спаў. Тата ўскінуў на Ніну чырвоныя ад слёз вочы.

— Як? — аднымі вуснамі спытала яна.

— Лепш.

— Дзякуй Богу!

Ніна ціхенька вярнула фотаздымак на месца і схавалася ў суседнім пакоі. Маці ўсё ўжо зразумела і асцярожна ўзяла пакунак з рук дачкі.

Сукенка была якраз. Ніна спынілася перад вялікім круглым люстэркам і скаланулася зноў, як тады. Маці запляла ёй касу, перакінула наперад, як на фатаграфіі.

У гэты момант рыпнулі дзверы.

— Пара, — Віктар усміхнуўся праз слёзы, пазіраючы на дачку.

Ніна бязгучна падышла да дзядулевага ложка, прысела на край і мякка дакранулася да слабой рукі хворага.

— Алёша…

Стомленыя, яшчэ сонныя вочы павольна расплюшчыліся.

— Ліда…

Дзядуля прамовіў гэта імя так шчасліва, што страх, які вісеў у паветры, рассеяўся.

— Ты прыйшла па мяне.

— Не, — Ніна адмоўна пахітала галавой. — Я прыйшла прасіць, каб ты застаўся тут, Алёша. Ты патрэбны ім.

— Але…

— Ты патрэбны ім.

— Так… — ён пацягнуўся і лёгка пацалаваў яе руку. — Як скажаш.

Прамовіўшы гэта, дзядуля праваліўся ў сон. Ён прачнуўся ў наступны раз ужо не такім слабым і прамовіў з усмешкай:

— Віця, мне снілася Ліда. Яна сказала, што я павінен застацца з вамі. Я ёй абяцаў.

Чатыры ўсмешкі зацямнілі сабой сонца.

**БАЧЫЦЬ БОГА…**

Іх хутар называўся вельмі прыгожа і напеўна — Журавінка. Відаць, з тае прычыны, што на балоце, праз якое ехалі, каб патрапіць у бліжэйшую вёску, шмат было гэтых ягад. Падымеш адну чырвоную «пацерку», і пацягнуцца за ёй на тонкай нітачцы наступныя.

Верачка ведала, што журавіны чырвоныя, хоць бабуля Зоя ніколі не гаварыла пра гэта сваёй сляпой ад нараджэння ўнучцы. Журавіны чырвоныя… Неба блакітнае… А снег белы… Той самы, што кружыўся цяпер за акном.

Узімку іх маленькі хутарок быў амаль адрэзаны ад навакольнага свету, асабліва, калі моцна снежыла. Удзень унучка з бабуляй гаспадарылі па хаце, а вечарамі ўзлазілі на печ, дзе ўжо грэўся шэры каток па мянушцы Барсік, і вязалі цёплыя шкарпэткі. Дакладней, вязала бабуля, а Верачка трымала абедзвюмя рукамі непаслухмяны клубок, які то спрабаваў скаціцца з печы, то выпадкова трапляў у кіпцюры Барсіка — шукай яго тады! За працай бабуля любіла распавядаць казкі, дадаючы сёе-тое ад сябе. Асабліва падабалася Верачцы тая, у якой гаварылася пра нараджэнне маленькага хлопчыка Ісуса Хрыста. «Гэта самая добрая казка на свеце, — шэптам, нібыта нехта мог падслухаць, гаварыла бабуля, — бо ў ёй — чыстая праўда».

Верачка ведала, што ў кутку, дзе свеціцца адзінокім вокам газнічка, вісіць стары абразок, на якім намаляваны Бог. «Ён увесь у белым, так, бабулька? — у каторы раз пыталася дзяўчынка. — І валасы ў яго светлыя, і вочы чыстыя-чыстыя, дзіцячыя. Ён усё-ўсё бачыць. Праўда, бабулька?» — «Праўда».

Ад усяго Божага свету аддзяляла іх хутар непралазнае балота, і ўвесь свет Божы быў у іх хацінцы.

Аднойчы вечарам, калі завіруха завывала зусім па-разбойніцку, на хутары Журавінка з'явіўся госць.

— Нехта грукае ў дзверы, бабулька! — Верачка першай пачула незнаёмы гук.

— Дзе там! Табе падалося!

— Не. Я чую…

Бабуля Зоя паслухмяна ўстала з зэдліка. Ведала: Верачка сапраўды магла пачуць ледзь улоўны гук у аглушальнай сімфоніі завірухі.

Чалавек на парозе нагадваў белы цень…

Госця адразу ж распранулі, пасадзілі ля гарачай печкі, налілі ў кубак чаю. Мужчына спачатку маўчаў, сурова зводзячы бровы, а потым, калі сагрэўся і перасталі ляскатаць зубы, выціснуў усмешку:

— Дзякуй.

Бабуля Зоя адразу адчула няшчырасць у сухім, цяжкім слове, але нічога не сказала.

— І як вы жывяце ў гэткім балоце? — злосна запытаў госць. — Ды яшчэ з дзіцем?

— Людзі паўсюль жывуць, — адказала бабуля і ўстрывожана зірнула на ўнучку: ці не спужалася? Верачка сядзела ля маленькага акенца, расшытага белымі ніткамі марозу, і спакойна «глядзела» на госця. Бабуля гатова была паклясціся, што дзяўчынка чытае душу гэтага чалавека.

Незнаёмец, між тым, працягваў выказваць сваё абурэнне:

— Папярэджвалі ж мяне: не едзь у гэтыя Васілевічы! Не едзь! Не, не паслухаўся. І трэба ж было мне, п'янаму, дарогі гэтыя пераблытаць, у балота забрысці! Добра, што вашая халупа на шляху трапілася!

Бабуля хацела было запярэчыць, але тут ад акна пачуўся роўны голас Верачкі:

— Гэта наш дом.

Госць імгненна ўтаропіўся на дзяўчынку.

— Памаўчала б ты, дзіця балот!

Ён непрыемна засмяяўся, задаволены трапным сваім словазлучэннем.

— Ды як вы можаце? — бабуля рэзка ўскочыла. — Дзіця хоць не чапайце! І так ёй за жыццё хапіла!

— Што, сіраціначка?

Дзяўчынка сядзела без адзінага руху.

— Я сляпая.

Верачкіны словы камянямі загрукаталі па падлозе.

Некалькі імгненняў незнаёмец маўчаў, а потым усміхнуўся так з'едліва, што бабуля парадавалася слепаце ўнучкі.

— Бедненькая! Свету белага не бачыш, — ва ўвесь голас загалёкаў ён, — неба блакітненькага не бачыш, сонейка залаценькага не бачыш, аблокаў беленькіх…

Мужчына ледзьве не плакаў, заломваючы рукі, але бабуля ведала, што гэта толькі спектакль, гульня, за якой — насмешка. Трэба было нешта рабіць, неяк спыніць гэтага вар'ята, але…

— Я бачу Бога.

Верачка прамовіла гэтыя словы шэптам, але яны імгненна спынілі госця, прымусілі сціхнуць. Цішыня ажно звінела.

Мужчына ўсхапіўся так рэзка, што кубак ад гарбаты зваліўся са стала і разбіўся. Ужо на парозе, апрануўшы паліто, ён азірнуўся і, буркнуўшы «даруйце», знік.

Бабуля хутка перахрысцілася, нібыта злы дух вылецеў з хаты.

— Верачка…

Нешта трэба было гаварыць, але што? Што?!

У кутку асцярожна цікаў гадзіннік.

Дзяўчынка павольна адвяла позірк ад замерзлага акна.

— Ён жа знойдзе дарогу ў Васілевічы? Праўда, бабулька?..



*Марыя Кобец*

# ДОЖДЖ НАСЦЁБВАЎ, БІЎ У ПАРАСОН



***Марыя Кобец нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна. Скончыла Пінскае медвучылішча, цяпер навучаецца на 3-м курсе Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі», лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка. Любіць дождж, цішыню і адзіноту.***

* * *

Засяваю наноўку раллю.
Які раз… Але ўсё ж заахвочана,
Удабраю, лелею, палю —
Ураджаем сваім заклапочана.

І зярняткі пяшчотна ў зямлю
Рассяваю рукою жаночаю.
Хоць і ведаю, што не ўзнаўлю
Даланёй з мазалём, з крываточынай.

І, мажліва, тым самым цвялю
Тых, хто топча пасеў мой узрошчаны.
Засяваю наноўку раллю
Пустазеллю на зайздрасць з узбочыны.

* * *

Крылатым — неба і зеніт,
І ў спіну — вецер спадарожны.
Бяскрылым — часам, свет агід
У момант той, калі зняможны.

Калі ён птушкаю ў сіло
Патрапіў і амаль знясілеў…
Крылаты ж зноў сваё крыло
Спрабуе на вышэйшай ніве.

І на бяскрылага наўрад
Ці ён калі ўжо ўвагу зверне —
Пад небам шчасця і дабра
Не прарасце спагады зерне.

* * *

Магутны Бог, ці ж чуеш Ты,
Што я з Табой вяду размову?..

Сваё шапочуць чараты,
Адвечны звон свой шлюць дубровы.

І ў ціхай споведзі сваёй
Матулі долу гнуць галовы
За лёс дзяцей сваіх з мальбой
Абараніць у час суровы.

К Табе, наш Ойча, з веку ў век,
У звыклы будзень і на свята
Звяртаўся ў горы чалавек,
А ў шчасці — дзякаваў заўзята.

І толькі Ты, Магутны Бог,
Запальваў мне святло надзеі
І ў час, калі я занямог,
І ў момант здрады «дабрадзеяў».

К Табе іду — не збіць бы ног
І не паддацца б на спакусы,
І выбраць з тысячы дарог —
Адзіную між «землятрусаў».

І ўсё ж прашу між нематы:
«Не адрачыся ж у знямозе!».
Бо, пэўна, веру — чуеш Ты,
І не пакінеш на дарозе.

* * *

Дождж насцёбваў, біў у парасон,
Што ад ветру паслухмяна гнуўся,
Засякаў на мокрае крысо
І спадаў, і да зямлі імкнуўся.

Ты пайшоў. А я не веру… Сон.
Гэта сон, і хутка я прачнуся.
Ты пайшоў, і сэрцы ва ўнісон
Больш не б’юцца —
свет перавярнуўся.

Словы — прыкрасць, вострае лязо.
Розумам з адчаю б не крануцца.
Ты пайшоў. А я не веру… Сон.
Толькі сон. Ды сіл няма прачнуцца.

Дождж захліствоў, рваў мой парасон.
Роспач… Хоць бы ў ёй не захлынуцца.
Ты пайшоў, каб не застацца зноў.
Ты пайшоў…
Каб болей не вярнуцца.



*Ганна АСІПУК*

# SOS

*Апавяданне*

Чатыры дні, як ЯНА не чула ЯГО голасу. Сама забараніла ЯМУ званіць. Гледзячы па ўсім, ЁН ад гэтага толькі ўзрадаваўся. Цяпер у ЯГО поўная воля, нават тэлефон не давядзецца адключаць! Ніхто не будзе назаляць абавязковымі званкамі, маралямі, рэўнасцю, бо цяпер ЁН для ўсіх і… ні для каго. А мо і нейкай іншай кралі? Той, што з метро, напрыклад. Дужа спадабалася ЯМУ.

Учора сабрала ў пакет і схавала ў далёкі куток шафы ўсё, што нагадвала пра ЯГО: паштоўкі з прызнаннямі, кнігі, цацачнага ката, кубачак для гарбаты, ксеракопію пашпарта (была патрэбна для ЗАГСа), пустыя каробачкі ад заручальнага пярсцёнка і завушніц (іх яна вярнула адразу). Менавіта гэтыя каробачкі былі самым балючым этапам. Дотык да іх прыносіў не толькі маральны, але і фізічны боль, адчуванне агіды і здрады. Усё. Скончана… Заўтра пачнецца новае жыццё — БЕЗ ЯГО.

Балюча… Горкі камяк у горле. Калі б цяпер пазваніў і паклікаў — пабегла б, БО ЎСЁ ДАРАВАЛА. Сёння з’явілася спадзяванне, што чалавек не можа вось так, у адзін момант, закрэсліць гады пачуццяў. «Не верыцца. Не можа каханне так хутка памерці!» — крычала нямым крыкам ЯЕ сэрца.

Як апантаная, цэлы дзень правярала тэлефон (раптам званіў, калі выходзіла?), нібы заклінала яго высвеціць дарагое імя.

Не… Не пазвоніць і не напіша *СМС*ку, нават не зойдзе на ЯЕ старонку УКантакце, бо баіцца. Баіцца ўласнага сумлення, якое ЁН так паспяхова пачаў вытраўляць. Мне шкада ЯГО. Шкада, што ЁН ніколі не будзе шчаслівы, што прынясе боль многім жанчынам. У ІМ так шмат зла. Нейкага бясконцага зла на ўвесь свет. ЯНА думала, што зможа перамагчы гэтае зло, але Гасподзь палічыў інакш. На ўсё Воля Яго. ЯНА — не змагла. Не прабіла браню каменнага сэрца.

Дык чаго ж чакаць?

Цяпер кожны ЯЕ ранак пачынаецца адным і тым жа ўспамінам. Ім жа заканчваецца і вечар, калі ЯНА, абяссіленая ўласным душэўным болем, пачынае сніць бязглуздыя сны ў стылі постмадэрну. Колькі ні імкнулася змагацца з памяццю — не атрымліваецца. Як фонавы малюнак рабочага стала, вісіць перад вачыма сцэна з



***Ганна Асіпук (Сенькавец) нарадзілася 4 жніўня 1988 года ў вёсцы Белавуша Столінскага раёна. Працуе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў СШ № 5 г. Брэста. Захапляецца беларускім словам і імкнецца захапіць ім сваіх вучняў. Марыць, каб беларуская гаворка стала мовай яе сям’і.***

перона. Толькі, на жаль, змяніць застаўку не выходзіць. Як да болю знаёмы трэк Kato, у галаве пракручваецца IX апошні дыялог, нібы яго нехта паставіў на паўтор і пайшоў па сваіх справах.

— Ведаеш, што самае страшнае?.. Тое, што я разумею: так мяне кахаць больш ніхто не будзе ніколі ў жыцці, і сам, дабравольна і свядома, адпрэчваю цябе, — гаварыў ЁН, не гледзячы ЁЙ у вочы.

Пасля было маўчанне. У ЯЕ — напоўненае нейкай надзеяй, што ўсё можа змяніцца. У ЯГО — жаданнем хутчэй з гэтым скончыць і пачаць новае жыццё БЕЗ ЯЕ.

— Мне будзе вельмі цяжка... Я прывыкла клапаціцца пра цябе, чакаць цябе. Я не магу спаць, калі не ведаю ці ўсё добра з табой. Давядзецца балюча адвыкаць, — з нейкім спадзяваннем, хоць і кволым, сказала ЯНА.

Да апошняй хвіліны ЯНА чакала, што замест лютасці і суцэльнай нянавісці ў ЯГО вачах засвецяцца ранейшыя цеплыня і каханне. Чакала, што чалавек зразумее сваю страшэнную памылку, бо не ўяўляла жыцця БЕЗ ЯГО. Лічыла ЯГО сваім працягам, праўдзівей, СЯБЕ — ЯГО працягам. Навучылася кахаць без параўнання і была ад гэтага бязмежна шчаслівай. Уяўляла ў сваіх марах сумесную шчаслівую старасць. Была гатовая жыццё пражыць на здымнай кватэры, абы з ІМ. Згаджалася на ўсё, бо разумела, што ЯМУ патрэбна моцная жанчына, якая была б ЯГО тылам.

Толькі ЁН лічыў інакш…

— З рэстаранам разбірайцеся самі. Я пазваню фатографу і ў ЗАГС, адмяню ўсё, — з надрывам у голасе прамовіла ЯНА. Моцна хацелася плакаць, але ЯНА трымалася — ЯНА Ж МОЦНАЯ!

Доўгае маўчанне. Кроў ажно ў вушах пульсуе. Тысячы адчайных думак праносяцца ў галаве вокамгненна. Адчай. Нямы адчай… Ніхто не абароніць. Ніхто не хоча зразумець ЯЕ. Хутчэй дадому. Закрыцца ў пакоі і стаць слабай, плакаць моцна-моцна, аж пакуль слёзы не скончацца.

— Ідзі ўжо. Я дачакаюся цягніка сама. Табе ж дадому далёка дабірацца, ты стаміўся за дзень — адпачывай. Даруй, што ноччу не давала табе спаць. Усё ўжо сказана… — з пачуццём бязмежнай стомы выціснула ЯНА словы.

Не пайшоў. Зацята маўчаў, толькі напружана рухаліся сківіцы. Проста стаяў і глядзеў пад ногі на выстылы за дзень брук перона, час ад часу пераводзячы на ЯЕ злы і бязлітасны погляд. Глядзеў шклянымі вачыма звера. Вецер злосна біў ЁЙ у твар калючымі сакавіцкімі сняжынкамі-іголкамі, нібы імкнуўся дадаць болю.

Прыбыў цягнік.

— Пазвані мне, як дабярэшся, — ЁН паспрабаваў сказаць звычайным тонам, здаецца, і цеплыні крыху напусціў.

— Не. Не пазваню. І ты гэта ведаеш.

Зацятае сухое маўчанне. Трымценне напружаных нерваў. ЁН быў падаўся крыху насустрач, зварухнуў рукой, нібы меўся зрабіць нешта звыклае, але ўстрымаўся ў апошні момант.

— Можна я цябе абдыму?..

— Нельга. Навошта, каб зрабіць мне балючай? — а ЁЙ хацелася забыцца на ўсё і кінуцца, моцна абняць і крычаць, што не пусціць, не аддасць нікому. Неймаверная сіла цягнула да ЯГО няголенай шчакі. Але…

Крута развярнуліся і разышліся назаўсёды, нават не азірнуўшыся. ЯНА — у цягнік на Брэст, ЁН — у абдымкі мільённага горада, дзе ЯГО чакае шмат іншых жанчын.

— Госпадзі, памілуй. На ўсё Воля Твая! — шапталі ЯЕ вусны на верхняй паліцы вагона № 6. А слёзы настырна засцілі вочы, цяклі ў вушы, па шыі, толькі ЁЙ было ўсё роўна. ЯЕ ЗАРАЗ НЕ БЫЛО… Засталася на мінскім пероне ў дваццаць шостым сакавіка дзве тысячы дванаццатага года.

*Валерый КУХАРЧУК*

# І ГУТАРЫМ ПРА ФАЙНАЕ НАДВОР'Е



***Валерый Кухарчук нарадзіўся 23 чэрвеня 1961 года ў Карагандзінскай вобласці. Па адукацыі журналіст. Кіраўнік Іванаўскага раённага літаб'яднання «Ясельда». Друкаваўся ў зборніках «Дзень паэзіі», «Анталогія беларускай пародыі», «Берасцейскія карані», «Дзядзінец», «Добрыя словы кажыце», «Белой вежи свет», у часопісах «Першацвет» і «Маладосць», тыднёвіку «ЛіМ».***

## ПА ЧАРОМХУ

Чаромхавы спецыяліст
паэт
Гетманчук Валодзя
у госці мяне запрасіў
пад шаты вясновага гаю
ля роднае вёскі Шчакоцк.
А ехаць на ўлонне нельга
маторам траскучым, смуродным,
каб не патрывожыць птушак.
І нам скарацiў дарогу
памочнік-веласіпед.
І вершы ўвесь дзень гучалі
у пахкім чаромхавым дыме.
А потым суседка спытала:
«Ну, дзе вашы кветкі вясновыя?»
Дзівачка!
Панюхай, яны — гэта мы.

* * *

Грахі — як гракі,
чорныя.
З'яўляюцца ранняй вясною.
Увосень жырує крумкач.
А хочацца слухаць
заўжды жаўрука.

## З МІКОЛАМ ФЕДЗЮКОВІЧАМ

Як у студэнцтве калісьці,
еду ў сталіцу,
каб атрымаць залікі,
засвоіўшы за ноч
асновы навуковага камунізму,
палітэканоміі
і тэорыі журналістыкі.
А найперш,
каб пабачыць Настаўніка

і перадаць яму
нізку вершаў,
якую літкансультант «Чырвонкі»,
магчыма,
скарыстае ў друку
ці прачытае па радыё.
Мікола сустракае
на прыпынку тралейбуса
ля гастранома.
Купляем бульбяныя клёцкі,
пляшку гарэлкі
і батон з малаком
для старэнькай Міколавай мамы.
Вецер шматляе палу
куртатага Міколавага плашча,
здзекуецца над яго
каўбойскім капелюшом.
Маўчым,
пакуль пяшкуем да Грушаўкі.
Мікола знікае ў вантробе
шэра-зялёнага пад'езда.
Ды то ж не ягоны дом!
Але Мікола кліча.
І я спяшаюся следам,
каб не згубіцца.
Бетонны лесвічны гармонік
раптам трансфармуецца
ў пажарную драбіну.
Я чапляюся за яе арматурыны
і не адводжу вачэй
ад матляння палы
куртатага Міколавага плашча.
Зверху спускаецца
шэрая здань.
Як разысціся,
каб не зваліцца
ў бездань пражэрлівай шахты?
Але Мікола кліча.
І мы размінаемся са зданню.
Нарэшце ўслед за Міколам
я выбіраюся на святло,
на асфальтаваны дах
гэтага дзіўнага дома.
Горад адсюль невідзён.
Але тут гуляюць дзеці,
ветліва бліскае сонца.
Толькі дзе яна ўрэшце,
Міколава кватэра?
Мы спыняемся зноўку
ля падэшвы срамкой надбудовы.
Мікола звыкла
караскаецца ўверх
па вяровачнай лесвіцы.
І які гэта ёлуп
даў паэту
такое жытло?
Я спрабую лезці,
але зрываюся.
Мікола знікае
ў промнях зіхоткага сонца.
Не, павінен жа быць
нармальны ўваход,
калі тут жывуць людзі!
Іду пашукаць
па ліпкім асфальце
бязмежнага даху.
З-за павароткі страчае
вясковая хатка.
За ёю — яшчэ і яшчэ…
Ля кожнай — паленіцы дроў.
Цікава, адкуль жа і як
прыдбалі іх гаспадары?
А вось і яны,
занятыя кожны сваім.
Ратай каля плуга,
нявеста ў карункавым вэлюме…
Мабыць, і тут гуляюць вяселлі.
А мо гэта Гутава роднае
з сабой прыхапіў Мікола
разам з хвораю мамай
у гмах паднябеснага горада?..
Яшчэ я чужы ў гэтым свеце.
І Мікола не кліча больш.
Яму тут, відаць,
ужо не адзінока.
…У роспачы прачынаюся.
Сёння ўгодкі Міколавай смерці.

* * *

***Памяці Мікалая Еляне́ўскага***
***пісьменніка, рэдактара,***
***ветэрана афганскай вайны***

Адгрымелі кабульскія ночы,
Нават болей не вернуцца ў сны.
Не ўратуе таварыша покліч,
Што вярнуў ацалелым з вайны.

Толькі ў кнігах стократ адзавецца
Твой спрадвечна галоўны герой —
Трапяткое пісьменніка сэрца,
Журналісцкай душы неспакой.

* * *

Зноў з цягнікам, сваім надзейным гідам,
Хістаюся у лязгаце дарог.
Якія зноў паўстануць краявіды,
Які гасцінны стрэнецца парог?

Ад позірку гарэзы-паляшучкі
Хмялее без напою галава.
Як не паддацца на такія «штучкі»,
Калі вясна і рунь на паплавах?

І гутарым пра файнае надвор'е,
Пра цёплыя грыбныя капяжы,
Якія ураджаі на падвор'ях
Намераны цяперака нажыць.

І сыдзе прыгажуня на паўстанку,
А мне яшчэ да станцыі «кляваць».
Вітаць забавы травеньскага ранку.
І шчырасць землякоў успамінаць.

* * *

У кактуса калючы нораў.
Учэпістасцю калюхоў
ён помсціць за пакуты
жыцця на падаконні.
І толькі калі многа
гадоў мінае шэрых,
успыхвае імгненна
ён кветкаю пунсовай,
адзінаю за ўсё жыццё.
Як быццам бы праз шыбіну
ўсмактаў акраец сонца.

* * *

Далёкая самотная жанчына
(пісаць з такой бы воблікі мадон)
гатуе каву і гадуе сына
і паважае нораваў закон.

Няблізкі заклапочаны мужчына
(прэстыж, кар'ера, тлусты кашалёк)
за півам бавіць час і пад машынай
і пестуе сямейны свой раёк.

А ім бы хоць на трошачкі сустрэцца.
А ім бы ў неагляднасць — з галавой...
Сумуюць два разлучаныя сэрцы
і тахкаюць то ў такт, то ў разнабой...

* * *

Па-над Прыпяццю шчупакі
прыкусілі свае языкі
у смяротных абдымках сілкоў.
Іх трымае нахабны дзяцюк,
па «тысёнцы» спускаючы з рук
падарожнікам легкавікоў.
А пад мостам — імклівая плынь.
Ці нектар там, ці горкі палын
з азярын і скупых ручаёў?
А над плынню з палескіх балот,
дзе згарае апошні чарот, —
сінь дымоў.

* * *

Саспела рэха.
Гукнула і зноў адгукнулася.
І растала,
але не знікла.
Яно жыве
вунь у той лагчынцы,
што пад ранішнім сонцам
паруе,
у кроне далёкага
дуба-асілка,
на воблаку гушкаецца
і на хвалях,
што плёскат свой
сцішылі нават.
А можа, і я не знікну
ніколі,
пакуль хоць дзесьці
будзе жыць мой голас?

**КРУГАВАРОТ**

Адгукаецца сэрца
на кожнай былінкі ківок.
Баклажаны і перцы
праз шыбіну мкнуцца да сонца.
Парніковым эфектам
усцешыўся пан-агурок.
Зноў жыццё пачынае
свой кругаварот бясконцы.

Адыходзіць не страшна,
а боязна болей не быць.
Спелым водарам траўя
душу не спатоліць ніколі.
За чарговым павевам
дымы адплывуць у нябыт.
Вецер прысак развее
ад гурбы ўчарашняга голля.

**НЕЗНАЁМКА**

Пад бэзавым пазногцем —
томік Блока.
Радзімінка ў спляценні
сонца-слёзаў,
што сэрданькам нырае
аж пад сэрца.
І позірк
адрачона-ўмілёны
ў хістанне бляску
паначоўкі-электрычкі.

**ПАВОДКА НА ПАЛЕССІ**

Вясна.
Вясло.
Спацелы акуляр
намацаў касабокую буслянку.
Няма бусла,
не кружыць над сялом.
Напэўна,
падхапіў
«птушыны грып».

* * *

Лысее хлеў...
Труха і пыл.
Сыплецца долу
дранка старая...
І я паспеў пражыць яе век.
Ладзілі разам з дзядулем.
Я ўнізе —
падаваў смаляныя дошчачкі.
Зараз унізе дзядуля...
Кладуцца радамі
сумныя хвалі
«вечнага» шыферу.

**ЛЯ ПОМНІКА
НАПАЛЕОНУ ОРДУ**

Дзве беластволыя сяброўкі
лісты губляюць і знаходзяць.
Мінае час, няўмольны час.
І толькі з бронзавым алоўкам
вандроўнік вечны пры дарозе
вітае нас.

Але ён позірк не адводзіць
ад той адзінае старонкі,
куды б пакрочыў напрасткі.
На медным аркушы выводзіць
абрысы роднага маёнтка,
дзе нібы шчэ жывуць бацькі.

Ад Варацэвіч у Еўропу
знарок выгнанніцаю стала
яго бунтарская душа.
Ды адзіноту і самоту
святая творчасць лекавала,
яе абшар.

І паланэзы, і мазуркі,
санат чароўныя акорды —
нібы вясновы першацвет.
Былой славутасці малюнкі
з рукі Напалеона Орды
палоняць свет.

А над прыціхлым пастаментам
то сонцазвон, то вецер грае,
шумяць залеўныя дажджы.
З вясельным схіліцца букетам
тут часта пара маладая
і памаўчыць.

Марыя ЛЯШУК

# НАВЕЛЫ



**Марыя Ляшук нарадзілася 27 верасня 1955 года ў вёсцы Табулкі на Піншчыне. Журналістка, выдатнік друку, уладальніца «Залатога пяра». Друкавалася ў часопісах «Нёман», «Гаспадыня», «Алеся», калектыўным альманаху «Гоман», рэспубліканскіх і абласных газетах. «Маладосці» прапануе навелы пра жаночыя лёсы і адданасць пачуццям.**

## ЗІМА НА ДВАІХ

— Ты прыйшла! Госпадзі! Я ж вельмі хацеў цябе бачыць, але не верыў, што прыйдзеш. Як жа я рады гэтаму!

— Ты ляжы, табе нельга паднімацца — разыдуцца швы. І хваляваца таксама нельга.

— Не веру вачам сваім! Колькі ж мы не бачыліся? Колькі?!

— Многа. Толькі ты супакойся, бо доктар будзе незадаволены, калі табе стане горш.

— Мне — горш?! Лепей мне ніколі яшчэ не было… Я думаў пра цябе, калі ішоў пад нож. І баяўся, што не прачнуся, не паспею павініцца, папрасіць прабачэння.

— Не трэба пра гэта… Хоць бы сёння… Табе хвалявацца нельга.

— Менавіта цяпер — і ні днём пазней… Якая лёгкая і далікатная твая рука! Не прымай яе з галавы. І другую дай у мае рукі. Дзякуй… Я дзякую Усявышняму за гэтую сустрэчу, за магчымасць сказаць усё, што столькі гадоў трывожыць сэрца. За тое, што, нарэшце, магу сказаць табе: «Прабач!»… Ты памятаеш нашу апошнюю сустрэчу?

— Так.

— Ішоў такі ж снег, як цяпер за акном. Ты памятаеш?

— Я памятаю ўсё.

— Я прыйшоў тады па тваім званку раздражнёны, гаварыў дзёрзкасці і прыспешваў гутарку.

— Прашу цябе, не трэба пра гэта…

— Не, трэба. Ты павінна мяне выслухаць… Ты была тады такой прыгожай! Гэта я потым, праз шмат гадоў, вяртаючыся ў той зімовы дзень, прыгадваў тваю заснежаную шапачку і такое ж футра. І вочы твае, напоўненыя болем…

— Прашу, не трэба…

— …Прабач, я павінен сказаць усё. Паспець сказаць усё… Але я тады спяшаўся. Да іншай. Потым яшчэ былі сяброўкі. І яшчэ. Не да ўспамінаў пра цябе, наіўную сельскую дзяўчынку. Але часам ты ўсё ж прыходзіла ў мае сны. Ды толькі раніцай я адмахваўся ад іх, імкнучыся забыць як мага хутчэй. Іншыя жанчыны былі на гарызонце… Не-не, не аднімай, калі ласка,

рук. Яны нібы здымаюць боль… Дзякуй… Дык вось. Жыццё сваё я напаўняў задавальненнямі. Апамятаўся, што трэба ажаніцца, калі пераваліла за трыццаць. Аднак не ладзілася ні ў адной маёй сям'і, хоць тройчы прадпрымаў спробы. Ды і дзяцей не завёў — спачатку сам не хацеў, потым не жадалі іх мае жонкі. Ім, як аказалася, патрэбны былі толькі грошы. А яны пры маёй пасадзе былі немалымі.

— Мне шкада цябе.

— Не трэба шкадаваць, бо нават гэтага я не заслугоўваю.

— Не дакарай сябе. Час змыў усе мае крыўды.

— Але я сам не прабачыў сябе дагэтуль. Хутка пяцьдзясят будзе, а нібы цяпер ты перада мной — у заснежанай шапачцы і такім жа футры. І сёння ты таксама ў белым. Халат і шапачка табе да твару.

— Дзякуй.

— Ты не спяшаешся? Працэдуры без цябе зробяць?

— Я папрасіла іншых медсястрычак.

— Дзякуй. Якія ж далікатныя ў цябе рукі!.. Як калісьці, у дні нашых сустрэч. Праз шмат гадоў я ўспамінаў іх і прасіў Бога дапамагчы ўбачыцца з табой яшчэ раз, каб вымаліць прабачэнне. Наіўная дзяўчынка, ты даверылася мне цалкам, а я падмануў твае надзеі, сапсаваў жыццё. Калі ўбачыў цябе ў аперацыйнай, чамусьці паверыў, што Бог не дасць мне сысці без гэтай споведзі.

— Аднак мне пара… Ты будзеш жыць. Хірург упэўнены ў гэтым. А ён спецыяліст высокага класа. Ты абавязаны жыць.

— Я вельмі хачу гэтага. Асабліва цяпер… Але… Скажы мне, скажы, пра што ты хацела пагаварыць са мной тады, у нашу апошнюю сустрэчу? Які боль утойвалі твае вочы?

— Навошта варушыць мінулае?

— Скажы, вельмі прашу.

— Я чакала дзіця.

— ?!

— Тваё дзіця.

— Божа міласэрны!.. У мяне!? Дзіця!? Якое шчасце! Але… Ты… Ты… не пазбавілася ад яго?

— Я занадта кахала цябе, каб пайсці на такі грэх.

— І… дзе яно?

— Ты сапраўды хочаш ведаць гэта?

— Больш за жыццё!

— Твой сын учора зрабіў табе аперацыю.

## ВІШНЁВАЯ ЗАВЕЯ

Сярожа ўпершыню адпраўляўся ў такую доўгую дарогу адзін. Ён даўно марыў пра гэту паездку — з таго самага часу, калі ўсвядоміў сябе досыць дарослым. І чым больш пярэчыла паездцы маці, тым больш прагнуў яе сын. І тая, нарэшце, змірылася. Яна б і сама птушкай пералётнай накіравалася ў тыя краі, дзе спазнала і вялікае каханне, і бязмерны смутак. Аднак не ўсякае жаданне можна выканаць. І прычыны на тое розныя.

…Атрымаўшы пасля заканчэння педвучылішча накіраванне ў сельскую школу, Алёна ўспрыняла гэта як належнае. Юнай настаўніцы рамантычнымі бачыліся тыя тры абавязковыя гады, якія ёй трэба адпрацаваць у глыбінцы. Ведаць бы

наперад, што чакае ў новым жыцці, магчыма, апярэдзіла б падзеі, папрасілася б у іншую школу. А можа, наадварот, усімі сіламі імкнулася б сюды, у гэтае ўтульнае паселішча, якое за кароткі тэрмін стала самым жаданым і дарагім.

Зрэшты, загадваць наперад не было неабходнасці. І жнівеньскім днём з'явілася Алёна ў кабінеце дырэктара школы. Падцягнуты, атлетычнага целаскладу, з мужным тварам трыццацігадовы кіраўнік навучальнай установы быў у меру абыходлівы і ветлівы, вёў гутарку карэктна, на роўных, не дэманструючы паблажкі старэйшага і па пасадзе, і па ўзросце. Ён запытаўся, дзе спынілася Алёна, і, даведаўшыся, што гэта пакуль адкрытае пытанне, парэкамендаваў жыллё недалёка ад школы.

Разгубіўшыся спачатку, Алёна хутка асвоілася і трымалася спакойна і ўпэўнена. Запунсавелася ад сарамлівасці толькі тады, калі ўжо ў дзвярах, мімаволі азірнулася і злавіла на сабе зацікаўлены погляд яго вачэй.

Яе сэрца раптам салодка зачасціла, засланяючы розум. Аднак яна пакуль гэтаму не надала значэння. Гэта пазней яго пякучыя пільныя погляды, якія ён, зрэшты, ніколі не дазваляў сабе ў прысутнасці іншых, выдавалі буру пачуццяў. Сяргей пры калегах ставіўся да Алёны роўна і добразычліва, стрымліваючы сябе і тады, калі даводзілася знаходзіцца ўдваіх. Алёна здагадвалася пра ўсё і пакутавала сама ад безвыходнасці. Яна таксама кахала моўчкі, па-майстэрску хаваючы сваю пяшчоту, якой поўнілася ейная душа, бо разумела бесперспектыўнасць адносін паміж сабою і Сяргеем. Ён быў жанаты, і жонка яго працавала тут жа, двое хлопчыкаў падрастала ў іх сям'і. Нягледзячы на маладыя гады, Алёна адмыслова ставілася да шлюбу, лічыла яго непарушным. Яна спрабавала пазбавіцца ад безразважнасці, што нахлынула на яе, адшукваючы ва ўчынках Сяргея негатыў, і не знаходзіла яго. Школа была на добрым рахунку ў раёне, яе кіраўнік умела вёў працу, заахвочваючы калег на пошук новых, прагрэсіўных форм навучання. Да іх ехалі за вопытам, пра іх пахвальна пісала прэса.

Бурыць тое, што стваралася калектыўнай працай, ставячы на першае месца свае асабістыя інтарэсы, Алёна лічыла злачынным. Яна імкнулася як мага радзей трапляцца на вочы дырэктару. Здавалася, ён прыняў такі манеўр падначаленай з разуменнем і падзякай.

Набліжаліся зімовыя канікулы. Гаспадыня, у якой кватаравала Алёна, вырашыла пагасцяваць на Новы год і Каляды ў дзяцей у абласным цэнтры. Алёна адгукнулася на яе просьбу прыглядзець за жыўнасцю, а клопатамі па гаспадарцы спадзявалася адцягнуць сябе ад дакучлівых думак пра Сяргея.

Зімовае змярканне рана ахутвае прамерзлую зямлю. Зачыніўшыся, Алёна села за праверку сшыткаў. Нечаканы асцярожны стук у дзверы не спалохаў. Яна чакала яго і баялася. Можна было праігнараваць і тады… Яна не хацела думаць, што будзе тады, і рашуча пайшла да дзвярэй, добра ведаючы, хто знаходзіцца за імі. І не адапхнула, не абурылася, калі Сяргей у апантаным парыве закруціў яе ў сваіх абдымках…

Ён прыходзіў да яе кожны вечар да прыезду гаспадыні хаты і сыходзіў па-вар'яцку шчаслівы, але засмучаны тым, што не можа застацца даўжэй. Ахопленыя шквалам пачуццяў, ні ён, ні яна не хацелі загадваць на будучыню, бо розум паўтараў пра грэшнасць іх адносін. І перспектыва іх была далёка не вясёлкавай. На людзях яны дбайна выконвалі канспірацыю. Толькі жаночую душу не падманеш. І жонка Сяргея, прыемная і ласкавая жанчына, аднойчы папрасіла Алёну застацца ў настаўніцкай пасля сыходу ўсіх. Яна ўгаворвала Алёну з'ехаць, калі сапраўды тая кахае Сяргея. І не толькі таму, што ён жанаты. Прычына і ў працы, якою ён даражыць, і ў пасадзе. А яго пасада дасць магчымасць падняцца на больш высокую прыступку.

Жонка Сяргея гаварыла спакойна і пераканаўча. Сэрца Алёны, перапоўненае супярэчлівымі пачуццямі, эгаістычна пярэчыла і абуралася. Але розум падказваў, што гэта адзіна правільнае рашэнне.

Алёна з’ехала, не развітаўшыся з Сяргеем, ведаючы, што, убачыўшы яго, страціць рашучасць. З’ехала майскім днём, калі вішнёвыя завеі закружыліся над зямлёй, абсыпаючы яе пялёсткамі. Пакінула яму толькі запіску з просьбай звольніць і не шукаць. Душа разрывалася ад нуды і смутку, і толькі настойлівы стук маленькага сэрцайка пад яе сэрцам быў той саломінкай, якая ратавала ад безвыходнасці.

Алёна ні разу не дала знаць пра сябе Сяргею. Сына назвала імем адзіна дарагога ёй мужчыны і не звязала свой лёс ні з кім іншым.

Сярожку расказала ўсю праўду, калі ён стаў досыць дарослым. Ён не асудзіў маці, а толькі загарэўся жаданнем сустрэцца з бацькам. Алёна як магла адкладала гэтую паездку, не жадаючы адпускаць сына аднаго ў няблізкую дарогу. Але Сярожа быў настойлівы, і яна змірылася…

Алёна настолькі маляўніча расказвала сыну пра малую радзіму яго бацькі, што ён без цяжкасці арыентаваўся ў яе ціхіх вулачках. Ён ішоў, не спяшаючыся, у вішнёвай завеі, любуючыся духмянымі садамі. Яму патрэбен быў час, каб канчаткова настроіць сябе на такую жаданую сустрэчу.

У памяшканнях школы панавалі звыклы шум і ажыўленне. Без цяжкасці знайшоў ён і знаёмы па расказах маці кабінет дырэктара школы. Пераадолеўшы хваляванне, пагрукаў і адчыніў дзверы — высокі, падцягнуты, з мужным тварам і такімі ж карымі, як і ў гаспадара кабінета, вачамі. Застылы на імгненне ў нямым здзіўленні, той стаў павольна ўзнімацца насустрач.

Калегі, якія прысутнічалі ў кабінеце і з непрыхаванай цікаўнасцю назіралі за двума, як дзве кроплі вады, падобнымі мужчынамі, паспешліва пакінулі кабінет. Яны тут былі лішнімі.

— Добры дзень, бацька!..

## СМУТАК БЛАКІТНЫХ НЕЗАБУДАК

Ах, як кахала Вольга яго, свайго Рыгора!.. Зрэшты, называць яго сваім можна было з вялікай нацяжкай, бо меў ён жонку і сына. А яе, Вользіным, станавіўся толькі вечарамі, калі ўпотай ад людскіх вачэй сустракаліся яны на палявых дарогах ды сельскіх ускраінах.

То было грэшнае каханне, якое не мела перспектывы, паколькі ён не хацеў сыходзіць з сям’і, а яна не мела ніякіх надзей на гэта.

Але ім было добра ўдваіх, і з кожнай сустрэчай яна ўсё мацней прывязвалася да Рыгора. Ён стаў сонцам у яе акенцы.

Ах, як жа ўсё-такі яна яго кахала!.. Да такой ступені, што не звяртала ўвагі на людскія плёткі, асуджэнне родных, непрыманне строга бацькі і смутак маці. І гэта ў вёсцы, дзе ад цікаўных вачэй не схавацца. Там калі і асуджаюць, дык проста ў твар языкатыя кумачкі-галубачкі, не саромеючыся, скажуць. Паспрабуй запярэч і апраўдайся, калі ў табе ўжо грукае яшчэ адно маленькае сэрцайка.

Яна радавалася таму новаму жыццю, якое неўзабаве мелася даць. А Рыгор разгубіўся спачатку. Яму не хапіла духу прызнацца самому сабе, што гожая яго сэрцу гэтая высокая смуглянка. Што пакутуюць даўно ў разладдзі і ён, і яго жонка, таму і пацягнула да той, якая ўсю душу яму аддавала. Неаднойчы пасля чарговай спрэчкі парываўся ён сысці, толькі кожны раз наторкваўся на ўмольны погляд сына. Пераступіць праз яго давер так і не змог.

Другога сына падарыла яму смуглянка гарачым ліпеньскім днём. Свайго першынца яна назвала імем каханага.

Ён наведаў яе ў сельскай бальніцы на другі ж дзень і пад цікаўнымі поглядамі ад-

навяскоўцаў ніякавата працягнуў невялікі букецік незабудак. З таго самага іх лугу, шчодра абсыпанага гэтымі блакітнавокімі кветкамі, які захоўваў таямніцы іх сустрэч.

Малога Рыгор прызнаў і не саромеўся нават на людзях выяўляць да яго бацькоўскія пачуцці. Абодва яго сыны, народжаныя рознымі маці, былі дзіўна падобныя. Толькі Вольга ўсведамляла немагчымасць нешта змяніць і пабудаваць сваё шчасце на аскепках чужога, усю сваю любоў перанесла на сына. Іх сустрэчы з Рыгорам сталі рэдкімі, а потым і зусім спыніліся. Свой адчай ад безвыходнасці ён тапіў у кілішку, які аднойчы і прывёў да непапраўнага. Толькі гэтым няшчасці яго сям'і не скончыліся — фатальнай стала аўтапаездка і для яго жонкі. Іх сын у пошуках шчасця з'ехаў з вёскі. Бадыллем парасла некалі дагледжаная сядзіба.

Страта Рыгора балючай ранай жыла ў сэрцы Вольгі. Ні час, ні жыццёвыя клопаты не гасілі яе нуду і смутак па ім. Толькі сынок, яго дакладная копія, аблягчаў самотнае жыццё Вольгі. Ён быў яе адзінай радасцю і надзеяй на спакойную старасць…

…Бяда прыйшла ў яе хату нечакана. Здаравяк Грыша, які ніколі не хварэў і не скардзіўся на нядужанне, з вечара адчуў сябе дрэнна. Аднак выклікаць «хуткую» не дазволіў.

А раніцай было позна…

Вольга ператварылася ў цень. У чорнай вопратцы штодня раніцай і ўвечар ішла яна да свайго сына, падоўгу сядзела каля свежанасыпанай магілы, узіралася ў фотаздымак на жалезным крыжы.

Грышу пахавалі непадалёк ад яго бацькі, а таму Вольга заходзіла і да яго, і абодвум скардзілася на сваю адзіноту. Яна страціла сэнс існавання, ужо не было дзеля каго жыць і працаваць. І сваякі, і суседзі спрабавалі паразумець яе, аднак дарэмна.

На лузе Вольга рвала блакітнавокія незабудкі і несла іх сваім Рыгорам. Той раніцай яна спяшалася прыйсці да іх крыху раней — гэта быў дзень нараджэння сына. Звыкла паклаўшы букецік спачатку на магілу старэйшага, прыспешылася да малодшага і… ледзь не самлела: да болю знаёмая мужчынская фігура ў скрусе застыла каля апошняга прыстанку ейнага сыночка… Не, цуду не адбылося, з Вечнасці да жывых яшчэ ніхто не вяртаўся. Калі прайшло здранцвенне, Вольга нарэшце зразумела, хто апярэдзіў яе. Скрозь сваё гора яна з цяжкасцю ўспрымала сельскія навіны. І гэтую таксама ўсвядоміла абрыўкамі. Старэйшы сын яе Рыгора вярнуўся ў вёску, так і не ўладкаваўшы за ўсе гэтыя гады сваё жыццё. Пакуль што спыніўся ў далёкіх сваякоў. Толькі каму патрэбен лішні рот? І вось ён тут, каб ушанаваць памяць бацькі і брата.

Упершыню за столькі цяжкіх дзён на сэрцы Вольгі раптам пацяплела. Яна падышла да маладога мужчыны і моўчкі спынілася побач. Кожны нейкі час думаў пра сваё. А потым ён папрасіў расказаць яму ўсё пра яе Грышу.

Сонца пераваліла далёка за поўдзень, калі вярталіся яны ў вёску. Дужая мужчынская рука падтрымлівала яе спрацаваную, з выпуклымі венамі руку. Раптам на сэрцы з'явіўся і не знікаў камячок цяпла. На імгненне ёй здалося, што гора, якое здарылася ў яе жыцці, проста страшны сон. Да рэальнасці яе вярнуў сваёй песняй маленькі жаўрук, які нібы застыў над пажаўцелым уздоўж дарогі жытнім полем. Ах, як жа любіла яна сваіх Рыгораў!

— Пераходзь, сынок, да мяне. Пакой нашага малодшага свабодны. Навошта табе мучыцца аднаму? Бацька з братам ухвалілі б мяне, — Вольга прагаварыла гэта амаль скорагаворкай, апярэджваючы пярэчанні. І калі іх не пачула, з палёгкай уздыхнула.

З сінеючых нябёсаў лілася на разамлелую ад ліпеньскага сонца зямлю дзіўная песня жаўрука, як гімн усёпераможнага жыцця…

Мікола ПАЦЯЮК

# Я ЗАПЛЮШЧУ ВОЧЫ — ЯВА СНІЦЦА



***Мікола Пацяюк нарадзіўся 24 снежня 1938 года ў вёсцы Ляхаўцы Маларыцкага раёна. Скончыў факультэт рускай філалогіі Брэсцкага педінстытута. Працаваў настаўнікам у роднай Ляхавецкай школе. Аўтар паэтычных кніг «Мелодыя сэрца» (2007) і «З-пад буслінага крыла» (2011).***

## ПАКЛІЧ МЯНЕ, САПІЛКА

***Прысвячаецца штогадоваму святу паэзіі «Лісова пісня» на Ковельшчыне***

Пакліч мяне, сапілка, прычасціцца
Жывой вадзіцай з Лесінай крыніцы,
Прайсці ляснымі сцежкамі Валыні,
Святочны звон пачуць, што ад Скулыні
Плыве і сёння ў сінім паднябессі
Ў Калодзежнае да сядзібы Лесі.
А ўжо калі ў Нячымным заначуеш,
То, пэўна, чары Маўчыны адчуеш:
Аблашчыць, заварожыць, адурманіць.
Пакуль сапілка будзе сэрца раніць,
Адмые ўсе грахі, усе хваробы
У срэбных росах найвышэйшай пробы,
І толькі-толькі заснуецца ранне,
У чаратах ля возера ў тумане
Рассеецца — я ў гэтую хвіліну
На згадку валынянам верш пакіну.
Праз межы, праз адлегласць, праз гады
Пакліч мяне, сапілка, зноў сюды.

## АБ РОДНАЙ МОВЕ

От жа дажыліся мы, панове:
Не Канада тут і не Камбоджа,
А мяне на беларускай мове
Зразумець ужо не кожны можа.

Ды яшчэ і зыркне падазрона:
З мужыкоў ты ці з замежнай знаці.
Так і жыць мне белаю варонай,
Іншаземцам у бацькоўскай хаце?

Я, магчыма, ўжо і не здзіўлюся,
Калі ўгледжу неяк нечакана
Жорава, што ў небе Беларусі

Гарлапаніць зыкам пелікана.
…
Мы народам звацца права маем,
Покуль мова нацыі жывая!

## АСЕННЯЯ НЕПАГАДЗЬ

Гарызонт сасоннікам расчэсвае
Ветрам раскудлачаныя хмары,
Залівае лістапад яшчэ свае
Ўчора палымнелыя пажары.

За акном ні прабліску, ні просіні,
І не хутка, мабыць, праясніцца.
У абдымках мне б забыцца восені,
А заплюшчу вочы — ява сніцца.

## ВОДГУЛЛЕ ШКОЛЬНАГА ВАЛЬСА

Не зарастае школьная сцяжынка,
І не сатрэцца з памяці вясна,
Калі на вальс я запрасіў дзяўчынку —
Наташку з трэцяй парты ад акна.

І расцвіла, і распрастала плечы,
Бо для чаго ж тады з канца сяла
На памятны свой першы школьны вечар
Яна ў абутку маміным прыйшла.

Смялей, Наташка, ўсе мы не з эліты,
Мы ўсе тут ад сахі і бараны,
Адной нялёгкай доляю спавіты,
Народжаныя ў сполахах вайны.

Хіба ж не нам з табою да світанку,
Пакуль бары трывожным трызняць сном,
Нашэптвалі бярозы калыханку
Над партызанскім дымным буданом?

З тае пары… (паверыць нават цяжка,
Што так няўмольна шпарка час ідзе)
Вядзе да школы праўнука Наташка —
Наталля Аляксееўна — вядзе.

Дзіцячым роем верасень ўзарваўся,
На павуцінцы — першы жоўты ліст.
А мне той вальс далёкі прыгадаўся,
Што граў наш самадзейны гарманіст.

## КУПАЛЛЕ

Тонкі месяц спакойна гайдаўся ў затоне,
Асыпаліся знічкі, бы кроплі расы,
Разгараўся касцёр, пахлі мятай далоні,
І дурманам п’янілі твае валасы.

У ноч купальскую ранак імгненна прыходзіць:
Не паспее пагаснуць вуголле кастра,
Як пажарам ахопіць паўнеба на ўсходзе,
Што світальная раптам запаліць зара.

Колькі іх адпалала, купальскіх кастроў,
Адцвіла назаўжды наша папараць-кветка.
Мала нас засталося, даўнейшых сяброў,
Ды і з тымі цяпер сустракаемся рэдка.

Не пазнаць тых мясцін: перасохла крыніца,
Што ў лагчыну чысцюткай слязою цякла.
Хто б падумаў, што стане дзяржаўнай граніцай
Абмялелая рэчка на ўскрайку сяла?

*Валерый ГАПЕЕЎ*

# Я РАЗМАЛЮЮ ДЛЯ ЦЯБЕ НЕБА

## *Казка для дарослых дзяцей*



***Валерый Гапееў нарадзіўся 6 лютага 1963 года ў вёсцы Восава на Рагачоўшчыне. Працуе адказным сакратаром у рэдакцыі «Івацэвіцкага весніка». Перакананы, што дзіцячых праблем не існуе — ёсць праблемы ў дзяцей. «І яны перажываюцца імі настолькі ж балюча, як і мы перажываем свае». Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей і падлеткаў.***

**1**

Мама — гэта нешта вялікае, пяшчотна-цёплае, з лёгкай незразумелай журбінкай у голасе, гатовае ўсё прабачыць, выслухаць і зразумець. Гэта вялікае пастаянна ахутвае Жэньку, яму лёгка і ўтульна.

Тата — гэта нешта рэзка-вуглаватае, строгае і прамое, як іх дом, цвёрдае, халоднае. Яно заўсёды насцярожанае, гатовае паправіць, асудзіць і нават накрычаць.

А яшчэ ёсць кплівае, яхіднае, якое адно і чакае моманту, каб пакрыўдзіць і зняважыць — гэта Мікіта.

І яшчэ… Пра гэта Жэнька нікому не кажа, нават маме, хоць яна іншы раз спрабуе знайсці і зразумець сярод усіх яго пачуццяў ды адчуванняў і гэты маленькі пухнаты камячок чагосьці дрыготка-далікатнага, які хочацца схаваць ад усіх, абараніць, зрабіць нешта добрае-добрае, каб яму, камячку, стала весела і радасна.

Гэта калі Жэнька нікога не бачыць, а толькі адчувае.

А калі бачыць, тады мама — вельмі прыгожая жанчына. Жэнька ведае, чаму мама прыгожая: у яе добры генетычны патэнцыял — так усе кажуць. І таму ёй дазволілі нараджаць. Жэнька не разумее, што гэта такое, але яму і не трэба гэтага. Ён проста любіць глядзець на маму, але крадком. Празрыстае адзенне не хавае яе цела. Жэнька чамусьці бянтэжыцца гэтай адкрытасці, хоць мама толькі смяецца. А тата злуецца, кажа на Жэньку, што ён — мамчын сынок.

Тата — высокі і моцны мужчына. Калі Жэнька вырасце, ён павінен быць такім жа прыгожым, як мама, і дужым, як тата. Таму што ён — прадаўжальнік роду.

Праўда, яго трэба яшчэ выхаваць, як след, часта паўтарае тата. Інакш будзе дарма страчаны генетычны патэнцыял.

Калі Жэнька расплюшчвае вочы, тады той далікатны камячок становіцца проста Лінай. Дзяўчынкай з суседняга дома. Калі цямнее вялікае Сонца над галавой і Купал з белага становіцца шэрым, ён любіць глядзець на Ліну праз празрыстыя сцены іх дамоў. У Ліны пакой такі ж, як і ў Жэнькі, у тым жа куце дома. Толькі паміж імі пакой дарослых, і яны часта засланяюць сабой Ліну. Добра б

было, каб людзі, якія жывуць у празрыстых дамах і носяць празрыстую адзежу, самі рабіліся празрыстымі. Калі ты захочаш.

А Мікіта — гэта хлопчык з дома праз вуліцу. Яго таксама Жэнька часта бачыць. Як толькі Жэнька глядзіць туды, Мікіта тут жа крывіць твар і паказвае яму, Жэньку, нейкія незразумелыя жэсты. Мусіць, для яго не раз ужо гучаў званок. Хай яму будзе горш — бо калі часта звініць званок, тады ў цябе менш шанцаў стаць сапраўдным грамадзянінам Купала. Так кажа тата…

**2**

— …І тады лепшыя сыны нашага народа вырашылі абараніць сябе і сваіх дзяцей ад немінучай смерці: стварылі Вялікі Купал ды запалілі ў ім Сонца. І стаў Купал выратаваннем для іх, для ўсіх, хто верыў у Вялікі Шлях. А ўсё астатняе загінула ў страшнай Цемры. Тысячы людзей самааддана працуюць сёння, каб працягвалася жыццё — адзінае жыццё сярод Цемры. І вы ўсе, маленькія грамадзяне Купала, павінны расці і вучыцца, каб змяніць потым сваіх бацькоў, каб працягнуць вялікую справу жыцця…

Жэньку не цікава. Ён ужо ведае пра ўсё гэта, бо нешта расказвалі ў дзіцячым садку, а больш тлумачыў тата. Жэнька цяпер у школе. Ён адчувае спакой мамы за яго, тата зусім пра яго не думае, калі працуе. Вакол Жэнькі — толькі Ліна, Мікіта і строгі Настаўнік. Ліна побач — яе можна крануць рукой. Жэнька баіцца, што яна адчуе яго, ён з усёй моцы спрабуе стрымаць у сабе моцнае пачуццё пяшчоты да яе, якое ўспыхнула невядома з якой нагоды. І яна адчула, забылася на голас Настаўніка, паглядзела на Жэньку і ўсміхнулася. Жэнька адчуў кволую, асцярожную пяшчоту ў адказ. І ў тое ж імгненне ўсё запоўніла сабой злосць і пагроза — гэта Мікіта, ён сочыць, адчувае.

— Уважліва слухайце мяне! — грозна прамаўляе Настаўнік.

Зваротная пяшчота згасае, а злосць толькі ледзь прытухае…

Дрэнна, што ты не можаш адчуваць усяго Настаўніка, а толькі яго строгасць. Але нічога, яны хутка вырастуць. Калі ім споўніцца па 16 гадоў, то замест дзіцячага абруча на назе, надзенуць на рукі бранзалеты сапраўдных грамадзян. І тады Жэнька будзе адчуваць не толькі маму, тату і сваіх сяброў, але ўсіх-усіх жыхароў Купала. Усе іх пачуцці. І ўсе будуць адчуваць тваё. Тата кажа, што гэта завецца поўным уключэннем у адзінае эмацыйнае поле. І гэта вельмі добра калі ўсе людзі вакол адчуваюць адно аднаго. Тады нельга задумаць ліхое. Бо калі нехта задумае ліхое, Купал загіне.

...Дома Жэнька маляваў толькі алоўкамі: свой горад, увесь празрысты, з аднолькавых празрыстых дамоў-каробак. Маляваць горад было сумна, усюды аднолькавыя вуліцы разбіваюць яго на аднолькавыя кварталы. Тата кажа, што такое ўладкаванне горада аптымальнае. Што значыць — аптымальнае, Жэнька пакуль не разумее, але калі кажа тата — значыць, так трэба.

Аднастайныя кварталы з празрыстых дамоў дзеляцца на чатыры вялікія часткі. У адной жывуць рабочыя, у другой — службоўцы, у трэцяй — інжынеры, у чацвёртай — ахоўнікі і кіраўнікі. У цэнтры горада — велізарны белы пляц. Такі роўны і бліскучы, як сцены дамоў. Толькі ён не празрысты, а белы-белы. Пасярод пляца ўзвышаецца велічны будынак Кіравання Купалам — высокі прастакутнік чорнага колеру.

Гэта адзіны ў Купале будынак, дзе сцены не празрыстыя. Толькі ў гэтых сценах ёсць прамавугольныя праёмы — дзверы і вокны. Але і праз іх не відаць, што там, ўсярэдзіне. Таму што гэтыя праёмы не празрыстыя, а белыя.

Перад гэтым будынкам усё адчуваюць глыбокую павагу. У гэтым будынку працуюць і жывуць самыя разумныя грамадзяне Купала. Ад іх залежыць само Жыццё.

Жэнька павінен добра вучыцца, бо яго генетычны патэнцыял падыходзіць для кіраўніка. Так кажа тата.

Невялікі пляц ёсць у кожным асобным квартале. Пасярод яго — вялікі празрысты дом з прасторнымі заламі — гэта Сталоўкі. Сюды ўсе прыходзяць два разы на дзень атрымліваць сваю порцыю Жыццёвай сілы.

…Сёння на ўроку малявалі фарбамі. Настаўнік павесіў на сцяне вялікі малюнак: гэта Першы Кіраўнік Купала, яго партрэты вісяць у кожным доме, толькі там яны невялікія.

— Вы павінны паспрабаваць намаляваць партрэт Вялікага Першага Кіраўніка, — даў заданне Настаўнік. — Галоўнае: дамагайцеся дакладнай перадачы мужнасці і розуму на яго твары, да дакладнага падабенства не імкніцеся.

Жэнька стараўся. У яго ўсё атрымлівалася: фарбы роўна клаліся на шурпаты ліст. Набіраючы чарговы раз фарбу, ён адчуў выбліск нянавісці. Азірнуўся і ўбачыў злы погляд Мікіты. І ўсё зразумеў: у Мікіты на аркушы былі нейкія брудныя плямы. Хлапчукі неадрыўна глядзелі ў вочы адно аднаго некалькі імгненняў, а потым нечакана Мікіта піхнуў руку Жэнькі з заціснутым пэндзлем.

Пэндзлем Жэнька мазануў па празрыстым стале.

Мікіта зласліва засмяяўся — не ўслых, вядома.

«Чаму яму не звініць званок?» — разгублена падумаў Жэнька, гледзячы на пляму фарбы на сваім стале, — «Учынак Мікіты няправільны ж?» Але новая думка раптам завалодала ім. Ён не мог пакуль яшчэ зразумець усяго сэнсу яе, але думка забілася ў галаве нечаканым адкрыццём: фарба…

— Што ты такі ўзбуджаны сёння? — спытала мама, калі вярнулася з працы і яны разам з усімі ішлі ў Сталоўку. — У цябе ўсё атрымалася ў школе?

— Так, мама, усё атрымалася, — адказаў Жэнька. — Мне спадабалася маляваць фарбамі. Я магу імі маляваць дома?

— Я спытаю Настаўніка, ці можна табе фарбы дадому, — паабяцала мама. — Думаю, табе дазволяць, калі твой малюнак быў удалым.

— Мой малюнак быў лепшым, — без гонару адказаў Жэнька.

Мусіць, мама вырашыла, што Жэнька ўзбуджаны менавіта з-за поспехаў у маляванні.

**3**

— А кім ты хочаш стаць?

— Мая мама рабочая, а тата — інжынер, — адказала Ліна. — Яны хочуць, каб я вырасла і стала вучоным інжынерам. А ты кім будзеш?

— Не ведаю, — пацiснуў плячыма Жэнька. — Тата кажа, што я павінен стаць кіраўніком.

— Ты станеш рабочым і будзеш працаваць у шахце! — пачуўся рэзкі выкрык.

Гэта Мікіта нечакана апынуўся перад Лінай і Жэнькам, якія стаялі, трымаючы адно аднаго за руку.

— І адыдзі ад яе! — з пагрозай дадаў Мікіта. — Яна — мая будучая жонка. Мы падыходзім па генах — так сказаў мне тата, а ён працуе ў сектары Шлюбаў!

— Ідзі сам адсюль! — адчайна, але са страхам, вымавіла Ліна. — Мама казала, што мне прызначаць мужа, калі мы станем дарослымі.

— Маўчы і хадзі сюды, — Мікіта схапіў дзяўчынку за руку і пацягнуў да сабе.

— Адпусці яе! — Жэнька сціснуў свае кулачкі.

— Хлюпік! Пайшоў вон! Яна — мая!

Што здарылася і як гэта здарылася — Жэнька і сам не зразумеў. Але ў наступны момант яго сціснуты кулак урэзаўся ў вусны Мікіты.

І тут жа зазвінеў званок, другі, потым тата паслаў свой выбліск гнеўнага асуджэння, захвалявалася мама.

А Мікіта стаяў і ўсміхаўся:

— Атрымаў два званкі? Ты яшчэ не тое атрымаеш! Я табе пакажу…

Але Ліну ён адпусціў, і дзяўчынка са страхам і жалем глядзела на Жэньку: атрымаць два званкі, такіх гучных і працяглых за адзін дзень — гэта страшна.

— Ты ўсё зразумеў? — перад дзецьмі паўстаў Настаўнік.

— Так, Настаўнік, — адказаў Жэнька.

— Табе засталося тры званкі. Пасля іх ты будзеш выгнаны са школы. І гэта значыць, што тваё месца — шахты Далёкай Мяжы.

— Я ведаю гэта, Настаўнік…

...Тата крычаў. Вельмі злосна і доўга. Мама маўчала. Жэнька адчуваў яе жаль, страх і яшчэ нейкае дзіўнае, незразумелае, ледзь улоўнае пачуццё. Гэта было падобна да ціхай радасці.

…Фарбы мама прынесла праз тры дні, бо Жэньку дазволілі дома маляваць партрэт Першага Кіраўніка. Ён спяшаўся ў той дзень дадому, не застаўся гуляць у двары школы. Толькі папрасіў Ліну, каб яна потым прыйшла да яго.

Мама і тата, вядома, адчуваюць яго хваляванне. Ну і што, хай… Ён будзе маляваць…

Жэнька ўсе гэтыя гадзіны памятаў той момант, як пад мазком пэндзля празрысты стол у класе перастаў быць празрыстым. Гэта так проста і так нечакана: фарба зрабіла празрыстае — каляровым. І не празрыстым…

Ён расставіў на сваім стале фарбы, потым прыцягнуў стул. І стаў маляваць. Жэнька маляваў акно. Яго вельмі проста маляваць: трэба толькі зафарбаваць усё астатняе, што не акно. І ў першую чаргу — тую сцяну, за якой яму крывіць твар Мікіта. Тут акно будзе вельмі маленькае, каб толькі ледзь-ледзь бачыць вуліцу. Акно вялікае будзе там, дзе Ліна. А ў сцяне, што дзеліць яго пакой з пакоем дарослых, акна не будзе: Жэнька не хоча бачыць, як мілуюцца мама і тата.

Закончылася сіняя фарба, ён адчыніў зялёную, потым памаранцавую і блакітную, жоўтую і чорную. Якой незвычайнай рабілася сцяна! Як раптам утульна стала ў яго пакойчыку, хай і не было ў ім дзвярэй, толькі тры сцяны, хай была празрыстая столь!

Жэнька не зразумеў, чаму не званок зазвінеў, а завыла сірэна. Менавіта яму, ён адчуў гэта.

А потым перад домам пачуўся шум — гэта пад’ехалі ахоўнікі ў шлемах. Яны ў разгубленасці спыніліся перад іх будынкам і глядзелі на амаль не празрыстыя featured рознакаляровыя сцены Жэнькінага пакоя. Потым з’явілася мама, тата, а з імі нейкі дзіўны чалавек з абручом на галаве. Па тым, як яго баяліся, Жэнька зразумеў, што гэта — нехта з кіраўнікоў.

Жэнька стаяў пасярод свайго пакоя з рознакаляровымі сценамі і намаляванымі вокнамі ды разгублена ўсміхаўся: калі яны так здзіўлены яго адкрыццём, чаму ж не радуюцца? Няўжо не бачаць, як цудоўна будзе, калі сцены ўсіх дамоў у горадзе размаляваць у розныя колеры?

Чаму так спалохалася мама? Чаму гатовы ўзарвацца ад злосці і адчаю бацька? Чаму тата крычыць, каб ён станавіўся ў кут і глядзеў сабе пад ногі? І навошта ў дом

цягнуць агідны доўгі шланг… Чаму ліецца вада? Чаму так зацята маўчыць мама, а ў іх доме гаспадараць чужыя людзі?

Сцены пакоя адмылі вартаўнікі дома і яны ізноў зазіхацелі сваёй празрыстасцю.

— ...Навошта ты гэта зрабіў, сынок?

— Што ты нянчышся з ім! — не стаў далей стрымліваць сваю злосць бацька. — Ты падчас цяжарнасці атрымала два папярэджанні за свае сюсюканні! Табе забаранілі нараджаць другое дзіця з-за твайго залішняга мацярынскага інстынкту! Ты сапсавала яго сваёй ласкай! Ён павінен расці мужчынам, а ты!..

— Навошта ты гэта зрабіў, сынок, — усё гэтак жа далікатна, нібы не чуючы крыку бацькі, перапытала мама.

— Я хацеў тут пацалаваць Ліну, — прызнаўся Жэнька.

— Дурненькі, — з палёгкай засмяялася мама. — Але ж яе можна пацалаваць пры ўсіх. Мы ж казалі табе, што ніхто не хавае сваіх пачуццяў. Ты хочаш пацалаваць дзяўчынку? Пацалуй яе. Які сэнс хаваць дзеянні, калі ўсе мы адчуваем адно аднаго, калі нам вядомы пачуцці іншых?

— Ну і хай адчуваюць... Я не хачу пры ўсіх… Я хачу, каб толькі яна і я, — Жэнька амаль плакаў. Чаму мама не разумее яго!?

— Гэтага нельга! Ты разумееш — нельга! — чаканячы кожнае слова, строга загаварыў бацька. — У нашым грамадстве ўсе ўсё робяць адкрыта, пры ўсіх. Таму што мы — адзінае цэлае. Мы — Купал. Мы — адзіны народ. Наша грамадства — незвычайна датклівы арганізм з-за сваіх памераў. Кожнаму з нас вядома ўсё пра ўсіх: пачуцці і справы. І толькі дзякуючы гэтаму мы жывём, дзякуючы гэтаму выжылі. Ты з-за сваёй неразумнасці здзейсніў адно з самых страшных злачынстваў — утойванне! За гэта караюць адным: Трубой Смерці.

Мама здрыганулася.

— Не, не, што ты кажаш, ён жа зусім дзіця!

— Заўтра Кіраўнікі вынесуць сваё рашэнне! — цвёрда адказаў бацька.

Мама раптам напружылася, адказала хоць і ціха, але так цвёрда, што бацька разгублена прымоўк:

— Я не аддам сына!

— Яго ніхто не забірае, — нарэшце хмыкнуў ён. — Але тое, што яму не быць сярод кіраўнікоў — факт! Яшчэ што выкіне — і пойдзе на Далёкую Мяжу. Рабочым! У шахту!

Жэнька ведаў, што такое Далёкая Мяжа — яе можна ўбачыць, калі залезці на плоскі дах дома. Там дымяць трубы бо здабываюць вугаль і нафту, высяцца чорныя горы. Там шмат рабочых. Сярод іх ёсць асобная група — злачынцы. Яны правініліся перад горадам, і таму жывуць там, пазбаўленыя права заводзіць сям'ю і мець дзяцей.

**4**

Жэнька ведаў і пра Трубу Смерці. Яна вельмі далёка, але іх аднойчы вазілі туды, каб паказаць, бо ўсе грамадзяне Купала, нават самыя маленькія, павінны ўсё ведаць.

Гэта было адно з тых месцаў, дзе заканчваўся Купал. Труба і была трубой — тунэль па той бок Купала. Туды, у вечную Цемру, адпраўлялі памерлых. А яшчэ — самых старых жыхароў горада, калі тыя не паміралі ў час. Бо гораду няма

куды расці, таму Кіраўнікам трэба строга сачыць, каб у горадзе заўсёды была роўная колькасць жыхароў. Калі хтосьці са старых не паміраў да нараджэння чарговага дзіцяці, яго ўсё адно адпраўлялі за Купал. Гэта сурова, але так трэба.

А яшчэ ў Цемру адпраўлялі самых небяспечных злачынцаў. Гэта тых, хто займаўся ўтойваннем. Бацька казаў, што калісьці даўно такія існавалі. Але ўжо шмат гадоў як грамадства цалкам ачысцілася ад такой брыдоты. І вось — Жэнька вырашыў зрабіць непразрыстымі сцены свайго пакоя...

Але назаўтра Жэнька адчуў сярод сваіх пакаранняў толькі тыя два званкі за сутычку з Мікітам. Бацька вельмі радаваўся, і мама была побач, толькі чамусьці старанна хавала лёгкую незразумелую трывогу.

Труба Смерці… Чаму Жэньку так цягнула да яе, ён не мог зразумець. Першы раз, калі пабачыў, нешта ўнутры яго тузанулася, быццам гэтае нешта пабачыла знаёмае, прывіталася… Ды не сама труба, празрыстая, як і ўсё пад Купалам, вабіла… Там, унізе, дзе труба заходзіла пад Купал, калыхалася чорнае полымя. Яно здавалася жывым, заварожвала сваімі павольнымі рухамі і быццам чакала нечага зверху, запрашала…

Хоць, як казалі, гэта Цемра імкнецца сюды, ды канструкцыя Трубы, узнятая на вышыню пад вуглом, перашкаджае, не пускае.

Бацька расказваў, што напачатку трубы не мелася — быў просты тунэль, і жыхарам Купала даводзілася часта мяняць заслонку, бо Цемра адтуль раз’ядала яе. Тады вучоныя прыдумалі спосаб і высока ўзнялі трубу. А Цемра не можа ўздымацца ўверх. І яшчэ Цемра спрабуе прабіцца побач з Трубой — вось таму высока і шырока вакол Трубы з гэтага боку Купал пакрыты спецыяльнымі панэлямі з вельмі моцнага матэрыялу. Гэтыя пліты не празрыстыя, яны чорныя… Як і тая Цемра.

...У той дзень пісалі вялікую Кантрольную Работу па гісторыі Купала. Жэнька напісаў яе вельмі хутка, бо столькі ж ведаў! Ён надакучваў бацьку па вечарах сваімі пытаннямі. І цяпер без роздуму запісваў, як шмат гадоў таму Першы Кіраўнік іх народа загадаў вучоным будаваць Купал, бо з усіх бакоў пачала набліжацца Цемра. Вучоныя нястомна працавалі многія гады, але паспелі пабудаваць Купал і запаліць у ім Сонца. Праўда, адбылося непапраўнае: Сонца ўспыхнула з сілай, большай за разлічаную, і ўсе вучоныя тады загінулі. І ніхто не ведае, як працуюць Купал і Сонца.

Але гэта ўжо няважна сёння: Купал стаў непранікальны для Цемры, Сонца свяціла па зададзеным раскладзе. І вось на працягу многіх стагоддзяў Купал і Сонца ў ім падтрымліваюцца аўтаматычнай устаноўкай, якая распрацавана тымі вучонымі. Устаноўка глыбока ўнізе, пад Домам Кіравання. У той устаноўцы — бяспека і жыццё Купала…

Жэнька запісваў, ледзь паспяваў за думкамі. Хваляваўся, каб не забыцца напісаць пра што-небудзь такое, пра што не расказваў Настаўнік, затое прыгадваў бацька. Напрыклад пра тое, як у першыя гады дзейнасці Купала Першы Кіраўнік ледзь не загінуў ад рук ворагаў, якія пад выглядам простых грамадзян выпрасілі сабе тут жыццё. Усіх ворагаў потым адлавілі, іх аказалася вельмі многа, і выкінулі ў Цемру праз Трубу Смерці.

А яшчэ трэба напісаць пра Рэвалюцыю Свядомасці, калі жыхары Купала вырашылі жыць адкрыта і нічога не ўтойваць. Тады сталі будаваць празрыстыя дамы і насіць празрыстае адзенне. І вельмі важна напісаць, як Галоўны намеснік Першага Кіраўніка прыдумаў эмацыйнае поле — і цяпер ніхто не зможа крадком ад іншых задумаць нешта дрэннае…

Як можна задумаць нешта дрэннае супраць Купала, Жэнька не разумеў. Тут жа так проста і добра жыць…

Настаўнік заўважыў, што некалькі хвілін Жэнька сядзіць без справы, узяў яго работу, пабачыў, што яна ўжо зроблена і дазволіў ісці дадому! Такое правіла на Вялікай Кантрольнай.

І вуліца, і дом былі пустымі. Глядзець тэлевізар не хацелася. Тое ўзбуджэнне, якое апанавала Жэньку падчас напісання Вялікай Кантрольнай, не адпускала. Яму хацелася яшчэ больш судакрануцца з гісторыяй Купала, хацелася даведацца яшчэ пра нешта. Але ў каго спытаць? Бацькі дома няма, усе кнігі, што знаходзяцца ў доме, ім даўно перачытаны па некалькі разоў. І Жэнька выйшаў на вуліцу — пайшоў у бок пустыні. Яго клікала самая вялікая таямніца — Труба Смерці.

Ішоў ён, можа, з гадзіны дзве. Пачалі трапляцца скалы, усё часцей і часцей, напачатку нястрашныя, амаль круглыя, гладкія, а потым — вышэйшыя і вастрэйшыя, цёмна-шэрыя, самотныя, сумныя. Жэнька помніў з мінулай экскурсіі, што скал вельмі шмат там, дзе заканчваецца Купал. Дзе Труба Смерці. Ён ведаў, і тое, што блізка да Трубы падысці не зможа — яна абнесена агароджай, бо яе ахоўваюць. Ахоўнікі могуць прагнаць хлопца. Але калі з-за самай блізкай скалы паназіраць… Тое жывое чорнае полымя можна ўбачыць.

Купал над галавой пачаў імкліва зніжацца, яго белая паверхня ўжо навісала над паверхняй зямлі. Жэнька абышоў адну скалу, другую і раптоўна перад ім адкрылася знаёмая пляцоўка. Толькі цяпер яна не была пустой, як тады, калі хлопец упершыню пабачыў. Так, была ахова, мелася агароджа ля Трубы Смерці, зеўрала сама Труба. Але яшчэ бачылася некалькі вялікіх і малых незразумелых механізмаў. Тут завіхалася шмат людзей, якія нешта рабілі. А галоўнае — сцяна, што закрывала Купал вакол Трубы Смерці, цяпер была напалову разабранай. Людзі мітусіліся, чуліся кароткія нервовыя загады.

Жэнька неспадзявана адчуў, што зрабіўся сведкам таго, на што яму бачыць забаронена. Але прага даведацца новае перамагла жаданне ўцячы. Жэнька застаўся і назіраў з-за скалы за тым, як пры дапамозе механізмаў дарослыя людзі здымалі чорныя пліты, адкрываючы Купал ля Трубы Смерці. Адначасова да Купала прыносілі новыя, бліскучыя пліты, ставіліся, мацаваліся. Што ж, усё зразумела: Цемра хоча ўварвацца ў іх дом, яна грызе Купал, таму трэба час ад часу мяняць ахоўныя пліты. Ну, вось, гэта вельмі цікава ведаць і можна расказаць на ўроку, зарабіць падзяку ад Настаўніка.

Дзіўна толькі, што Купал за гэтымі плітамі заставаўся белым, як і ў іншых месцах. Адно, што ў адным месцы Цемра пакінула на ім сляды… Шэрыя…

Жэнька ўглядаўся ў гэтыя сляды Цемры, якія вось цяпер адкрыліся, калі знялі некалькі пліт. Сляды роўна віліся акурат над Трубой, і Жэнька раптоўна зразумеў, што гэта — нейкія знакі. Быццам надпіс…

Ад хвалявання сэрца хлопца забілася так моцна, што ён сам пачуў ягоны грукат. Так, гэта былі знакі! Нечым падобныя да літар… Жэнька да болю напружыў зрок, імкнучыся адшукаць у незвычайных знаках хоць нешта знаёмае… Яно было, было! Хоць і няўлоўнае, незразумелае, але ад гэтага сыходзіла на Жэньку агромністае адчуванне таямніцы — велічнай і адначасова страшнай у сваёй велічы. Ён бачыў, як яшчэ большы вэрхал узняўся ля Трубы, як спяшаліся людзі ўстанаўліваць новыя шчыты-пласціны, быццам сапраўдная пагроза сыходзіла не ад Трубы і Цемры, якая варочалася на яе дне і за Купалам — а ад надпісу, ад гэтых сямі таямнічых знакаў.

Вакол Трубы Смерці зноў паўстала чорная бліскучая сцяна. Жэнька асцярожна пачаў адступаць назад, хаваючыся за скаламі. Яму неспадзявана зрабілася страшна. Дамоў ён практычна бег, бо адчуў выразнае хваляванне маці і гнеў бацькі.

Жэнька не змог схлусіць бацькам, таму сказаў, што хадзіў да мяжы Купала.

Гнеў бацькі быў куды мацнейшы за той, калі Жэнька размаляваў свой пакой. Ён крычаў доўга, а маці маўчала, не заступалася, бо Жэнька парушыў забарону: за горад нельга выходзіць без дазволу нават дарослым. Ён ведаў гэта? Ведаў. Але пайшоў…

— Мама, а што такога страшнага ў тым, што я пайшоў адзін за горад? — ціха спытаўся Жэнька, калі маці ўкладвала яго спаць.

— Не ведаю, сыночак, — з жалем адказала яна. — Пад Купалам многа законаў, якія трэба выконваць. Без тлумачэнняў. І запомні, сынок: няма законаў нязначных. Усе правілы надзвычай важныя. І для дзяцей, і для дарослых…

Жэнька не стаў пытацца ў маці пра знакі — яна не будзе ведаць. А ў бацькі пабаяўся, бо нешта падказвала Жэньку, што ўгледзець без дазволу той надпіс куды страшней, чым выйсці без дазволу за горад. Хлопец засынаў і бачыў надпіс перад сабой, у памяці: каб толькі не забыцца, каб толькі дакладна, да кожнай рысачкі запомніць…

**5**

— Настаўнік, я хацеў вас спытаць…

— Яўген, няўжо школьная праграма, якую сёння скончылі, не дала табе адказаў на ўсе пытанні? Зрэшты, у лепшага вучня школы пытанні павінны мецца заўсёды. — Настаўнік прысеў, жэстам запрашаючы вучня прысесці побач. — Пытайся…

— Калі закончыліся экспедыцыі ў Цемру? І чаму спынілі даследаванне Цемры?

— Тады, калі зразумелі, што з Цемры нельга вярнуцца. Мой хлопчык, павер, да цябе шмат хто спрабаваў знайсці спосаб павелічэння нашай жыццёвай прасторы. Але яго няма. Нам няма куды ісці.

— А шахты?

— Без святла нашага Сонца мы гінем вельмі хутка. Жанчыны губляюць магчымасць рэпрадукцыі. Шахты даюць нам вугаль і нафту — усё, што нам трэба для жыцця…

Яўген задумаўся, потым ціха спытаў:

— Я ні ў кога не пытаў… Няўжо так можа быць, што з усіх жывых істот — толькі мы, людзі, і мікраарганізмы? За тыя сотні гадоў пасля наступу Цемры нашы навукоўцы вывелі сотні гатункаў салатнай расліны. Калі такі разнастайны раслінны свет, то не можа быць свет жывых такім бедным…

— Хлопчык мой, сумневы — адзін з найцяжкіх грахоў, ты ж гэта ведаеш, — з сумнай усмешкай адказаў Настаўнік. — Наш свет трымаецца яшчэ і таму, што ў ім ёсць Вера — Вера ў правільнасць Шляху.

— Я ведаю, Настаўнік… Але... Глядзіце яшчэ, я нікому ніколі не паказваў іх... — Яўген дастаў аркуш паперы і хутка напісаў тыя незразумелыя знакі, што пабачыў на Купале: [illegible].

І раптам Настаўнік, які з лёгкай паблажлівай усмешкай напачатку сачыў за рукой Яўгена, імкліва схапіў, скамечыў лісток, стаў рваць на дробныя шматкі.

Яўген перапалохаўся. Не за сябе — за Настаўніка. Бо яго твар зрабіўся шэрым, бы Купал бліжэй да вечара, і Яўген адчуў хвалю сапраўднага жаху.

— Ты ж у сне бачыў гэтыя знакі, праўда? — дрыжачым голасам, але лагоднанастойліва, чакаючы менавіта станоўчага адказу, спытаў нарэшце Настаўнік.

— Так, Настаўнік, я сніў гэтыя знакі на сцяне Купала. Якраз ля Трубы Смерці, дакладней, над ёй. Яны нібыта падпісвалі яе. І гэтыя знакі былі закрытымі ад нас. Схаванымі. І яны як быццам былі напісаны... на тым баку Купала...

Настаўнік здрыгануўся яшчэ раз. У нейкі момант ён згубіў усю сваю строгасць і выгляд сапраўднага Настаўніка і стаўся амаль старым мужчынам. Ён маўчаў колькі хвілін, але не прасіў, каб Яўген пайшоў — і хлопец чакаў.

— Некалі даўным-даўно ў нас была другая мова. На той мове размаўлялі яшчэ задоўга да Цемры. Праўда, яе імкліва пачалі забываць, бо лічылі непатрэбнай — хапала для зносін другой мовы, якая здавалася ўсім зручнай і сучаснай. На старой мове адно запісвалі розныя гісторыі... Вясёлыя гісторыі... Разумныя гісторыі. Добрыя... Калі наступіла Цемра, сярод нас былі яшчэ тыя, хто ведаў старую мову. Але тут, пад Купалам, яна стала ўвогуле непатрэбнай. І нават шкоднай. Бо нам было не да гісторый: мы прызвычайваліся жыць пад Купалам, мы сталі жыць па новых правілах. Мы павінны былі забыцца на гісторыі. І забыліся. Навошта яна? Гэтыя знакі, што ты прысніў — літары з тае мовы. Але я не ведаю, што там напісана. Скажу больш — ніхто не ведае. Некалі я палову жыцця патраціў на тое, каб адшукаць хоць які дакумент... Я ж быў вучоным...

— І ніхто не скажа, што азначаюць гэтыя літары? — з недаверам і горыччу спытаў Яўген.

— Ніхто, — непахісна адказаў Настаўнік, ды матлянуў галавой, нібыта страсаючы з яе фізічна прылепленыя думкі і зрабіўся ранейшым Настаўнікам — строгім і сухаватым: — Скажы лепш, ты абраў сабе шлях? Заўтра — дзень Прысвячэння. Вы станеце грамадзянамі Купала. Табе, як аднаму з лепшых, даецца права выбару. Чаму ты хочаш сябе прысвяціць?

Яўген пацісnуў плячыма, потым абыякава адказаў:

— Мне прапанавалі некалькі шляхоў. Стварэнне адзінага разумовага поля — яно ў спалучэнні з эмацыйным полем зробіць Купал адзінай суцэльнай супольнасцю… Бацька ж настойвае на кар'еры кіраўніка. А мне… мне хочацца даследаваць Цемру.

— Пакінь Цемру ў супакоі, — амаль загадаў Настаўнік. — Сказана: за Купалам жыцця няма…

— Сказана ці няма? — ціха, амаль шэптам спытаў Яўген.

Настаўнік нічога не адказаў.

— Грамадзяне Купала! Сёння мы прымаем у свае шэрагі новае пакаленне. Гэтае пакаленне, выгадаванае і выхаванае на аснове Вучэння Вялікіх Бацькоў Купала, стане заўтра нашай апорай, нашай сілай ды гонарам…

Прамова гаварылася доўга. Яўгену было сумна, яго пакідала безуважным падзея Прысвячэння. Званок у ягонай галаве настойліва патрабаваў хваляваццa і цешыцца, але радасць не прыходзіла.

Потым пачалася працэдура Выбару. Яўген абраў шлях навукоўца, распрацоўшчыка адзінага разумовага поля. Абраў у апошнюю хвіліну, падпарадкаваўся нейкаму няўцямнаму, неакрэсленаму жаданню.

Потым… Потым здарылася тое, што павінна здарыцца. І цуду не адбылося, і памылкі не было. Затым называлі будучых мужоў і жонак, пары, складзеныя Кіраваннем Шлюбаў. І тая пагроза, якая жыла з дзяцінства, раптам адкрылася жахлівай пустэчай страты: Ліна павінна стаць жонкай Мікіты. А яму… Яму ў жонкі прыпісвалі нейкую дзяўчыну. Невядомую.

Эмоцыі, якія ўспыхнулі пасля агучвання гэтага спісу, былі мацней за эмоцыі пасля Выбару. Сярод гэтай бурапеннай ракі Яўген адчуў боль Ліны і зларадансць Мікіты.

Мікіту выпаў шлях ахоўніка — і ён цешыўся гэтаму не менш, чым абвешчанаму цяпер спісу жонак і мужоў.

Праз тры гады яны стануць мужам і жонкай. А цяпер абвешчаны спіс забараняе ўсім іншым, акрамя абранага мужа, жадаць чужых нявест.

Для супакаення юначых жаданняў існуюць асобныя жанчыны — тыя, каму не дазволена нараджаць з-за іх недасканалага геннага кода. Такія часам нараджаюцца. Іх адпраўляюць у Дом Выканання мужчынскіх Жаданняў.

Потым прайшоў рытуал апранання абручоў на левую руку. І ў першае імгненне Яўгену здалося, што ягоны мозг не вытрымае той хвалі эмоцый, якая абрынулася на яго. Ён стаў адчуваць усіх жыхароў Купала — у гэтым хаосе імгнення страціліся і мама, і Ліна. І толькі Мікіта… Мікіта адшукаў яго адразу і паслаў яхідную насмешку.

Так, Мікіту нездарма адпраўляюць у ахоўнікі — ён лепш за ўсіх у іх класе арыентаваўся ў эмацыйным полі.

Пасля святочнага абеду ў Сталоўцы адбыліся канцэрт і гульні на Галоўным пляцы, потым усім абвясцілі вольны час — цэлых тры гадзіны да пацямнення Сонца.

**6**

— Пойдзем, сынок, — маці паклікала Яўгена за сабой, павяла ўздоўж вуліцы з празрыстымі скрынкамі дамоў кудысьці ад цэнтра горада.

— Куды мы ідзём? — Яўген разгублена азіраўся — здавалася, увесь горад цяпер выходзіў па вуліцах за межы горада. Маці ішлі з сынамі, дочкі — з бацькамі.

— Сёння ж Дзень Прысвячэння, — нагадала маці.

— Я ведаю… Але няўжо не ўсё прайшло?

— Не, не ўсё. Сёння маці з сынамі, а дочкам з бацькамі дазволена пакінуць горад да змяркання. Маці павінны расказаць, навучыць сыноў быць мужчынамі. А бацькі — дачок…

— Я не пайду з табой, — спыніўся аглушаны Яўген. — Я не пайду.

— Пойдзем, сынок… — ласкава ўсміхнулася маці. — Пойдзем. Я абяцаю табе… Я абяцаю табе, што ўсё будзе не так…

— Мама!..

— Я цябе вельмі прашу, сынок…

Маці ўзяла Яўгена за руку, і ён пайшоў, даверыўся яе пачуццю, бо яе перапаўняла ў гэты момант незвычайнае хваляванне.

Яны адыходзілі ўжо ад ускраін горада. Шматлікія пары бацькоў і дзяцей веерам разыходзіліся з адной вуліцы далей і далей ад горада.

Ішлі па цвёрдай жаўтлява-шэрай паверхні. Яўген ведаў, што глеба пад іх нагамі стала такой на многія кіламетры ўглыб пры будаўніцтве Купала. Пакрысе на аднастайнай раўніне пачалі трапляцца невысокія скалы. Маці вяла яго ўпэўнена.

Удалечыні зачарнела на жоўтым прасцягу, дзве плямы. Яны падышлі да плям, і Яўген убачыў, што гэта дзве аплаўленыя часткі скал, якія крышку ўзвышаліся над агульнай паверхняй.

Спыніліся. Яўген агледзеўся — горад ляжаў унізе, прама перад імі, чатырма велізарнымі зіхоткімі квадратамі. Чорны будынак Кіравання вырастаў з цэнтра. За спінай Яўгена, у некалькіх гадзінах хады Купал плаўна апускаўся ўніз, зліваўся з шэрай зямлёй. Дзесьці там знаходзіцца Труба Смерці…

— Цяпер, сынок, я раскажу табе тое, што распавяла мне мая мама, а ёй — яе бацька, яму ж — яго мама, і яшчэ раней бацькі перадавалі сваім дзецям, — ціха загаварыла маці. — Не пытай мяне ні пра што, бо за даўнасцю часоў многія словы страцілі для мяне сэнс і значэнне. Я толькі выконваю абавязак маці і волю нашых продкаў. Стань на гэты камень, а я стану на другі…

Маці ўзышла на цёмную пляму. Яўген зрабіў крок да другой плямы і раптам адчуў, што ў маці прапалі эмоцыі. Не, яна, вядома ж, адчувала нешта сама, але ён не адчуваў яе.

У поўнай разгубленасці юнак стаў на гладкую цёмную паверхню — і раптам быццам аглух.

Усе пачуцці зніклі. Не, не яго пачуцці — зніклі чужыя пачуцці. Імгненне таму ён адчуваў увесь горад: бацькоў, настаўнікаў, Мікіту, Ліну — і ўсё раптам знікла. Засталося толькі яго ўласнае здзіўленне і незвычайнае, усё нарастаючае захапленне, запоўнілі сабой ягоную свядомасць. Дык вось як гэта — калі ў табе жыве толькі тваё…

— Што здарылася, мама? — шэптам спытаў Яўген.

— Гэтыя камяні экраніруюць эмацыйнае поле, — з цеплынёй гледзячы ў вочы сыну, адказала маці. — Можа быць, недзе яшчэ ёсць такія месцы, але ў памяці нашых продкаў засталося толькі гэта. Нам нельга тут доўга быць… Паслухай тое, што я павінна табе перадаць. Але перш пакляніся, што ты перадасі гэта свайму сыну альбо дачцэ… І нікому больш, нікому!

— Клянуся, мама, — ледзь утаймоўваючы нечаканую дрыготку, адказаў Яўген.

Маці лёгка прысела на камень, падабраўшы пад сябе ногі.

— Садзіся і ты… Слухай, сынок, — ласкава запрасіла яна, пачакала, пакуль сын уладкуецца і зусім не чакана для Яўгена заспявала:

*Дзе неба найсіней,
Пад ім злат-горад ёсць
З празрыстай вострай брамаю
І зорнай яскрынёй.
А ў горадзе тым сад.
Там красак не злічыць.
Звяры там ходзяць гожыя,
Што нельга і ўявіць.
Адзін — агністы жаўтагрывы леў,
Другі — бушлівы шматвачысты вол.
А яшчэ арол там — дзіва-птушка,
Златакрылая і яснавокая.
Дзе неба найсіней,
Там зорка ёсць адна.
Яна з табой, анёле мой,
З табой заўжды яна.
Хто любіць, той і люб.
Хто светлы, той і свят.
І ты за гэтай зоркаю
Ў дзівосны крочыш сад.
Цябе сустрэнуць жаўтагрывы леў,
Бушлівы сіні шматвачысты вол.
А яшчэ арол там — дзіва-птушка,
Златакрылая і яснавокая.

* Пераклад Сяргея БАЛАХОНАВА.

Маці замоўкла.

Яўгена душыла знутры.

— Што гэта, мама? Гэта было? Такім быў наш Купал? Ці гэта ёсць, мама? Скажы?

— Сынок, сыходзь з каменя…

Маці сама сышла з цёмнай каменнай плоскасці, узяла нерухомага Яўгена за руку і прымусіла яго ступіць крок і другі.

Чужыя пачуцці зноў уварваліся ў яго мозг, але яны цяпер нікольк не турбавалі Яўгена.

— Мама, я не ведаю, што са мной. Я баюся… Адчуюць іншыя.

— Не бойся, сынок. Калі ты сапраўды будзеш фізічна першы раз з жанчынай, у цябе ў душы ўзнікне вельмі падобнае: нечаканая радасць адкрыцця, замілаванне і шчасце, вера і смага…

— Ты не адказала, мама, — з надзеяй перапытаў Яўген. — Гэты горад быў Купалам, ці ён ёсць?

— Не ведаю, сынок… — маці са светлым смуткам зірнула яму ў вочы. — Але калі б ён быў — можа, тады варта спяваць ***«пад ім злат-горад быў»***?

Некаторы час яны ішлі моўчкі. Яўген пра сябе паўтараў радкі песні, якая адным пякучым зігзагам лягла на яго памяць.

— Леў, вол, арол… Гэта не людзі, але жывыя істоты, не інакш? — разважаў ён напаўголаса.

— Так, сынок. Гэта жывёлы. Арол — птушка. Праўда, я не ведаю, што значыць — птушка. Адно — яна мае крылы, і быццам бы з іх дапамогай можа лётаць. І не ведаю, як выглядалі вол і леў. Сад — гэта такое зялёнае, там расце мноства розных раслін. Краскі... я не ведаю, што гэта. Але гэта — вельмі прыгожае. Я ведаю, што такое неба. Неба — гэта калі няма Купала, — сказала маці.

— Яшчэ, мама… — Яўген запнуўся, потым упэўнена працягнуў: — Калі ты расказала мне, а сёння за горад выйшла столькі многа пар — можа, хтосьці з бацькоў таксама распавёў сваім дзецям… пра нешта?

— Ты хутка зможаш даведацца пра гэта, — спахмурнела, з нечаканай горыччу адказала маці. — Бо ты здольны, я заўсёды верыла ў цябе. І калі будзеш працаваць над стварэннем разумовага поля — Купал будзе ведаць думкі кожнага…

Яўген спыніўся.

Яны ўжо наблізіліся да горада разам з іншымі парамі. І горад заглынаў рэдкі раўчук людзей, якія вярталіся з пустыні.

— Ведаеш, мама… Я абраў працу ў самы апошні момант. І тады не разумеў, чаму абраў. Мне нібы падказаў хтосьці. Але цяпер… Цяпер я зразумеў. Калі Купал непранікальны для нас, для людзей, для прадметаў — раптам праз яго можна прайсці думкай? — горача скончыў юнак.

Маці ўсміхнулася светла.

— Толькі асцярожна, сынок…

## 7

— Інжынер Яўген, дайце справаздачу Радзе аб ходзе работ. Да нас дайшлі чуткі, што вы нейкім чынам стрымліваеце поўнамаштабнае ўкараненне разумовага поля. Мы чакаем тлумачэнняў.

Яўген падняўся, зірнуў у вочы Старшыні і не змог вытрымаць яго цяжкі, праніклівы позірк. Апусціў вочы ў дакументы, хоць кожную лічбу ведаў на памяць.

— Прашу паважаную Раду выслухаць справаздачу пра апошні тыдзень доследаў. Агулам у эксперыменце ўдзельнічала 10 злачынцаў. Трое з іх загінулі ад празмернай напругі ў галаўным мозгу. Прапанаваны варыянт галаўнога абруча мае вялікую вагу, неэстэтычны выгляд і, самае галоўнае, спажывае гэтулькі энергіі, колькі 100 наручных бранзалетаў. Прыёмна-перадаючая станцыя таксама значна больш энергаёмістая, чым задумвалася спачатку. Сама схема працаздольная. Канкрэтна па лічбах...

— І што вы прапануеце? Чакаць, калі насельніцтва выйдзе з-пад кантролю, пакуль вы прыдумаеце прыгожы абруч? — з'едліва перапыніў яго адзін з удзельнікаў Рады, хударлявы, з вялікай лысінай і густымі вусамі.

— Мы лічым, што запускаць станцыю ў такім выглядзе нельга. Трэба выключыць смяротныя выпадкі і энергаспажыванне, якое перакрывае зададзенае на 500 працэнтаў...

— А вас ніхто не ўпаўнаважваў лічыць і прымаць рашэнні, — свідруючы вачыма Яўгена, прамовіў Старшыня. — Смерці здараліся ў варыянце абмену?

— Так, Старшыня.

— Значыць, выключыць абмен, пакінуць перадачу думак. На прыём працуе толькі цэнтральная станцыя. А фільтраваць сігналы мы зможам… Далей… Няма эстэтыкі ў абручах… У рабочых кварталах эстэтыка не асабліва патрэбна. Будзьце гатовыя праз дзесяць дзён запусціць на поўны прыём станцыю ў зоне Далёкай Мяжы. Праз 20 дзён — у зоне рабочага квартала. Сектару ідэалогіі растлумачыць рабочым і ўсяму насельніцтву Купала важнасць эксперыменту. Так, гэта будзе эксперымент. Растлумачыць, што пакуль станцыя працуе толькі на прыём. Але паабяцайце, што кожны можа атрымаць па асобным запыце запіс думак чалавека, які яго цікавіць. Любога. Як і ў бранзалетах, прадугледзець немагчымасць здымання галаўнога абруча. Усё, працуйце.

Яўген прыйшоў у свой аддзел, сабраў работнікаў і абвясціў пра рашэнне Рады.

— Мы не паспяваем у адведзеныя тэрміны, таму прашу ўсіх выйсці на працу ў выхадны дзень.

— Выхадны прысвечаны пакаранню смерцю. Няўжо ты не чуў? — спытаў старэйшы ў аддзеле інжынер Анатоль.

— Не… Я не ўслухоўваюся ў перадачы тэленавін.

— Дрэнна…

— Спадзяюся, гэта не злачынства супраць Купала? — сумна ўсміхнуўся Яўген. — Я працую па вечарах. А што за пакаранне смерцю?

— У-у-у, такіх не было дзесяць гадоў! Злачынства супраць Купала. І — вылет у Трубу, — гэтак жа без усялякіх эмоцый пачаў распавядаць Анатоль. — Нейкі службовец звар'яцеў. Пакінуў працу, схапіў чужую жонку і ўцёк з ёй у пустыню, дзе яны пачалі любошчы ў цяньку скал.

— А можа, яны кахалі адно аднаго?

У Анатоля змяніўся твар. Упершыню на ім адбіліся нейкія эмоцыі. Яўген адчуў сумесь гаркоты і болю.

— Што вы ведаеце пра каханне, малады чалавек?.. Дарэчы, на пакаранні смерцю трэба прысутнічаць усім.

— Я гэта ведаю… Добра, тады частку работы трэба браць з сабой дадому. У першую чаргу неабходна давесці фільтр сінфазнасці і блок падаўлення эмацыйных перашкод…

Да Трубы Смерці было дастаўлена ўсё дарослае насельніцтва горада. Труба ўзвышалася над паверхняй на вышыню ў сем метраў і сыходзіла ўніз, пад самы

Купал пад невялікім вуглом. Яна была празрыстая, і бачылася, як у ніжняй частцы яе варушылася густая чарната — гэта Цемра спрабавала прабіцца ў Купал.

На верхняй частцы Трубы размяшчалася невялікая пляцоўка — каб стаць двум чалавекам: злачынцу і Выканаўцу прысуду.

Прывезлі асуджанага. Ён быў нікчэмны і бездапаможны.

— У той жанчыны адабралі дзяцей, а саму змясцілі ў Дом Выканання Жаданняў, — каменціраваў падзеі Анатоль. — З яе мужам з гэтага часу будзе жыць жонка асуджанага. Нішто не павінна прападаць дарма…

Яўген пільна зірнуў на Анатоля — твар яго заставаўся абыякавым. Пачуццяў — ніякіх. Так, лёгкая цікавасць…

Злачынцу паднялі ў клетцы на верх трубы. Хтосьці нябачны пачаў чытаць прысуд і голас яго, узмоцнены, паляцеў, здавалася, да макаўкі Купала:

— ...таму, што сказана нашым Бацькам, Першым Кіраўніком Купала, і свята паважаецца намі няўхільны Закон: «Не чапай жонкі чужой!» Гэта адзін з дзесяці нашых запаветаў, запаветаў самога Купала, і парушэнне іх — злачынства супраць Купала і яго народа…

Прысуд чытаўся доўга.

Потым выступалі суседзі злачынца, вінавацячы і ганячы яго. Суседзі і былыя сябры раптам усвядомілі, што жылі побач з такім здраднікам іх агульнай справы. Яны прасілі ўсіх быць спагадлівымі да іх саміх і не судзіць строга за тое, што своечасова не ўгледзелі, не папярэдзілі Кіраўнікоў…

Потым злачынцу дазволілі сказаць слова.

Мужчына, наколькі мог, выпрастаўся ў клетцы і стаў крычаць у натоўп пад ім, што ён — страшны злачынец, але ўсё ўсвядоміў і нечуваны па дзёрзкасці ўчынак гатовы загладзіць самаадданай працай на Далёкай Мяжы…

Устаў суддзя і ўзмахам рукі аддаў загад.

Выканаўца прысуду дастаў аднекуль з-пад свайго шырокага плашча невялікі шпрыц і хутка зрабіў укол у руку мужчыне, якая была прыкавана да клеткі. Асуджаны, дзіка ўзвыўшы ад болю ўколу, раптам пачаў ашалела трэсці краты з празрыстага пластыка, кідацца па клетцы і нарэшце закрычаў адчайна:

— Гэта нячэсна! Мне абяцалі! Вы абяцалі, што памілуеце! Вы абяцалі жыццё за мае словы! Я невінаваты! Гэта ўсё яна… Гэта яна… Яна вінаватая! Будзьце вы праклятыя! Здраднікі! Ілгуны! А-а-а!

Атрута падзейнічала, бо яго голас раптоўна аслабеў, мужчына апусціўся на калені і ўпаў бы, каб не прыкутая да рэбраў клеткі рука.

Суддзя паспешліва матлянуў галавой — і клетка панеслася ўніз, а няроўныя языкі чарнаты ірвануліся, як жывыя, ёй насустрач. І мужчына нечакана зноў закрычаў. Ён крычаў страшна і моцна, нават тады, калі клетку паглынула цемра…

— Яго б можна было і памілаваць, — глуха вымавіў Яўген, калі яны з Анатолем адышлі з напоямі ад усталяваных ля Трубы сталоў — адзначаўся Дзень пакарання смерцю.

— Вы, малады чалавек, вучыцеся ўспрымаць усё спакайней, — нягледзячы на яго адказаў Анатоль. — Адкрыю вам маленькі сакрэт: эмоцыі хутка супакойваюцца тады, калі вы пераканаеце сябе ў тым, што нічога змяніць нельга.

— Няўжо я хачу нешта змяніць?

— Я не кажу вам перастаць ці пачаць жадаць. Я кажу вам, дарэчы, шчыра кажу, паколькі вы залішне эмацыйны для свайго ўзросту, пасады і становішча, што, калі прызвычаіце сябе да думкі, што быццам гэты свет непарушны пад стагоддзямі і тысячагоддзямі, то вы станеце спакайней.

— Каму перашкаджае маё хваляванне?

— Не забывайце, вы сёння блізкія да Кіравання, а там памылак не выбачаюць, — спакойна закончыў Анатоль.

— Вы збіраліся нешта сказаць наконт маёй рэплікі ў адносінах да памілавання, — заўважыў Яўген.

— Вось, у вас атрымалася куды лепш, — усміхнуўся Анатоль. — Я амаль нічога не адчуў. А наконт пакарання смерцю… нашаму грамадству нельга без пакарання смерцю. Гэтак жа, як і без нараджэнняў. Згодны, мой сябар?

**8**

…Яўген і Ліна сустрэліся на мяжы сваіх дамоў у звычайны час: калі прыцемкі Купала зрабіліся максімальнымі.

— Праз дваццаць дзён у зоне рабочага квартала пачне працаваць разумовае поле, — сумна загаварыў Яўген.

— Я чула… Шмат гавораць пра тое, што поле зробіць нас яшчэ больш згуртаванымі… — адказала Ліна.

— Яшчэ больш голымі… Зусім голымі…

— Ты такі смешны, — уздыхнула Ліна. — Ніяк не можаш жыць так, як ёсць? Як можна тут жыць інакш? Хаваць сябе і сваё цела? Навошта?

— Не тое… ты не пра тое кажаш.

— А пра што ты? — пасур'ёзнела дзяўчына.

— Пра тое, што… Я думаю, проста ўпэўнены, што многія сем'і маюць свае таямніцы, свае паданні, якія перадаюць ад бацькоў дзецям. І гэтыя паданні, думаю, часам разыходзяцца з тым, што мы даведваліся ад Настаўнікаў. Гэтыя паданні могуць зрабіць шкоду тым, хто іх захоўвае. Упэўнены, такіх гісторый шмат сярод рабочых…

— Пра якія паданні ты кажаш? — узрушана запытала Ліна.

— Адкуль жа мне ведаць… Так, мімаходзь пачуў ад аднаго старога рабочага пра нейкі горад залаты.

Ліна прыглушана ўскрыкнула, затуліла рот далонню. Яўген разгублена зірнуў на яе і, сам таго не чакаючы, ціха-ціха, адными вуснамі заспяваў:

— Дзе неба найсіней,
Пад ім злат-горад ёсць…

І Ліна адгукнулася ледзь чутным рэхам:

З празрыстай вострай брамаю
І зорнай яскрынёй...

І заплакала, ступіла насустрач Яўгену, адчайна парушыўшы забарону, мяжу паміж імі — нельга ж ім быць на тэрыторыі яго дома, бо яны не жаніх і нявеста.

Яўген прытуліў Ліну да сабе, а яна рыдала, глуха, скаланаючыся ўсім целам.

— Цяпер гэты сышчык, ён дзяжурыць, прыскочыць…

— Не прыскочыць, ён звыкся з маім плачам, — адказала Ліна выціраючы вочы. — Я часта плачу. Праз паўгода Дзень Вяселляў для нас.

— Я памятаю.

— І ты яшчэ прыдумаў такое поле, якое нават у думках не дасць мне цябе кахаць, — лёгка ўпікнула Ліна юнака.

— Я думаў пра зусім іншае… — пачаў апраўдвацца Яўген. — Употай мы распрацоўваем другі прыбор. Ён павінен канцэнтраваць думкі многіх людзей і перадаваць іх за Купал.

— Навошта? — хутка спытала дзяўчына і, імгненна зразумеўшы ўсё, яшчэ мацней прыціснулася да Яўгена. — Я веру… Я паверыла бацьку…

— І я паверыў маці… — прызнаўся Яўген.

Яны маўчалі, але маўчалі пра адно і тое ж.

— Значыць, там… тады і цябе, і мяне вучылі зусім не таму, для чаго ўсіх адпраўлялі за горад? — з незразумелым падтэкстам, ніякавеючы, спытала дзяўчына.

— Так, — усміхнуўся Яўген. — Я б і не пайшоў, калі б мама адразу не сказала… Думаю, не толькі нас вучылі зусім іншаму. Чаму ты пра гэта пытаеш?

— Таму што... Я хачу стаць жанчынай менавіта з табой.

— Гэта злачынства… — прагаварыў Яўген, і засаромеўся сваёй баязлівасці. — Я таксама вельмі гэтага хачу…

Ліна бязгучна праслізнула ў пакой Яўгена.

Яны кахалі адно аднаго горача і няўмела, саромеючыся сваёй нявопытнасці і асцярожна смеючыся, заміраючы ад пачуцця ўсёпаглынальнай пяшчоты, якое апальвала іх...

Яўген прыгадаў у той момант словы маці. У яго душы жыло шчымлівае шчасце і радасць судакранання з самым патаемным. І гучала мелодыя песні.

...Нарад вартаўнікоў з’явіўся ля дома тады, калі Ліна ўжо была на сваёй тэрыторыі. Нянавісць Мікіты булькатала ў галаве Яўгена, яна адчувалася амаль фізічна.

— Ты яшчэ паплачаш! — выцiснуў Мікіта скрозь зубы, не знаходзячы больш слоў. — Табе пашанцавала, што мы займаліся адной сямейкай у рабочай зоне.

Яўген толькі ўсміхаўся ў адказ. Пачуццё трапяткога шчасця перапаўняла яго і не давала пракрасціся ў свядомасць ні нянавісці, ні пагрозам.

**9**

…На прахадной Яўгена спынілі і запатрабавалі неадкладна з’явіцца да кіраўніка праекта. Юнак злёгку здзівіўся, бо калі гэты гнюс, Мікіта, напісаў на яго данос, то чаму разбіраць скаргу павінен кіраўнік праекта, а не Кіраванне маралі? Ды і даносы на бытавыя тэмы даўно патрабуюць фактаў…

Кіраўнік праекта жэстам запрасіў Яўгена бліжэй да стала, дзе стаяў іх другі прыбор — той самы канцэнтратар думак, пра які ён казаў Ліне.

— Што гэта? — рэзка спытаў кіраўнік.

— Альтэрнатыўны прыбор перадачы думкі на адлегласць, — спакойна адказаў Яўген. — Мы вялі распрацоўку адразу ў двух кірунках…

— Што за кірунак? Чаму я пра гэта не ведаю? — голас кіраўніка рабіўся пагрозлівым.

— Гэта — канцэнтратар разумовых палёў, — імкнучыся трымацца спакойна, пачаў тлумачыць Яўген. — Саму думку нельга ўзмацняць да некаторай крытычнай велічыні. Але думкі сотні, тысячы людзей можна сінхранізаваць і перадаваць накіравана.

— Куды перадаваць? — імгненна спытаў кіраўнік праекта.

— За Купал.

— За Купал? Хто даваў табе паўнамоцтвы! — не, не пракрычаў, а люта прашыпеў кіраўнік.

— Але гораду даўно патрэбна жыццёвая прастора! Мы павінны нейкім чынам спазнаць — што знаходзіцца за Купалам, ёсць там яшчэ жыццё ці…

— Маўчаць! Шчанюк! Табе было дадзена заданне! А ты расходаваў матэрыялы, неверагодна дарагія матэрыялы, якія здабываюцца намі па граме за год, на стварэнне апарата, які разбурыць Купал!

— Пры чым тут разбурэнне… Вы мяне няправільна зразумелі…

— Маўчаць! Неадкладна ў аддзел! Працаваць дваццаць чатыры гадзіны на суткі! Паскорыць усё! Не адна, а ўсе чатыры станцыі павінны быць гатовыя і не праз дваццаць, а праз дзесяць дзён!

Яўген пайшоў у аддзел.

Тут ужо ўсе пра ўсё ведалі. Гэта адчувалася па засяроджанай працы і хвалі шкадавання.

Падчас кароткага абедзеннага перапынку Яўген адышоў з Анатолем ад усіх.

— Я вось думаў у вольны час, чаму ж Трубу Смерці так дбайна ахоўваюць? — нібы пра нейкую дробязь спытаў Яўген. — Што вы на гэта скажаце?

— Скажу, што ў вас шмат вольнага часу, — суха адказаў Анатоль.

— Можа і так… І вось яшчэ пра што падумаў: запусцім мы станцыю, і што будзе з залатым горадам, калі…

Ён не паспеў дагаварыць, ашаломлены тым, як перакасіўся твар старога інжынера, і якая хваля страху выплюхнулася ад яго.

— Маўчыце! Прашу вас!

Праз імгненне Анатоль зноў стаў абыякавым і спакойным. Памаўчаў, мабыць, збіраючыся з думкамі. Нарэшце загаварыў.

— Я доўга думаў пра гэта. Шукаў дакументы пра даследчыя экспедыцыі ў Цемру. Але ні адна з іх не вярнулася. Ваш канцэнтратар — апошняя надзея. Я меў рацыю… Нішто не можа быць зменена…

— Экспедыцыі не вярталіся... Але хто сказаў, што яны гінулі? Я — не веру, — суха адказаў Яўген.

— У што вы не верыце?

— У тое, што экспедыцыі былі...

— Вось як? Вы разумееце, што сказалі? — Анатоль не змог і цяпер схаваць свайго хвалявання.

— Разумею... Дарэчы, сачыце за маім пальцам, — Яўген павольна выводзіў на роўнай паверхні сцяны тыя самыя незразумелыя літары старой мовы, якія памяць дбайна захоўвала ўсе гады.

— Дзе... Дзе вы іх бачылі?

— У сне, — усміхнуўся Яўген. — Так сказаў мой Настаўнік.

— Мы сябравалі, — сцішана загаварыў Анатоль. — Яго перавялі ў Настаўнікі, калі ён пачаў шмат часу аддаваць пошукам.

— Але ж ён нешта знайшоў? — Яўген імкліва павярнуўся тварам да Анатоля. — Ён прасіў мяне паверыць, толькі я не паверыў. Я бачыў па яго твары, вачах, што ён ведае сэнс гэтых літар!

— Гэта паданне. Іх сямейнае паданне. Прабачце, яго я вам расказаць не магу. Я і так нагаварыў шмат лішняга... Але мне мала засталося. Праз чатыры месяцы народзіцца тое жыццё, якое стане маім канцом...

— Так нельга! Нельга! — закрычаў Яўген, і на іх пачалі азірацца.

— А як можна? — безнадзейна уздыхнуў Анатоль.

Яўген не адказаў, пайшоў у аддзел.

**10**

Ніхто не адарваўся ад сваіх спраў, калі празвінеў званок, які абвясціў канец рабочага часу. У аддзеле ўсе працавалі. І толькі Яўген рашуча падняўся з-за стала, адсунуўшы ў бок прыборы.

— Да сустрэчы, сябры, — задуменна развітаўся ён і выйшаў.

Яго праводзілі ашаломленымі позіркамі.

Відавочна, навіна пра незразумелыя паводзіны Яўгена распаўсюдзілася вельмі хутка — ён адчуваў, як вакол яго ўзрастае пачуццё здзіўлення і страху. А потым адчуў насцярожанасць ахоўнікаў, калі звярнуў на пляц, да будынка Кіравання. Яго спынілі.

Яўген моўчкі, амаль урачыста, нібы выконваў незвычайны рытуал, прысеў, паклаў левую руку з бранзалетам на гладкую пліту паверхні пляца. У яго правай руцэ была заціснута важкая дэталь ад прыбора наладкі палёў.

Яўген размахнуўся і ляснуў дэталлю па бранзалеце.

Разам з аскепкамі бранзалета, што стрэльнулі ў розныя бакі, у знямелым жаху кінуліся ад Яўгена ахоўнікі. Яны ніколі яшчэ не бачылі такога надзвычайнага злачынства, амаль што святатацтва. І толькі іх старэйшы застаўся на сваім месцы. Яўген адчуў, колькі радасці выклікаў ён сваім учынкам у гэтага служакі: арыштаваць за самае страшнае злачынства перад Купалам, што можа быць лепшым для кар’еры!

Дзень пакарання смерцю прызначылі ў дзень арышту.

— Савет Кіравання не хоча смерці аднаму з разумнейшых сваіх інжынераў, — казаў Яўгену суддзя перад карай. — Скажу вам больш: Першы Кіраўнік жадае паказаць людзям сваю дабрыню і чалавекалюбства. Мы збіраемся вас памілаваць. Але для гэтага вы павінны прызнаць сваю віну, спаслаўшыся на кароткае вар’яцтва з-за напружанай працы. Акрамя таго, вы павінны расказаць, якім самотным і чужым самі сабе сталі ў той момант, калі пазбавіліся бранзалета. Гэта ўсё, што ад вас патрабуецца. Вы вернецеся да сваёй працы, паколькі яна павінна быць закончана. Праўда, жыць будзеце ў іншым месцы, і сям’ю завесці вам не дазволяць. Пакуль вам усё зразумела?

— Зразумела.

— Добра. Пасля вашага апошняга слова будзе зачытана рашэнне пра памілаванне.

Калі клетку з Яўгенам паднялі на пляцоўку перад Трубой Смерці, ён адшукаў сярод натоўпу маці. Яна плакала… Але твар яе быў напоўнены цёплым святлом любві і надзеі. Побач з ёй стаяла Ліна з сухімі вачамі.

Вяшчальнік чытаў прысуд, а натоўп перад Яўгенам у страху сціскаўся: за апошнія сто гадоў здзейснена самае страшнае злачынства супраць Купала: спроба ўтойвання і наўмыснае знішчэнне эмацыйнага бранзалета.

Потым вяшчальнік паведаміў, што Яўген можа сказаць свае словы.

Яўген не змог выпрастацца ў клетцы, таму ён проста сеў, перакрыжаваўшы ногі, чым выклікаў гул здзіўлення.

— Людзі! Я без бранзалета, таму не адчуваю вас. І вы не адчуваеце мяне. Але я скажу вам словы, якія ўсе вы зразумееце. Якія адчуеце без бранзалетаў…

Натоўп унізе здрыгануўся і заціх. І Яўген моцным, упэўненым голасам заспяваў:

Дзе неба найсіней,  
Пад ім злат-горад ёсць  
З празрыстай вострай брамаю  
І зорнай яскрынёй.

А ў горадзе тым сад.
Там красак не злічыць.
Звяры там ходзяць гожыя,
Што нельга і ўявіць.
Адзін — агністы жаўтагрывы леў,
Другі — бушлівы шматвачысты вол.
А яшчэ арол там — дзіва-птушка,
Златакрылая і яснавокая...

Ён спяваў у поўнай цішыні, голас яго лунаў над людзьмі, а яны там, унізе, ашаломленыя, агаломшаныя застылі, і толькі вусны ў многіх ледзь-ледзь уздрыгвалі.

— Шпрыц! Калі ўкол! — узарваў цішыню рэзкі загад.

Выканаўца прысуду за спінай Яўгена, вытарашчыўшы вільготныя вочы, стаяў нерухома, калені яго дробна трэсліся, з рукі выслізнуў і пакаціўся ўніз, у цемру Трубы шпрыц.

— Клетку пхай!

Суддзя падбег да лесвіцы, якая вяла да пляцоўкі на Трубе Смерці, блытаючыся ў доўгім плашчы, пачаў караскацца на верхатуру. За ім кінулася некалькі ахоўнікаў, якія палезлі следам.

І тут з натоўпу вырваўся дрыжачы дзявочы голас:

Дзе неба найсіней,

У наступны момант да яго далучыўся ўпэўнены голас жанчыны. І ўжо ў два жаночыя галасы прагучаў узнёсла канец радка:

…Там зорка ёсць адна.

І ўзмацняючыся шматкроць новымі галасамі з кожным словам, узнесліся да Купала другі радок, потым трэці і чацвёрты…

Яна з табой, анёле мой,
З табой заўжды яна.
Хто любіць, той і люб.
Хто светлы, той і свят
І ты за гэтай зоркаю
Ў дзівосны крочыш сад.

Суддзя нарэшце дасягнуў пляцоўкі і, цяжка аддзімаючыся і сапучы, пхнуў клетку ўніз.

Натоўп здрыгануўся, быццам праз кожнага з іх прайшоў электрычны разрад, імгненна наэлектрызаваўшы людзей. Яны пачалі ціснуцца адно да аднаго і да лесвіцы, што вяла да Трубы. Натоўп перастаў быць натоўпам, а стаў нечым адным, вялікім, рашучым. І адлегласць паміж гэтым нечым і лесвіцай няўмольна змяншалася…



Уладзімір ГЕТМАНЧУК

# ШУКАЮ ПОЗІРК ТВОЙ



***Уладзімір Гетманчук нарадзіўся 28 сакавіка 1957 года ў вёсцы Шчакоцк Іванаўскага раёна. Працуе галоўным эканамістам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Іванаўскага райвыканкама. Выдаў зборнікі вершаў «Зараніца» (1994), «Пах чаромхі і аеру» (2011), «Черёмуховый край» (2012).***

## ПІРАГІ

Дзяцінства ў хаце ўтульнай, цеснай.
Ўспамін сардэчны й дарагі:
На ноч матуля месіць цеста —
Назаўтра будуць пірагі.

Я рады гнаць і сон, і стому,
А маці, хоць і гоніць спаць,
Ды дазваляе мне малому
Сырое цеста каштаваць.

І ўжо назаўтра — ледзь прачнуся —
На кухню бег, дзе, як стагі,
На ўслоне доўгім пад абрусам
Уздоўж стаялі пірагі.

За стол садзіліся ўсе разам.
І маці рэзала пірог.
І я руку цягнуў адразу:
Малы, стрымацца я не мог.

Ад пірагоў свяціўся ранак
І адыходзіла туга.
І я трымаў з такім стараннем
Кавалак пахкі пірага.

Сплыло дзяцінства. І сягоння
Забыць ніяк я не магу —
Было жыццё, і жыта з сонцам
У тым крамяным пірагу.

## ПРЫЦЯГНЕННЕ

*І сэрцу, сэрцу б узляцець…*

Ды хмельны водар травастою,
І золкі холад срэбных рос,
Ручнік туману над ракою,
Жытнёвы колер тваіх кос;

І агнявых пачуццяў гронкі
Ў спякоце згубленых начэй;
І голас твой, як неба, звонкі,
І зорны свет тваіх вачэй;

Салодка-спелы звон ранетаў,
Пахілы долу вербалоз,
Ў стагі пакладзенае лета
І абгарэлы ліст бяроз;

Мая няскончаная песня,
Галінка бэзу пад акном,
Жаўрук нястомны ў небе веснім
І на Палессі родны дом;

І грамада сяброў нязменных,
І зоркі мной пражытых год…
Маё зямное прыцягненне
Не дазваляе мне узлёт.

* * *

Твой позірк, нібы чары,
Ганю — не адганю.
А маладзік — у хмару,
Як рыба ў глыбіню.

Я стаў бы на калені,
Твой цалаваў бы цень.
Ды бэзаваю пенай
З начы выходзіць дзень.

Гарачай птушкай — сонца
Скрозь ранішні сувой…
Я ноч і дзень бясконца
Шукаю позірк твой.

Пад кронаю зялёнай
Маю хвалююць кроў
Арэхі воч здзіўлёных
Пад тонкім лісцем броў.

* * *

Гаворыць маці мне:
«Між людзі,
сыночак, многа не хадзі».
А я ў адказ:
«Сяброў не будзе —
Што буду я рабіць адзін?»

І я заўжды выходжу з дому,
Іду між жорсткага жніўя…
Бо шчасце ў тым, каб быць самому
Вышэй уласніцкага «я».

* * *

Вясна… Вясна…
Вясна на ўсім Палессі.
У небе — жаўруковыя званы.
Успыхваюць цудоўныя пралескі,
Напоўненыя водарам вясны.

Чаромха прымярае вэлюм белы,
У аксаміце рэчак берагі.
І жоўценькія сонейкі падбелу
Запальваюць зялёныя лугі.

Трымценне думак, мройлівае шчасце.
Прыемна, што я сын тут, а не госць.
Вясна, вясна — душы маёй прычасце
І Беларусі мілай прыгажосць!



# ПАМІЖ ТАЕМНАЙ ВЕЧНАСЦЮ І ЯВАЙ

*Мікола АЛЯХНОВІЧ*

## СЭРЦА МАЁ

Не ў жалобе я і не ў скрусе:
Проста ў сэрцы начуе боль...
Не ўяўляю, што не прачнуся,
Не пачуюся больш з табой.

Ах, як цісне, сціскае грудзі,
І плывуць у вачах кругі...
Патрымайся, дурное, на людзях,
Не выходзь за свае берагі.

Можа, быў не такі, як усе я,
І не тое, што трэба, цаніў.
Не цярпеў у жыцці фарысеяў,
Не гадаў на чужой далані.

Не прасіў, не стаяў на каленях,
Хоць і можна было б прасцей...
Не дазволіла ты сумленню
Абярнуцца ў бязважкі цень.

Не баяўся ні спёкі, ні сцюжы,
Ні марозу, ні нуднай слаты.
Горды быў, што нягоды адужаў...
І не цяміў, што ўсё гэта — ты...

...Нешта цісне, сціскае грудзі,
І плывуць у вачах кругі...
Патрымайся, дурное, на людзях,
Не выходзь за свае берагі.

*Аляксей ГАНЧУК*

## ЯДНАННЕ

Умоўная мяжа — квадрат акенца.
Па гэты бок — утульнасць і цяпло.
Па той — дарогі снегам замяло
І свет вялікі плача і смяецца.

Умоўная мяжа, што нас ратуе
Імгненнямі ад холаду ў душы,
Яднае неба й нас, бы спарышы,
І поўніць верай раніцу святую,

Калі анёл з галубкаю бялявай
Здымаюць боль з жыццёвага крыжа...
Ярчэй і звужаецца мяжа
Паміж таемнай вечнасцю і явай.

* * *

Як мошкі, пазлятаемся да хлеба,
То хвалім, а то скардзімся на час.
Няма калі ў зажуранае неба
Зірнуць, хоць неба моліцца за нас.

Дзесь там за намі сочаць: от жа людцы,
Як можна жыць нагамі дагары —
Падковы гнуць, смяротным боем б’юцца,
Ажно зямля-пакутніца гарыць!

Мільёны ж — абыякавых, маўклівых,
Адзінкі йдуць за іх на эшафот...
Скажыце, людзі, хто між вас шчаслівы?
Не чую: ціша дрэмле ля варот.

*Уладзімір ХРЫСЦЮК*

## ВАЛОШКІ

Мы ішлі з бабуляю з балота,
Жытнім полем сцежка нас вяла.
Спелага калосся пазалота
Пахам хлеба шчодра абдала.

А паўз сцежку, між сцяблінак рэдкіх,
Быццам хто рассыпаў сінь нябёс,
Усхвалялі лета цуда-кветкі.
Шмат да хаты іх тады прынёс!

Давялі мы кветачкі да ладу,
І сказала бабка: «Галубок,
Заўтра пойдзем мы з табой на клады,
Занясеш матулі свой вянок».

Упершыню да мамы на спатканне
Я ішоў туды… О, горкі лёс!
З пачуццём сыноўняга кахання
Сіняву яе ж вачэй ёй нёс!

Муравою прараслі дарожкі.
Шмат чаго ўжо болей не пазнаць.
Толькі тыя, з хутара, валошкі
І па сёння мне ў вачах стаяць!

*Валянціна ГІДРЭВІЧ*

## ПЕСНЯ ЖАВАРАНКА

Крыльцы, малыя, ды моцныя,
Песню вяртаюць палям.
Вас, невыказнага носьбітаў,
Чуць не стамляюся я.

Песняй душа мая весніцца,
Радасць яе не суняць.
Госці мае паднябесныя —
Небу і сонцу радня.

## БАБУЛІ

Пакінула гора на твары маршчыны,
І часта пад сэрцам пячэ.
Зямлю абаўюць, што ўтаптала, сцяжыны…
Да Госпада хочаш хутчэй.

Ды словы ёсць словы, а духам імкнешся
Туды, дзе жывое цвіце.
Гады адыходзяць, і ты мне здаешся
Усіх маладых маладзей.

Усмешкаю мудраю праўнукаў будзіш.
Да фальшу — прыроджаны слых…
Бабуля мая не карае, не судзіць
І любіць старых, і малых.

Пакінула гора на твары маршчыны,
А голас жывы, не дрыжыць.
Бабуля мая, яшчэ доўга вучы нас
Як нам на зямлі гэтай жыць.

* * *

Ў руцэ рука — і ўжо рака
Пачуццяў падхапіла.
Ні я з другім, ні ты з другой
Ў ёй не кружлялі, мілы.

Пяшчота рук, і сэрцаў стук —
Нясуць у неба крылы.
Ні я з другім, ні ты з другой
Там не лятальі, мілы.

Ў руцэ рука…

* * *

Забываюцца твае радзімкі —
Вывучаю кожны раз наноў.
І ляцяць шчаслівыя іскрынкі —
Светлячкі напаўзабытых слоў.

Для мяне яны вяртаюць свята.
Ты прыйшоў — і прыпыніўся час.
«Восень развітаннямі багата…»
Хай такое будзе не пра нас.

* * *

Каханне згубіць прысмак горкі —
Ты толькі ў гэта вер, трывай!
Высокі храм заселяць зоркі,
Адно на лёс не наракай.

Загояцца рубцы і раны
(Такое і да нас было),
І ў храме, у чароўным храме
Успыхне Боскае святло.

## ПЫТАННЕ

А ці па тых блукаю я гаях,
Ці ў тых краях жывой вады шукаю?
І што я прачытаю у вачах
Таго, хто верш мой першым прачытае?..

Валянціна ЛОКУН

# ЦЭНТРАМ БЫЦІЙНАЙ ПРАСТОРЫ

Літаратура нашай вобласці — значная частка нацыянальнай сацыякультурнай прасторы. Можна сказаць — яе люстэрка. Тут жывуць і працуюць творцы, неабыякавыя да свайго нацыянальнага дома, яго гісторыі і будучыні. Толькі цягам апошніх двух гадоў выйшаў шэраг кніг, на якія хацелася б звярнуць увагу чытача. Гэта зборнікі вершаў «Шаны» Анатоля Шушко, які летась быў адзначаны літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон», «Скрыжалі душы» Алеся Паплаўскага, «Сляды ад верасня» Мікалая Бусько, «Сляды на пяску» Анатоля Галушкі; зборнік прозы аднаго са старэйшых літаратараў Брэстчыны Аляксея Каўко «Неаб'емнае» (пасмяротна), зборнік казак Георгія Марчука «Добрае сэрца» і яго ж зборнік навел у перакладзе на рускую мову «Ластаўкі над Гарынню», аповесці Анатоля Бензерука «Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля», Расціслава Бензерука «Цвёрды арэшак» (назва аповесці вынесена на вокладку анталогіі, што сёлета выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Маладзік», уклад. Алена Масла), Зінаіды Дудзюк «Нямеранае багацце», кніга мастацка-дакументальнай прозы Анатоля Крэйдзіча «Роднае, шчымлівае», кніга прозы Аляксандра Валковіча «Лето красных лошадей». І іншыя.

У гэтых нататках хачу адзначыць творы тых пісьменнікаў, якія засталіся па-за ўвагай літаратурнай крытыкі.

Звернемся да кнігі **Анатоля Шушко** «Шаны». Гэта другі па ліку яго паэтычны зборнік, можна сказаць, выбранае паэта (першы — «Выток і прычасце» — быў выдадзены ў 1994 годзе ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць»).

Мова Анатоля Шушко — «беларуска-паляшуцкая», народная, багатая на аўтарскія наватворы, а свет яго слова — арыгінальны і адмысловы. Ён паэт незвычайны. Варлен Бечык яшчэ ў 1981 годзе, на самым пачатку творчага шляху Шушко, заўважыў «*выразныя рысы асабістасці, уласнага светаадчування*». «Выразнымі рысамі асабістасці» пазначана і кніга «Шаны». Нават яе назва змяшчае ў сабе некалькі сэнсаў: яна перагукаецца і з назвай вёскі паэта — Сташаны, і з зычаннем дабрыні — шанаў, і з пачуццём падзякі — шанаваннем.

Цэнтрам быційнай прасторы для Анатоля Шушко застаюцца Сташаны:

Сто шан табе, мой лан, мой кут
З папінаміі ля хаты!
Дзе ж адпачну, калі не тут,
Як птушанё, крылаты
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сто шан табе, сташанскі хлеб!
Стазыкая падзяка!
Ты і сягоння на стале
Ка мне неабыякі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сто шан і вам, браткі мае,
Палешукі-рупліўцы!
Хай усяго для вас стае
І у садку, й на ніўцы.
*(трыпціх «Сто шан для Сташан»)*

Аўтар выказвае малой радзіме і землякам «*палешукам-рупліўцам*» «*сто шан*». Тут яго дом, яго гнездаванне, і ён — «*як птушанё, крылаты*». Менавіта тут ён чэрпае сілы для жыцця і творчасці. Сэрцам, душою рвецца паэт да свайго Дому. Яны духоўна знітаваныя. Ён прасвятляецца яго «*светласцю*»:

Я — дома.
Перапоўнена душа!
Вядома:
Сэрца шчырае
гавела.
Я што ні год
Штодня
СЮДЫ
спяшаў,
адно б у ёй —
у крэўнае —
святлела.

Дом паэта — гэта частка вялікага нацыянальнага Дома, які завецца Беларуссю. Паэт стварае эпічны малюнак вялікай сілы, дзе сінкрэтычна паядноўваюцца дзве прыродныя стыхіі: жывая і нежывая, якія ў сінтэзе сімвалізуюць глыбінныя асновы, вытокі жыцця, быццёвую ўгрунтаванасць беларусаў.

Мне не можна ў любові табе не прызнацца,
Бо ўсе рэкі твае хвалі ўспеняць:
— Нягож!
Буг і Прыпяць, Дняпро, Стыр з Гарынню,
А значыць,
Нёман, Вілія, Віцьба з Дзвіною і Сож…

Колькі вен, капіляраў бруяцца, Радзіма,
Па ўсім целе тваім, каб не збыў чалавек.
Поіш, гоіш яго, як матуля адзіна,
Ты штодзень,
і штомесяц,
штогод
і навек.

Карціць паэту дазнацца і пра карані:

Нашы дужыя продкі,
Прадзеды і дзяды,
Адкуль былі яны родам,
Дзе іх маленства сады. *(«Дзяды»)*

Напружаннем мастацкай пошукавасці прасякнуты верш «Белавежская пушча». Гэта таксама частка Радзімы паэта, таямнічая ў сваёй гісторыі. Аўтару патрэбна ведаць: «*Адкуль бяруць свае вытокі / Ласіны бег, зубрыны рык. / І дуба волатава сіла, / І тайна чорнага бусла…/*» Яму хочацца прасіць праз маленне:

Адкрый святыя таямніцы.
Як аканіцы, расчыні.
Дай мне хутчэй прыпасці ніцма
Да слыннай споведзі крыніц
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тваёй гісторыі…

З паняццем Радзімы ў Анатоля Шушко асацыіруецца, канешне, мова. Абодва пачаткі з'яўляюцца грунтам, на якім трымаецца «самасць» чалавека. «*У жыцці здавён закладзена аснова: / Тут знітаваны Бацькаўшчына з Мовай*».

Светла і шчымліва піша Анатоль Шушко пра маці («У дзень нараджэння», «Маці», «Матулін запавет»), запавет якой застаўся для паэта галоўным законам жыцця:

Сцеражы сваё шчасце,
бо яно не пажыткі.
Спатыкнуцца і ўпасці
лепш на сцежцы, што ў жыце.

Дамінантай творчасці Шушко з'яўляецца стыхія прыроды. Пранікаючы ў самую сутнасць яго паэзіі, фарміруючы сэнсавую і стылёвую адметнасць, яна надзяляецца вялікай сілай — жыватворнай, і глыбінёй — філасофскай:

Агромністае неба нада мной,
І я пад ім з НАДЗЕЯЮ высокай,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як чыста на душы! Якая сінь!
Рака і салаўі. Вякуе плынь.

«Рака і салаўі. Вякуе плынь» — гэта метафара жыцця як спрадвечнасці! Паэзія Анатоля Шушко — як таленавітая карціна і добрая песня адначасова, так арганічна спалучаюцца ў ёй музычны і жывапісны пачаткі.

Жыву на поўдні Беларусі,
Дзе Прыпяць Піне шчыра раіць,
Каб Струмень хваль агучыў гуслі,
Маўляў: «Хай граюць!
Пра што кажу
Як на Палессі
Адзінаплынны рэкі й песні».
*(«Прызнанні палешука»)*

У творчасці паэта, як і ў ягонай душы, адбываецца натуральнае спалучэнне, зліццё ў адну плынь «музычнага водгулля», што зыходзіць ад прыроднага асяроддзя, і таго, што адчувае чалавек.

О восень! Медзі звон над галавой
і шаргатлівы смутак пад нагою.
Нядобра жыць пацехаю адной,
нішчымным быць, абранаму тугою.

Літаральна зачароўвае раздзел «Жывапіс успамінаў». Гэта — сапраўдная песня жыцця, пададзеная Шушко ў фарбах, гуках, у найтонкіх аўтарскіх адчуваннях. «Акварэлі вясны», «Акварэлі лета», «Гуаш восені», «Алей зімы» — усё гэта з чарадаваннем Дня, Вечара, Ночы, Раніцы. Гэта — свет сапраўднай гармоніі, любові і дабрыні. Вось малюнак Дня з «Акварэлі лета»:

На водары фарбаў настоены,
Звініць збажыноваю песняю
Жаўрука…
Сіней за крыніцы вескія
Глядзіць вачыма няўмольнымі

Васілька.
Зязюльчыным клічам
Хвіліны лічыць.
Гукае. Шукае. Чакае.

Верш вызначаецца метафарычнай паліфаніяй. Так ствараецца складаны малюнак прыроднага жыцця, гарманічнага, светлага, няспыннага, у які ўпісваецца, як частка гэтага жыцця, і вобраз Васілька, — у дадатак да «*збажыновай песні жаўрука*» і «*зязюльчынага кліча*».

Метафарызацыя тэкста, такая «густая», і сімвалізацыя вобразаў — ускладняюць мастацкую структуру вершаў, садзейнічаючы праз гэта пранікненню паэта ў філасофію быцця.

Думныя калоссі.
Ім расці, гусці.
Мне таксама трэба
Па жыцці ісці.
Па-за краем —
неба.
Вечнае — адно.

Праз наздрынку
хлеба
Усё жыццё відно.
*(«На сцежцы ў жыце»)*

Анатоль Шушко імкнецца стварыць сваю мастацкую мадэль свету — цэласнага і бясконцага, гарманічнага і духоўнага, такога свету, у якім адчуванні аўтара і яго героя сумяшчаюцца, дапаўняючы адзін аднаго. «Я» лірычнага героя Шушко сінтэзаванае: суб'ект-аб'ектываванае. Яго героі — шматмерныя, здольныя да змен і пераўтварэнняў, што дае магчымасць судакрануцца духоўна з безліччу жыццёвых праяў і станаў. У гэты момант родавае і індывідуальна-асобаснае, матэрыяльнае і метафізічнае — дыялектычна звязваюцца:

Я — не магільны спрат,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я — не наўмыснік страт
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я — цішыні нячысцік.
Я — страх,
я — крах,
узмах,
Што вераю вячысты.
Я — голас пачуцця.
Я — колас сярод жыта.
Панадлівы прасцяг,
Няўрымслівае сіта. *(«Я»)*

Паэт нібыта раскрывае свайго героя праз свет-універсум і адначасова — праз свет у сабе.

Анатоль Шушко прызнаецца, што кожны паэт народжаны сваім часам, і што ён — «*паэт ХХ стагоддзя*», паэт гармоніі і прыгажосці. Пэўна, таму ў яго тэкстах можна сустрэць і часам празмерную пачуццёвасць, і пафаснасць, месцамі нават патэтычнасць. Мастацкі свет яго — асацыяльны, гэты творца адмаўляе не канкрэтнае зло, а зло ўвогуле, «усеагульнае», «*бо насамрэч: нашто патрэбна зло? / Дзеля чаго нявечыць гоман весні — / Людскія душы, дзе адно святло / І цеплыня натхняюць сэрца песні?*». Для Анатоля Шушко паэзія — не толькі светаўспрыманне, светаадлюстраванне, самавыяўленне, яна — яго галоўны сэнс жыцця, экзістэнцыя. Ён «*вершам прарастае*». Адсюль і заклік: «*З жарыначак распальвайся радок, / Азорвай, палымянься родным словам / ...Агменься, рознасцежвайся, бруі, / Руладзься... Тое зычаць салаўі*».

Сваімі паэтычнымі дыскурсамі Анатоль Шушко бліжэй стаіць да мастацкага вопыту Міколы Купрэева. Абодва — палешукі: па светаадчуванні і духоўнай скіраванасці.

* * *

**Анатоль Бензярук** вядомы айчыннаму чытачу найперш гістарычнымі і гісторыка-краязнаўчымі працамі. У мінулым годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла аповесць «Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля». Кніга адрасавана дзецям сярэдняга школьнага ўзросту. Твор прысвечаны вялікай Грунвальдскай бітве.

Як і раней, Анатоль Бензярук сцвярджае сябе ў якасці пісьменніка, гісторыка-мастацкай прозы. Ён адлюстроўвае старасветчыну, рамантызуючы той час і яго герояў. Тэксты яго — напружаныя і дынамічныя, нібыта літаральна з іх сама гісторыя — велічная і трагічная — выходзіць напрасткі да чытача. Карціны мінуўшчыны пісьменнік піша яркімі фарбамі, ствараючы панараму народнага жыцця, ён засяроджваецца на тых рысах характару герояў, якія вызначаюць якасці заступнікаў і ваяроў: адвага, рашучасць, ахвярнасць або, наадварот, жорсткасць, хітрасць, крыважэрнасць.

Стылёвай дамінантай аповесці Бензерука з'яўляецца фальклорная сказавасць, у якой намінатыўная функцыя слова неад'емная ад ацэначна-экспрэсіўнай: «*Мінула дзвесце гадоў, як прыйшлі заваёўнікі на балтыйскі бераг. Быццам каменныя зубы, убіліся ў зямлю іх замкі. Растуць тыя драпежныя зубы год ад году*».

Анатоль Бензярук узбуйняе, міфалагізуе вобразы караля Ягайлы і вялікага князя Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Вітаўта. Экскурсіўна закранае і гісторыю іх складаных узаемаадносін. Толькі вайна — не час для асабістых крыўдаў. Ягайла піша ліст Вітаўту, каб забыць старое, паяднацца перад тым, як пачнецца вайна з крыжакамі: «*дзеля бацькаўшчыны, дзедаўшчыны, спадчыны нашых продкаў*». Аўтар падкрэслівае найперш патрыятычную скіраванасць вобраза Вітаўта. Адважны ліцвін, быццам асілак, будзе ў самым полымі бітвы. Адзін. Без аховы: «*Не трэба мне аховы. Жыццё і волю ахвярую Богу! Усё ў яго руках*»; «*гінулі пад Вітаўтам коні, ды развяваўся над полем, бы крылы, шырокі княжы плашч. І той, хто задрыжаў або хацеў адступіць хоць на крок, абуджаўся і йшоў наперад за сваім уладаром*».

Анатолю Бензеруку важна адлюстраваць Грунвальдскую эпапею як вайну народную, што пацвярджаюць уведзеныя ў тэкст вобразы-ідэі дванаццаці абаронцаў караля Ягайлы, дванаццаці адданых яму і Бацькаўшчыне ваяроў:

Былі ў караля
Сцяг і Труба,
Молат і Ключ,
Крыж і Зямля,
Лыжка, Падушка,
Незабудка, Страла,
Дзіда, Пяро —
Усе заадно!

Тыпалагічна герой Бензерука нясе ў сабе многае ад калектыўна-фальклорнага, міфапаэтычнага. Успрыманне рэалій жыцця не трансфарміруецца ў героя ў рэфлексію. Аўтар мадэлюе яго, героя, праз дзеянні, стасункі і сузіранне навакольнага. Псіхалагічны стан персанажаў дэтэрмінаваны іх учынкамі, духоўнай або, больш дакладна, патрыятычнай сутнасцю.

Кульмінацыя твора — сцэна бітвы, якую аўтар, што характэрна, параўноўвае з «*сячкарняй*», «*градабоем*»: «*Цапы малоцяць на таку, / Кладуць галовы, бы снапы, — / Ахвяры жудаснай вайны*». Усе рвуцца ў бой. Пісьменнік, нібыта рэжысёр спектакля, заўважае кожны рух, кожны ўзмах, ён усё бачыць, усё кантралюе. Проза яго, і раней рыфмаваная, цяпер набліжаецца да народнай песні: «*Войскі спусціліся з пагоркаў у нізіну.*

*— Гэтак імкліва сыходзіць лавіна…*»

І вось — бой. Ён пададзены ў велічна-трагічным ключы: «*Удар! Нарэшце… Схіснуліся палкі і грымнулі ў шчыты. Дзіды не вытрымалі такога напору, дрэўкі ламаліся, сыпаліся, бы салома. Ды збраяносцы тут як тут: вось новыя пікі ўжо падаюць. І ўсё спачатку: строй — напор — удар!*»

Гэты выразна-маляўнічы вобраз вайны дапаўняецца сведчаннем удзельніка тых падзей: «*Нага ціснула на нагу, вастрыё дзідаў глядзела ў твары ворагаў. Калі харугвы зышліся, нельга было адрозніць палахлівага ад смелага, мужнага ад баязліўца, бо ўсе змяшаліся ў клубок. Стала немагчыма нават змяніць месца, прасунуцца на крок. Адна надзея пайсці наперад — гэта калі пераможца адолее праціўніка, што б'ецца насупраць. Выб'е недруга з сядла — зойме яго месца. Нарэшце дзіды былі паламаныя, шыхты з абодвух бакоў самкнуліся, даспех з даспехам злучыліся, мячы, сякеры страшна грымнулі, нібыта молат па кавадле. І людзі падалі, а іх таптаалі коні!*» Узнікае матыў вялікай народнай драмы. І вялікага супрацьстаяння.

* * *

Калі проза Анатоля Бензерука «вырастае» з гісторыі, то мастацкія дыскурсы **Анатоля Крэйдзіча** — з дакументалістыкі, жыццёвай канкрэтыкі, асобных біяграфій. У кнізе «Роднае, шчымлівае»[1] празаік апісвае сучаснага чалавека, імкнучыся намаляваць яго індывідуальны псіхалагічны партрэт, зазі-

[1] Рэцэнзію на гэту кнігу гл.: «Маладосць», 2013, № 2.

раючы ў яго памкненні, жадаючы зразумець жыццё яго — на першы погляд звычайнае, будзённае, простае. Але толькі на першы погляд. Бо праз гэтае індывідуальнае, канкрэтнае аўтар заглыбляецца ў сакральнае, каб выявіць агульначалавечае і агульнанароднае, нацыянальнае — і зусім «сваё», паляшуцкае. Шкада толькі, што пісьменнік, таленавіты сваёй сакавітай мовай, тонкім адчуваннем чалавека і жыцця, свету прыроднага, не так ужо часта радуе чытачоў новымі кнігамі.

* * *

**Валерый Гапееў** са сваімі героямі даўно «на ты»: добра ведае іх псіхалогію, паводзіны, узроставыя праблемы, пра наяўнасць у іх неадольнага імкнення да самарэалізацыі — няхай сабе і праз канфлікт з асяроддзем і ўнутраную бунтоўнасць.

Новая аповесць Валерыя Гапеева «Ведзьміна Тоня» — не пра бунт. Яна пра імкненне падлетка прыйсці «да міру» з дарослымі, сцвердзіцца ў гэтым жыцці «нароўні» з аднагодкамі. Праз героя аўтар задае пытанні дарослым: як жыць далей, калі табе толькі 14 год, бацька памёр у дзень твайго нараджэння, а маці п'яніца, калі з цябе здзекуецца айчым і ненавідзіць уся вёска, калі на цябе ўмольнымі вачыма глядзіць знямелая 5-гадовая сястрычка, прывязаная за нагу да дрэва, каб не збегла, — усім здзічэлая без матчынай ласкі і элементарнага людскага догляду?

Падлетак Сяргей, галоўны герой аповесці, за сем гадоў інтэрнатаўскага жыцця шмат чаму навучыўся, але найперш — хаваць крыўду і слёзы. Навучыўся трываць боль, бо як інакш бараніцца ад крыўдзіцеляў, ад жыцця жорсткага, беспрасветнага? Ён добра засвоіў усе навукі, якія даваў яму гэты «*адасоблены свет няшчасных аднолькава, ды злых па-рознаму дзяцей-сіротаў*». Жыццё і людзі зрабілі падлетка ізгоем, адчужаным ад людзей, ён стаў нікому не патрэбным. Акрамя Нэлькі, заўсёды галоднай, як галодным быў і ён сам, пакуль не «*прызвычаіўся да свайго пачуцця голаду, як прызвычайваюцца людзі да мазалёў на нагах*».

Герой не разумее, «*чаму так?*» Ён адзін з Нэлькай, а супраць яго ўсе: і п'яная маці, і яе новы муж-зэк, і вясковыя бабулькі, і нават хлопцы-аднагодкі.

Аўтар падае поўнае драматызму жыццё-існаванне двух непаўналетніх дзяцей, жыццё сярод людзей, але без людзей — у будане, нібы на дзікім востраве. Малюнак жудасны. Узнікае нават пытанне да аўтара: ці магчыма такое сёння, пры шматлікіх органах кантролю і апекі, а галоўнае — навідавоку?

Сяргей стаміўся быць ізгоем, ён хоча жыць як усе, спаць у чыстай і цёплай хаце, каб побач — маці, цвярозая, і каб яна ім з Нэлькай гатавала ежу. Нарэшце, хоча ісці ў школу. І — сябраваць, з аднагодкамі. Зусім нямногага хоча хлопец, калі кіравацца звычайнай логікай. Толькі ж вельмі няпростым стаўся шлях героя да людзей, да паўнавартаснага, дакладней, людскага жыцця.

У ідэйна-мастацкай структуры аповесці тапонім Ведзьміна Тоня мае сімвалічнае значэнне: гэта топас, які адыгрывае вялікую ролю ў вырашэнні агульнай канцэпцыі твора. У гэтым месцы героі сталеюць, атрымліваюць першыя ўрокі жыцця, праходзяць праз «катарсіс» і духоўна ачышчаюцца.

* * *

Канцэптуальна з «Ведзьмінай Тоняй» Гапеева перагукваецца аповесць Расціслава Бензерука «Цвёрды арэшак». Ідэнтычная мадэль маральнага процістаяння: з аднаго боку — «цяжкі» падлетак, які расце без бацькі, з другога — «шчаслівец». Іх шлях «да міру» стаўся не такім драматычным, як у герояў Гапеева, але таксама быў няпростым.

* * *

Мы спыніліся толькі на некаторых імёнах берасцейскіх пісьменнікаў і аспектах развіцця рэгіянальнай літаратуры. (Няхай прабачаць тыя творцы, каго я не закранула: аб'ём часопіснага артыкула абмежаваны.) Кожны з аўтараў мае сваю творчую зацікаўленасць, сваю мастацкую прастору, свой жанравастылёвы фармат. Але ўсе яны — творац у рэчышчы праблем агульнанацыянальнай літаратуры і разам з ёю інтэгрыруюцца ў еўрапейскі літаратурны працэс.



## Прадмова рэдакцыі

*Зместам гэтай часткі нумара «Маладосць» абавязана намесніку дырэктара Ровенскай абласной універсальнай навуковай бібліятэкі Аляксандры Промскай, якая некалькі месяцаў запар перасылала ў рэдакцыю не толькі вершы і апавяданні літаратурных талентаў Ровеншчыны, але і працы тамтэйшых мастакоў святла і пэндзля — малюнкі і фота. «Выяўленчы дадатак» з работамі Ірыны Гардзеевай, Вікторыі Мартын, Сяргея Шчэглеватых, Аляксандра Лушчыцына і Ганны Пілюгінай чакае сваіх гледачоў на сайце «Маладосці» — у адпаведных арыгіналам колерах.*

*Рэдакцыя выказвае падзякі ўсім, хто працаваў над перакладамі і рэдактурай прозы, паэзіі і крытыкі гэтай часткі: Міколе Сянкевічу, Міколе Аляхновічу, Святлане Варонік, Адаму Шостаку, Раману і Ганне Латушкам. Дзякуем таксама Сяргею Сінюку (украінскі бок) — за аглядны артыкул па маладой украінскай літаратуры, і Жанне Шаладонавай (беларускі бок) — за матэрыял пра беларуска-ўкраінскія літаратуразнаўчыя сувязі.*

# *Дивне відчуття.*
## *Роўна роўныя радкі*





Арцём ВІШНЕЎСКІ

***Рэжысёр, сцэнарыст і драматург, нарадзіўся ў Роўне ў 1980 годзе. Вышэйшую адукацыю атрымаў на гісторыка-сацыялагічным факультэце Роўненскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам гісторыі. Вучыўся ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце тэатра, кіно і тэлебачання імя І. К. Карпенка-Карага па спецыяльнасці «Тэлерэжысёр». Заснавальнік і мастацкі кіраўнік моладзевага эксперыментальнага тэатра «МЕТР». Як рэжысёр і акцёр узнагароджваўся на фестывалях і тэатральных паказах.***

# ТЭОРЫІ

*(Урыўкі)*

### ЗАТАІЎШЫ ДЫХАННЕ...

Ён слімаком выпаўз са свайго дому, скакаў ценем па сонечным асфальце, круціў педалі. Падэшвы Яго ног агрубелі, — прыдбаў сабе чорныя рыфленыя мазалі, цела пакрылася вельветам і выдубленай скурай усюдыісных марак. Галодны пранізлівы вецер бяссільна дзьмуў Яму толькі ў спіну. Ён змешваў салёнае і салодкае, ніколі не граў на флейце, любіў чытаць жаночыя целы вуснамі і кончыкамі пальцаў, лічыў за лепшае лёгка казаць пра тое, што турбуе на самай справе і ніколі... Ніколі. Не зачыняў. Дзвярэй.

Рагатаў скрозь холад, а плакаў — даўно і ненапраўду. Затое выдатна высушваў чужыя слёзы, краў смагу і дрэнны настрой. Гартаў жыццё, бы кулінарную кнігу, смакуючы кожную страву, ведаў меру ў спецыях і ўставаў з-за стала своечасова. Тонка адчуваў геаграфію, паварочваў заўсёды направа, не хадзіў па коле толькі таму, што Яго ўвагу пастаянна адцягвалі. Раззбройваў жалезабетонныя сцэны, спавядаў Поўны Голас. Ён чырванеў за тых, хто крычаў Яму: «Дурань» і ўпарта калупаў іх шкарлупіны. Заўсёды мружыў вочы ад шчасця, бо поспех сапеў за Яго вухам. Спыняўся. Глядзеў у вочы. Не звяртаў увагі на плямы на Сонцы... І ішоў сабе далей, не затаіўшы дыхання...

Аднак, я зайздросціў яму толькі ў адным: Ён нарадзіўся своечасова, і Ён заўсёды быў мною.

## І ПРЫЙДЗЕ ДОЖДЖ...

Стаў на асфальт адначасова з першымі кроплямі. Падарожнічаць менавіта такім чынам ужо даўно стала Яго звычкай. Вецер — занадта непрадказальны, а адносна ападкаў — заўсёды можна зверыцца ў Гідраметслужбе.

Як заўсёды, Яго чакалі. Добра, хоць у гэты раз без чырвоных дываноў, левых заказных музыкаў і жартоўных алтароў.

Пасярод праезджай часткі, прымасціўшы свае маленькія босыя ступні на белую раздзяляльную паласу, пад цёплай летняю залевай мокла дзяўчынка пяці гадоў.

— Гэта вы? — у тонкім, амаль крыштальным голасе звінела нецярплівасць.

— Так. Я — Фатум, — давялося прысесці і ледзь нахіліць тулава, каб дзяўчынка магла дацягнуцца да пададзенай Ім далоні. — Прывітанне.

— Прывітанне, — кіўнула і досыць моцна сціснула сваёй ручкай Яго ўказальны палец. — Я ўжо даўно вас чакаю. Так і да... гэтай... пнеўманіі недалёка.

Дзяўчынка пераміналася з нагі на нагу.

— Ты хто? — Фатум выпрастаўся.

— Яшчэ не ведаю. Вы дапаможаце?

— У чым?

— Вызначыцца. Усе мае знаёмыя або яшчэ дзеці, або ўжо даўно ведаюць, чаго хочуць.

Ён паціснуў плячыма.

— Я выйшаў на пенсію. Падарожнічаю. Толькі прымаю ўшанаванні і праклёны. Наўрад ці змагу табе чымсьці дапамагчы. Вера ў мяне амаль вычарпалася. Бачыш, даводзіцца апускацца з нябёсаў на зямлю...

Ён хутка прымружыўся і хітнуў галавой... Здаецца, пeратаміўся. Галюцынацыі... ці дзяўчынка сапраўды падрасла на некалькі сантыметраў.

Яна ў гэты момант праводзіла позіркам адну з машын, што бесперапыннымі патокамі імчалі міма справа і злева.

— Яны ўсе кудысьці спяшаюцца. А я баюся зрушыць з месца. Раптам пайду не ў той бок. Па дарозе нешта знайду. Падбяру. Пераканаю сябе, што гэта — менавіта тое... А калі зразумею, то ўжо будзе позна. Стану гультаяватай, абцяжаранай дробязямі... Кажуць, азірацца — шкодна для здароўя, — можна шыю зламаць... Вы мяне ўвогуле слухаеце?

— Ты гэта... асцярожней...

Пад далікатнай дзяўчынай, якой, без сумневу, было не менш за чатырнаццаць гадоў, павольна пачаў прагінацца асфальт. Яна апусціла вочы і з захапленнем выгукнула:

— О-го! — падскочыла на месцы на адной назе. — Вы гэта бачыце?

Па асфальце папаўзлі ломкія расколіны.

— Добра-добра! — Фатум вымаўляў паспешліва, але выразна. — Я табе дапамагу. Пакуль яшчэ не позна...

— Спалохаўся? — яна здзіўлена падняла свае міндальныя вочы. Цяпер яе цемя размяшчалася на ўзроўні Яго падбароддзя.

— Не, — Фатум рэзка адвёў галаву і працягнуў дзяўчыне плашч, намагаючыся схаваць усхваляваны погляд. Сукенка, напэўна, не паспявала расці разам з уладальніцай і ўжо даўно трашчала па швах. «Дзяўчынцы» нядаўна споўнілася як мінімум дваццаць гадоў.

— Пачакай! — выгукнуў Фатум.

Неба разарвала маланка. Прагучаў гром.

Каля іх спыніўся аўтамабіль. Шкло з боку кіроўцы апусцілася. З-за яго вызірнуў малады чалавек.

— Вам дапамагчы? — захоплены погляд кіроўцы не вагаўся. Чэпкі і адкрыты.

— Гэта Ён? — захутаная ў плашч дзяўчына стаяла на дыбачках, — затое яе вочы былі насупраць вачэй Фатума.

— Не ведаю, — выціснуў ён. — Я не ведаю! — і па Яго шчаках пакаціліся слёзы. — Я страціў свой дар!

Яна асцярожна прыгарнула Фатума да сябе. Ён прыціснуў твар да яе вільготных валасоў.

— Супакойся... Усё будзе добра... Нічога... — рука дзяўчыны ласкава кудлаціла Яго галаву. Пасля, абхапіўшы далонямі з бакоў, падняла яе — і зазірнула ў вочы:

— Я сама ўсё вырашу. Не хвалюйся... Прабач, што патрывожыла, але, здаецца, мне час ісці... Так і да гэтай... як яе... пнеўманіі недалёка!

Яна засмяялася звонка і чыста.

Распагоджвалася. Сонца асцярожна, павольна выглядвала з-за хмар.

Фатум кіўнуў і, адступіўшы крок убок, адвярнуўся. Дзяўчына сумна паглядзела сабе пад ногі. Вада спадае...

— Дзякуй за плашч, — амаль прашаптала яна, абмінула Фатума і хутка пашыбавала наперад па белай раздзяляльнай паласе.

— Прабач! — як развітанне данеслася здалёк, — і дзяўчына растварылася ў смузе дымлівага асфальту.

— Гэта яна мне? — Кіроўца, усё яшчэ утаропіўшыся ёй услед, ліхаманкава спрабаваў вырашыць, ці выходзіць яму з машыны.

Фатум павярнуўся. На твары на месцы суму павольна з'яўлялася задаволеная, амаль хуліганская, усмешка:

— Кажуць, азірацца — небяспечна для здароўя, — і зарагатаў.

А неба стала чыстым-чыстым.

— Вы чаго? — малады чалавек з аўтамабіля нервова сціснуў вусны.

— Не. — Фатум ледзьве супакоіў смех. — Твой прыпынак далей... Выедзеш на 41-ю, на трэцім скрыжаванні павернеш направа, затым — адразу ж налева. Казіно «Янус». Дзяўчына з татуіроўкай матыля на левым плячы... Не ўпусці, — падміргнуў правым вокам.

— Што?!

— Першым народзіцца сын.

— Ідзі ты!.. Ідыёт!

Аўтамабіль сарваўся з месца.

Фатум стрымаў чарговы прыступ рогату. Шырока ўсміхнуўся. З асалодай, павольна, удыхнуў на поўныя грудзі. І падняў вочы да неба.

Над Ім збіраліся хмары...

***Пераклад з украінскай Рамана і Ганны ЛАТУШКАЎ***





*Валянціна ЛЮЛІЧ*



***У 2000 годзе з залатым медалём скончыла ААШ № 25, а ў 2005 годзе — з адзнакай — Нацыянальную юрыдычную акадэмію Украны імя Яраслава Мудрага (Харкаў). Працуе ў органах пракуратуры Роўненскай вобласці. Аўтар кніг паэзіі «Світ у долонях» (2012) і «Яблуневе сонце» (2012). Свае вершы і творы іншых аўтараў кладзе на музыку і выконвае на літаратурных вечарынах і сустрэчах у суправаджэнні гітары.***

# ДОЖДЖ ПЛАЧА ЗА МЯНЕ, НЯХАЙ

* * *

Здараецца ў жыцці і так:
Ніхто нічога ўжо не просіць.
Закончу дзень, павешу знак:
«Зачынена на перавосень».

Перажыву, перадюблю,
Перачакаю, перабуду.
Слату ў сабе я перасплю,
Назаўтра ж зноўку заўтра будзе.

У думках, што ў бярлозе той
Ад сівера знайду я схову.
Перакладаю — пад рукой —
Цяпло зімы і лета холад.

Час прыйдзе — насцеж расчыню
З арнаментам любові дзверы.
Вось толькі восень перасплю
На лаве супакою ў скверы.

* * *

Дождж плача за мяне, няхай.
Удзячная, што не хавае слёзы.
Рыдае мне ў расплеценыя косы.
З ім на дваіх адзін халодны чай.

Дождж плача за мяне. Не спіць. Ідзе.
Цяпла шукае, ўсім цалуе рукі.
Надзеяй асвячае ён разлукі.
Ды не чакаюць, аніхто нідзе.

Дождж плача за мяне, як і за ўсіх,
Слязамі амывае развітанні,
Цалуе ўсё, нібыта ў раз астатні…
Ды раптам супыніўся і заціх.

Дождж плача за мяне… Але дарма —
Павекі падняла: ты поруч, блізка.
Мой дождджык, я прашу цябе: не лісяǃ
Ад шчасця буду плакаць я сама.

* * *

Я прыспала нечыя надзеі,
Зорка жарсці — цалкам не мая.
Я кахаю, покуль мроі тлеюць.
Я жыву, пакуль у мроях я.

То не наша зорнае раздолле.
Пуста на чужых надзей палях.
Пасвятлеюць вочы нечай долі —
Усміхнуся, покуль мрою я.

Развяду на скрыжаванні рукі,
Пад нагамі круціцца зямля —
Незямныя, паднябесся рухі
У мяне, пакуль у мроях я.

Паплыву па рэчцы, што напеўна
Амывае берагі жыцця.
Не чужым, сваім жыццём, напэўна,
Буду жыць, пакуль у мроях я.

* * *

Я пацыентам, госцем тут.
Павінна годна быць прынята.
У шостую сваю іду,
А нехта ў пятай.

Тут, у палаце, нібы сон,
Вам не абы-якія людзі —
Вось прэзідэнт, Напалеон…
І гвалт усюды.

У словах пафас, не стрываць,
І толькі логікі — ні грана.
Як мяч, пустая галава.
І раскаваны.

А за дзвярыма цішыня,
Надзеі, мары ёй распяты.
Ледзь чутна, як псалмы бубняць,
Ды гэта ў пятай.

Было б стэрыльна, бы ў раі,
Каб не жаданні, вочы, вера.
Тут не пазнаеш і сваіх
Ад недаверу.

Ці свой, ці госць — акажаш чэсць,
Заходзь, не трэба дакументаў.
Наш свет — палата нумар шэсць.
Мы — пацыенты.

***Пераклад з украінскай Міколы СЯНКЕВІЧА***

# ВАРТАСЦЬ

— Вы жывыя?! — выскачыўшы з аўтамабіля, запытаў я мужчыну, які ляжаў без прытомнасці пасярод дарогі.

— Мужчына! Мужчына!.. З вамі ўсё добра?! — тузаў незнаёмца за рукаў расшпіленай цёмна-карычневай курткі.

У цемры гарадской вуліцы, ледзь асветленай агеньчыкамі шматпавярховак, пачаў заўважаць барвовыя плямы, якія праступалі на галаве, твары, залівалі халодны асфальт.

— Людзі, ну чаго ж вы такія? Бачыш, і ўцёк адразу! — мармытаў, усхвалявана дастаючы з правай кішэні мабільны тэлефон.

— Хуткая дапамога слухае вас. Кажыце, калі ласка, — пачуўся голас дыспетчара.

— Тут чалавек! Разумееце, чалавека збілі! Яму дрэнна! Зусім дрэнна! Хутчэй сюды... Га. Так. Адрас? Вуліца Па-па-панаса Мірнага, дарога, каля дамоў, святлафора, цыгарэтнага латка... Хутчэй, я вас прашу!

— Едзем! Шостая брыгада, увага!.. — даносіўся жаночы голас са слухаўкі.

А побач ні чалавека, ні аўтамабіля. Толькі ноч, цішыня і прахалодная трывога.

— Дзякуй Богу, пульс ёсць. Значыць, жывы. Трымайся, хлопча! Табе ж яшчэ жыць і жыць!

— Ды ну дзе ж яны?..

— Едзем на маёй. Так. Гэтак будзе хутчэй. Цябе выратуюць. Толькі трымайся, хлопча, — паўтараў, перацягваючы небараку да задніх дзвярэй аўтамабіля.

— Вось так, кладзіся сюды, ногі трохі падагнем. Едзем. — Гаварыў сам сабе.

— Якое ж чалавечае жыццё ўразлівае і безабароннае. А людзі? Ну хіба ён не бачыць, куды ляціць? Хіба не бачыць, што чалавек? Дык разуй вочы, паглядзі. Ну, цёмна. Як заўсёды эканомяць на... Ды на чалавечым жыцці яны эканомяць! — мармытаў па дарозе ў бальніцу.

Заблішчэлі сінія агеньчыкі прыёмнага аддзялення.

— Сястрычка, тут чалавека збілі, ён без прытомнасці. Дзе лекар? Хутчэй! Калі ласка!

— Іванавіч! Іванавіч! Ёсць праца! — гукала ў пусты доўгі калідор сонная медсястра, зашпільваючы чысценькі белы халат.

— Што там ужо сталася? Каму дрэнна? І не спіцца ж ім! — незадаволена жмурыўся ад святла Мікалай Іванавіч, сярэдніх гадоў мужчына.

— Доктар, тут чалавека збілі, ён без прытомнасці, скрываўлены.

— Дзе пацярпелы?

— У аўтамабілі.

— Хлопцы, ідзіце. І вазок не забудзьцеся. Паглядзім, што тут за праблема. А вы якім чынам тут? Кім яму даводзіцеся?

— Я? Ніхто! Еду, значыць, цёмна. Бачу: пасярод дарогі чалавек непрытомны, вось і спыніўся. Падбег. Гляджу: жывы, але ўвесь у крыві. Я яму кажу, а ён не чуе. Падымаю галаву — наперадзе мільганулі чырвоныя агеньчыкі аўто. Вуліца цёмная, нічога не відаць. Спалохаўся. Адразу ж выклікаў хуткую. Чакаць не стаў, доўга неяк, дык сам справіўся. Доктар, выратуйце яго! Яшчэ малады, шкада хлопца.

— Разбяромся. Хутчэй за ўсё ў яго адкрытая чэрапна-мазгавая траўма, магчыма, пераломы, ну і ўсё такое, — абыякавым тонам канстатаваў лекар.

— Значыць так: у нас бальніца дзяржаўная. Вы разумееце, ні ваты, ні бінтоў, ні абязбольвальнага. Звычайна пацыенты прыязджаюць ужо са сваім.

— Доктар, ратуйце жыццё, а там разбяромся!

— Я выратую, але з мяне заўтра спытаюць: куды лекі падзеў? Дык вось, лячэнне бясплатнае, а лячэбны матэрыял, хочаш не хочаш, трэба аплаціць. Ды і праца гэтая звышурочная... Вы разумееце?

— Доктар, я вам усё аддам! — паўтараў я, корпаючыся ў кішэнях. — Вось, вазьміце, — працягнуў сто грывен, якія ляжалі, складзеныя ў чатыры разы, у кішэні джынсаў. Больш няма. Але ратуйце!

— Вось як будзе, тады і будзе чым ратаваць. А пакуль наш хворы нікуды не ўцячэ!

— Ну што ж вы такі?... Што за сістэма такая? Ды будзе хутка, будзе! Колькі трэба?

— Для пачатку пяцьсот. А далей залежыць ад лячэння.

— Рабіце нешта, прывязу-у-у-у... — гукаў я, вылецеўшы праз дзверы прыёмнага аддзялення, ужо каля аўтамабіля.

— Ну заводзься ж ты, давай...

— Дзе наш хворы? — абыякава запытаў Мікалай Іванавіч у дзяжурнай медсястры.

— Стаіць ці, дакладней, ляжыць на вазку каля аперацыйнай.

— Дык няхай яшчэ крыху пачакае, а то заўтра з мяне спытаюць. А ў мяне сям'я. Чым заўтра буду карміць сына? Гэтым вось іх дзякую. З маім прафесійным узроўнем і з іх дзяржаўнымі заробкамі... Эх...

— Ну дзе ж мужчына? Дзесьці затрымаўся. Магчыма, уцёк. Гэта ж чужы чалавек. Правільна. Навошта ён яму? А мы і так дапаможам, калі не прыедзе. Як-ніяк дзяржаўныя, — казаў лекар ці то медсястры, ці то сабе.

— Паўгадзіны ўжо няма. Добра, пайду хоць пагляджу, што там такое з тым непрытомным.

Праз імгненне ўляцеў бледны.

— Аперацыйную! Хутчэй! Спіцё ці аглухлі? — не сваім голасам крычаў Мікалай Іванавіч.

Ціхі бальнічны гадзіннік, які ў гэты час здаўся занадта гучным, выбіў яшчэ хвілін пятнаццаць. Адчыніліся дзверы аперацыйнай, адтуль ледзь выйшаў белы, як палатно, яшчэ нядаўна абыякавы лекар. Яго цела ціха спаўзло па зялёнай сцяне на халодную падлогу, а рукі з болем абхапілі галаву...

— Докта-а-ар... Я ўжо тут, вазьміце... усё вазьміце... — задыхана і ўсхвалявана нёсся слізкім бальнічным калідорам.

— Што там? Што?! — спытаў я, пабачыўшы вялікія, поўныя болю, шэрыя вочы лекара. — Што здарылася?

— Забярыце ўсё, што прынеслі. Забярыце!!! Гэта быў мой сын! — зарыдаў Мікалай Іванавіч.

— Ён жывы? Скажыце, ён жывы?

— Гэта быў мой сын! Госпадзі!!! За што? Мой адзіны сын...

*Пераклад з украінскай*
*Рамана і Ганны ЛАТУШКАЎ*



Віктар ШУПЕР

***Нарадзіўся ў 1988 годзе ў горадзе Здалбунаў на Роўненшчыне. Вучыўся ў Міжнародным эканоміка-гуманітарным універсітэце імя акадэміка Сцяпана Дзем'янчука ў Роўне. Празаічныя і вершаваныя творы піша па-ўкраінску і па-руску. Захапляецца псіхалогіяй і філасофіяй. У лірыцы пераважаюць песімістычныя настроі, тэмы пошукаў сябе і патрэбы ў пазнанні свету. Любімыя жанры — свабодны верш і эсэ.***



# ПРОСТЫМІ СЛОВАМІ МЫ НЕ ГАВОРЫМ

## УСМЕШКА

Калі табе так проста падаруюць,
то падаруй не толькі «дзякуй»
у адказ, але і ўласны дар.
Я ведаю, нярэдка слоў сустрэчных
зусім не чуюць
нясмелыя часцей такія словы
губляюцца ў нашых
расчырванелых вуснах.

То падаруй не словы,
не неба і не зоркі,
не адрывай сваю часцінку
і не кажы ў адказ нічога.
Пустое ўсё. І ўсё пераўтворыцца на пыл,
забудуцца ўсе словы,
калі пачуе нехта
і неба страціць колер.
А зоркі… Хтосьці іх патушыць,
нібыта іх ніколі на небе не было.

Вось,
калі табе так проста падаруюць,
то падаруй не толькі «дзякуй»
у адказ, — сваю ўсмешку.
Я ўпэўнены, што слоў сустрэчных
часта мы не чуем,
але ж я ведаю,
ніхто ніколі не забудзе
ў адказ маленькі шчыры дар,
твая ўсмешка будзе жыць навекі
ва ўспамінах чалавека і ў яго вачах.

## МЫ ПАЧЫНАЕМ ДЫХАЦЬ ВЕРШАМІ

мы, пэўна, не ўсе геніяльныя,
але вар'яты ўсе дакладна
і без выключэння.
калі паветра замала для подыху,
мы пачынаем дыхаць вершамі,
светлымі і цёмнымі,
моцнымі, пяшчотнымі,
халоднымі і цёплымі радкамі.

нас агортваюць думкі павуцінаю,
кідаюць на рукі цяжкія кайданы,
быццам зашмат маем свабоды…

простымі словамі мы не гаворым,
вершы нашы —
кроў параненых душ.

і штодзень, бы асуджаныя,
сябе і такіх, як самі, лечым
радкамі шчырымі,
што падобныя на гаючы ключ.

яны адмыкаюць кайданы,
імгненне — і мы вольныя,
быццам вырваліся
скрозь цемру да зорак.
вершамі
дыхаем, жывём,
нараджаемся і паміраем,
вершамі пранізаны
наш першы і наш апошні
крок.

**ВУЛІЦЫ РОДНАГА ГОРАДА**

вуліцы роднага горада
часам непазнавальныя
бегаеш па тварах —
чорных,
спатнелых,
гарачых —
нібы магнітам збіраеш
шчырыя рыскі і знакі
тых, хто быццам знаёмы,
і тых, каго ты не бачыў.

вуліцы роднага горада
зусім бываюць чужымі,
хоць сёння іх бачыў
сапраўднымі
і пустымі
вачыма нібы не сваімі.

вуліцы роднага горада
часта прыходзяць снамі,
лабірынтамі чорных дарог
пранізаных ліхтарамі.
часта так ажываюць
гармідарам,
шумам
і крыкам,
сігналамі соцень аўто
і подыхам кавы з фіранак…
вуліцы роднага горада
часам нам не пазнаць,
сотні чужынцаў-твараў —
шчырых,
адкрытых,
багатых,
быццам магнітам збіраеш
рысы новыя, знакі
тых, хто быццам знаёмы,
і тых, каго ты не бачыў!

**ТЫ ЗГУБІЎ ЗАШМАТ МІЖ РАДКАМІ**

ты згубіў зашмат
між радкамі,
нямала задушыў
прыемных добрых слоў,
блукаеш штодзень прахалоднымі
вечарамі
лабірынтамі ўласных
сонных радкоў.
ходзіш на дыбачках,
баішся збудзіць незнарокам
разгортваеш словы,
чытаеш невымоўную сутнасць
вершаў тых, што яшчэ не забылі,
вершаў тых, што яшчэ не пачулі,
вершаў тых,
што сннымі толькі жывуць.

ты згубіў зашмат
між радкамі,
замала загубіў
адбіткамі ўласных ног,
блукаеш па сагрэтым сонцам
свеце,
чакаеш на сонца промні,
на ўласны парог.
крочыш сабе бясшумна і скавана,
гартаеш старонкі
насуперак маўчанню радкоў.
маўчаць, бо ты не адчуў іх,
маўчаць, бо жывыя занадта, ты знік,
маўчаць,
бо няма словаў для іх.

*Пераклад з украінскай*
***Адама ШОСТАКА***

# ЧАС ДЗЕЙНІЧАЦЬ

*Філасофскае эсэ*

Гнятлівая думка, што свет коціцца ў прорву, непакоіць мяне. Жыўцом есць, адкусваючы бязлітасна штодня па кавалку, і праглынае, не пераважоўваючы. Ганебна, гвалтоўна, наносячы раны, што загойваюцца за дзень, нібы ў Праметэя. Аднак калі яго пячонкай ласаваўся толькі арол, то маім целам цешыцца ўвесь свет. Глытае кавалкі, быццам заўсёды галодны, ненаедны, бы яго, акрамя мяне, болей ніхто не корміць. Усе занадта прагныя, каб аддаваць камусьці сябе. Аддаваць дарэшты і не адчуваць смутку па аддадзеным. Не хочуць нават на імгненне адчуць боль, хаця амаль кожны дзень чыняць яго іншым. Свет… Свет зрабіўся занадта зменлівым, каб казаць праўду.

Задумваюся пра наступныя свае дзеянні. Свет коціцца ў прорву, таму трэба нарэшце вырашаць цалкам слушнае пытанне. Мы ж так любім штосьці вырашаць, асабліва за іншых. Так любім прычэпліваць ярлыкі і цэтлікі, што забываемся пакласці тавары на прылавак, працягваючы трымаць іх у руках. І гэтак баімся ўзімку адмарозіць рукі, што забываем рукавіцы дома.

Дык што рабіць, як лепей паступіць? Падштурхнуць свет, каб ён набраў яшчэ большую хуткасць, ці збудаваць перашкоду на ягоным шляху, якая б яго запаволіла? Мы ж так любім заступаць дарогу, гэта прыносіць нам сапраўднае эстэтычнае задавальненне. А яшчэ мы любім глядзець, як рэчы падаюць. Чалавек даўно ўжо таксама зрабіўся рэччу, да таго ж поўнай усялякага патрэбнага і не вельмі патрэбнага барахла.

Чым большыя хуткасць і вышыня, тым эфектнейшае нас чакае відовішча. Мы ў палоне геніяльных грукатлівых падзенняў і мы запасаемся фота- і відэакамерамі, купляем і трымаем іх менавіта для такіх момантаў. Цешымся гэтым.

Свет набірае хуткасць, і ўсе гэта адчуваюць. Плынь часу стала надта хуткай: гады пралятаюць, нібы некалькі месяцаў, месяцы — як некалькі дзён, а дзень цяпер трывае ўсяго толькі некалькі гадзін. Мы гэта заўважаем штодзень. Мы ў гэтым жывём. А яшчэ мы сталі надзіва хутка старэць.

Цяпер мы ўжо канчаткова баімся гадзіннікаў, хаця раней намагаліся ўтойваць свой страх. Бо гадзіннікі кіруюць намі: яны ўказваюць, куды нам ісці, што нам варта рабіць і калі нам варта працаваць. Яны руйнуюць нашы планы, топчуцца па нашых мроях, адбіраюць нашыя стрэлы, каб мы болей не маглі страляць па нашых цэлях. А мы? Мы не можам нічога зрабіць у адказ. Мы проста моўчкі скараемся гэтым тыранам. Марыянеткі, якія час кідае куды толькі яму ўздумаецца і пераўтварае ў што заўгодна. Нават у камень. І ўсё гэта паскараецца, быццам пераглядаеш эфекты нейкага сучаснага галівудскага блокбастара.

Раней дакладна так не было. Аднак у наш час нават школьнікі малодшых класаў заўважаюць, што зямля стала круціцца хутчэй і наш свет, раскручваючыся, набірае ўсё большыя абароты. Мы ведаем куды ён коціцца, мы бачым яго траекторыю і заплюшчваем ад страху вочы, коцячыся разам з ім. Час браць у рукі фота- і відэакамеры. Калі мы так нічога і не зробім, то нас чакае грандыёзнае падзенне, якое адчуе кожны. Бо няма такіх, хто па-за светам, у якім жыве. Гэта падобна да мазаікі. Якое б месца ў свеце чалавек не займаў, ён усё роўна з'яўляецца яго часткай. Чалавек памірае, вызваляе месца для іншага, нованароджанага. Пакідае пасля сябе штосьці або не пакідае. І так трывае ад пачатку свету, і так будзе працягвацца да яго канца.

Канец свету будзе напраўду грандыёзнай і феерычнай падзеяй, якая, без сумневу, урэжацца назаўжды ў нашу памяць. Калі мы ўсё яшчэ будзем здольныя хаця б штосьці запомніць.

Дзіўнае пачуццё. Як быццам усё ў парадку, як быццам усё падпарадкоўваецца чамусьці, але насамрэч сутнасць таго парадку — хаос. Хаос як прыкмета, што ў свеце ўсё добра, ці хаос як прыкмета, што свет усё ж такі коціцца? А можа, тое «ўсё добра» ўжо прадугледжвае, што свет павінен каціцца? Можа, гэта і з'яўляецца нармальным?

Адшукаць бы таго, хто зрушыў свет з месца, зазірнуць у яго вочы, запытацца. Навошта ён гэта зрабіў? Стаў першым штуршком у падземным царстве землятрусаў, першым, хто вырашыў, што свет мусіць каціцца менавіта ў прорву. А яшчэ б знайсці таго, хто вынайшаў прорву для свету, у якую ён коціцца, нібы більярдны шар у лузу. Калі багі існуюць, то яны дакладна граюць светам у більярд на сваім велізарным стале светаў.

Нельга марнаваць час. Свет жа не стаіць на месцы, ён набірае абароты. Усе мы ведаем, куды ляжыць ягоны шлях, яго маршрут прадказваюць як зоркі, так і настрадамусы з вангамі. Кожную хвіліну ён паскараецца, бо мы не перастаем яго штурхаць. Для чаго мы гэта робім? Дзеля адчування ўласнай сілы, упэўненасці ў тым, што мы можам зрушыць свет? Не. Мы робім гэта, бо вельмі любім назіраць падзенні. У нас для гэтага існуюць апараты фота- і відэазапісу, памятаеце?

Гнятлівая думка, што мы пераўтвараемся ў папарацы, якія прагнуць зняць уласнае ж падзенне, чыніць нясцерпны боль, і свет зноў адрывае ад мяне кавалкі майго цела. Папарацы ўласных падзенняў, уласных пакут, уласнай ганьбы. Калі просіш у папарацы дапамагчы, то ім заўсёды няма калі — яны спяшаюцца зняць чарговае падзенне. Іх вочы блішчаць, яны ўсміхаюцца, яны задаволены. Задаволены тым, што падаюць — з гэтага заўжды атрымліваюцца геніяльныя сюжэты. Бо і насамрэч падзенне чалавека само па сабе ўяўляецца велічнай падзеяй. Амаль такой жа велічнай, як і ўзняць яго пасля падзення.

Досыць каціцца! Час будаваць перашкоды на шляху да прорвы! Што заўгодна, толькі б запаволіць рух свету! І як мага болей барыкад! Не, не для таго, каб расцягнуць нашае жыццё яшчэ на некаторы час, не. Гэта патрэбна для таго, каб свет спыніўся. Бо калі мы пабудуем дастакова, ён дакладна перастане каціцца. А з часам мы зможам забудаваць дашчэнту тую вынайдзеную-выкапаную камусьці прорву, якая была настолькі галоднай, што прагнула праглынуць увесь свет. Патрэбна верыць у сябе. Калі мы зрушылі свет з месца, то мы яго зможам і спыніць. Бо хто, як не мы? Багам даўно да нас няма аніякай справы. Яны проста глядзяць спектакль, які мы так па-майстэрску разыгралі. Калі даць малпе гранату, як вы мяркуеце, яна хаця б з цікаўнасці сарве чаку, так? Мы сваю сарвалі і цяпер намагаемся паставіць яе назад, пазбегнуць выбуху. Час хутка мінае, надта хутка. І тыя бясшумныя чортавы пясочныя гадзіннікі дужа ўдала падыгрываюць яму.

Час будаваць не дамы — перашкоды, і час будаваць не масты, а дамбы. Час быць шчырым хаця б з самім сабой, і час памятаць, што коцяцца ў прорву мільярды.

*Пераклад з украінскай*
*Рамана і Ганны ЛАТУШКАЎ*

*Уладімір САЎЧУК*

***Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Роўне. Член народнага літаратурнага аб'яднання «Поетарх» Роўненскага гарадскога палаца дзяцей і моладзі. Студэнт чацвёртага курса Нацыянальнага ўніверсітэта «Острозька академія» (факультэт рамана-германскіх моў). Упершыню творчыя здольнасці выявіліся ў дзіцячых вершах. Пад уплывам фантастыкі і твораў Джона Толкіена перайшоў на прозу. Працуе ў межах малых празаічных жанраў.***



# ДРЫГВА

Трава пакорліва легла пад чаравікі, бы служкі пры выхадзе цара. Івась ішоў па лесе не азіраючыся. Калі хлопец перасёк паляну, то пакрочыў сцежкай, што паступова перарастала ў грунтавую дарогу. Песні лясных птушак заўжды супакойвалі Івася. Але гэтым разам яны нібы ўзялі выхадны ў адзін дзень і не спявалі. І праз гэта Івась раздражняўся яшчэ мацней.

«Трэба збочыць, каб, чаго добрага, нікога не сустрэць», — падумаў хлопец і сышоў з дарогі.

Увогуле ж зусім не Івасём яго звалі, а Васілём. Аднак, як той казаў, Вася — не імя, а дыягназ… Няпраўду кажуць! Доўбні! Гэтак вось сябры, патураючы Васілю, пачалі называць яго Івасём. І гэта таксама не падабалася яму. Навошта ж так выкабеньвацца? Няўжо нельга проста — Васіль? Хаця не. Васіль — неяк пафасна, крывадушна і кпліва. Шчыра кажучы, Івась і сам не ведаў, як ён хацеў бы, каб яго называлі. І праз гэта ён раздражняўся яшчэ болей. Вось і гэтым разам Івась, наслухаўшыся цягам дня свайго нялюбага імя, вырашыў супакоіцца, прыняўшы чарговую порцыю песенных лекаў.

А тут, як на злосць, птушкі замоўклі. Ды яшчэ, мабыць, заселі ў сваіх гнёздах і ў дзюбы сабе смяюцца шапочучы: «Івась… Вася…» Ды яшчэ і смярдзіць чымсьці. Ды каб тыя птушкі ўсе праваліліся!

Раптам нага хлопца насамрэч правалілася. Івась хацеў выцягнуць яе, аднак другая нага, мабыць, не жадаючы разлучацца з першай, булькнула ўслед за ёй. Івась пачаў боўтацца, думаючы: «Дрыгва! Смерць!» Але потым ён спыніўся і пачаў усё абдумваць. «Як я, дурань гэткі, здолеў не заўважыць, што забрыў на балота! І зусім не глядзеў пад ногі! Разява! Так мне і трэба!» Івась нават цягам нейкага часу думаў пакараць сябе за няўважнасць абсалютнай бяздзейнасцю, а як вынік — смерцю ў балоце. Але потым яму прыгадалася казка, якую распавёў настаўнік, пра дзвюх жаб,

што ўпалі ў гаршчок са смятанай. Адна з іх адразу апусціла лапкі і патанула, другая ж пачала нястрымна перабіраць, пакуль не ўзбіла камячок масла і не выбралася па ім. На ўзор другой жывёліны Івась пачаў на ўсю моц размахваць сваімі «лапкамі», спадзеючыся ўзбіць камячок балотнага масла. Аднак дрыгва стала зацягваць яго ў свае бяздонныя абдымкі з яшчэ большай заўзятасцю. У гэты момант, зразумеўшы, што з балота масла не робяць, і бачачы, што тэмпы засмоктвання не змяншаюцца, а нааадварот павялічваюцца, хлопец згадаў, як хтосьці казаў, што, калі трапляеш у балота, рэзкія рухі толькі паскараюць заграззанне. Аднак сваім размахваннем Івась паспеў ужо дапамагчы дрыгве — балота даставала плечы. Ну вось і ўсё. Канец. Happy end. Хаця не, не happy. Pity… Sad! Sad end. Раптам, ці ад павеву ветру, ці ад нечага яшчэ, нібы ратавальная рука, над Івасём апусцілася галіна. Вось ён, шанец на выратаванне! Адзін высілак — і хлопец схапіўся за яе. Пачаў вылазіць. Дрыгва неахвотна аддавала свайго новага сябра. Але, перарабіўшы рускую прыказку, скажам: «Усё, што дрыгве сяброўства, чалавеку — смерць». Рывок за рыўком Івась выбіраўся з абдымкаў балота. Толькі б дацягнуцца! Толькі б выбрацца! Толькі б не змарнаваць такі шанец! Апошні рывок… і Івась на цвёрдай зямлі. Адляжаўшыся хвіліну, ён узняўся. Пасля радасці з прычыны выратавання хлопец пачаў разглядаць сябе. Ён чуў, што людзі ў балотах часта губляюць калі не жыццё, дык абутак. Аднак абодва чаравікі, вядома заляпаныя, але моцна зашнураваныя, заставаліся на нагах. І раптам у Івасёву галаву маланкаю ўдарыла ідэя.

…Хлопец выйшаў з лесу. Адзенне на ім было ўсё бруднае. Ды і твар — заляпаны. Але вочы яго свяціліся, як раса на сонцы (дзіўна, але я, здаецца, ужо недзе чуў гэтае параўнанне). Івась быў рады. І не столькі за тое, што выжыў і выбраўся з балота, колькі за тое, што прыдумаў, як загадаць сябе называць. Як сын Анатоля, ён не прыдумаў нічога лепшага, як «Анатолевіч». А што: паважна, практычна і не дыягназ.

## ВЕЧАРОВАЯ САНАТА

Вечар разбіў лагер над горадам…

Даўкі ветрык цяпер на бальнічным, але і без яго на дварэ прахалодна. Тым не менш, таямнічы вір вечара цягне да сябе.

На вуліцах пуста: ані машын, ані людзей. Толькі нябачныя птахі сноў лунаюць пад цёмным шатром аднатоннага неба. Лісточкі з апошніх сіл учапіліся за галіны сваімі малюсенькімі пальчыкамі. Дрэвы стаяць сурова, але адначасова загадкава ўсміхаюцца. Вулічныя ліхтары калонападобнымі фантанамі шчодра заліваюць усё навокал бурштынам.

Ідзеш і не маеш сіл спыніцца. Палкі маленькіх кропелек нібы застылі ў паветры, утварыўшы нерухомую празрыстую сцяну. Праходзіш і проста тараніш іх. Халодныя кропелькі разбіваюцца аб твар і быццам адбіваюцца мініяцюрнымі званочкамі. Мімаволі заплюшчваюцца вочы. Дзесьці наперадзе, здаецца, срэбныя цымбалы падпяваюць перазвону крышталёвых кропелек. І ногі самі вядуць на тую далёкую і такую жаданую музыку, ад якой вее свежай прахалодай ды пахам начной бадзёрасці.

Горад змяняецца да непазнавальнасці. Калі вуліцы запаланяе восеньская цямрэча.

***Пераклад з украінскай Рамана і Ганны ЛАТУШКАЎ***

*Іванна ТІМАШЧУК*



***Нарадзілася ў 1988 годзе. Член Усеўкраінскага літаратурнага аб'яднання «Поетарх». Друкавалася ў альманаху «Наше коло», выдадзенаму пры падтрымцы Роўненскага абласнога саюза пісьменнікаў, а таксама ў шматлікіх перыядычных выданнях. Адна з пераможцаў конкурсу «Подорож до себе».***

# Я ДУМАЦЬ ХАЧУ ЦЫНАМОНАВА

## ВОСЕНЬ У ЛЬВОВЕ СЯГОННЯ ЯК З КАВЫ

Восень у Львове сягоння як з кавы,
Па горадзе ездзіць старэнькім трамваем...
Людзям усмешкі дорыць дзіцячыя
І галубоў дзікіх граі пускае...
Вуліцы вузкімі стужкамі ў косах,
Просяць агні даць астыць ліхтарам.
Час шакаладам стыне да ранку,
Кавы ў пустую мне б філіжанку
І цынамонавы думкі пра Львоў,
І нехта пра шчасце хацеў сказаць зноў...

## АДЗІНОКІ ТРАМВАЙ

Адзінокі трамвай, не трывож маіх сноў,
бо душа мая спіць каля шчасця.
І асенняй парой ты не вернеш наноў
квет вясновы — ўжо бабіна лета...

Спачуванне ляціць пажаўцелым лістком,
паміж каляінак сустрэчных сядае.
Не падніме дзяўчына, не прыклеіць ў альбом,
бо старонкі для долі чакае.

Яна едзе туды, дзе яе родны край,
дзе так проста у неба ўглядацца.
Не трывож маіх сноў, адзінокі трамвай,
бо спакой ў іх не зможа застацца.

## ТЫ НАТХНЯЙ МЯНЕ ЛЕТНІМІ НОТАМІ

Ты натхняй мяне летнімі нотамі,
Што на вокнах тваіх дажджом
І начамі, што так абрыкосава,
Нас натхняюць світання святлом.

Адшукай ты мяне, счараваную,
Што прынадай расплецена слоў,
І кахай як ніколі задумлівую,
Сам мяне ж ты да раю прывёў.

## КАЛІ ПРАЧЫНАЮСЯ РАНІЦАЙ

Калі прачынаюся раніцай,
Я думаць хачу цынамонава,
Гляджуся я ў вокны замроеныя,
Вясной і табой маляваныя...
Кранаюся неба на ганку,
І босенька йду да наступнасці,
Да цябе, маёй незабуднасці,
Да сэрца жыццём не бязважкага,
Да памяці, шчасцем цяжарнай,
Да кавы у кубку гарачым,
Калі прачынаюся раніцай...

*Пераклад з украінскай*
*Святланы ВАРОНІК*



Ірына АДЗЯРАКА



***Нарадзілася ў 1982 годзе ў вёсцы Грабаў Роўненскага раёна. Скончыла Роўненскі аўтатранспартны тэхнікум. З 1999 года выхаванка літаратурнага аб'яднання «Поетарх», удзельніца літаб'яднання «Наше коло». Першая кніга «Там, де перетинаються грані» выйшла ў 2010 годзе. У 2012-м гэты зборнік апавяданняў, навел і эцюдаў прызнаны лепшай кнігай Роўненшчыны ў намінацыі «Літаратурны дэбют», у лістападзе таго ж года за ўдалы літаратурны старт аўтару прысуджана прэмія Міхала Дубава.***

# ЗАНАТОЎКІ

## ХУТКАПЛЫННЫ ЧАС

Хвіліны, нібы хвалі, накатваюцца адна на адну ды імчаць у мора часу. Я сядзела і назірала за іх плынню на беразе сваіх роздумаў.

Што ёсць час?..

Калі дзяцінства гуляе з табой у квача…

Што ёсць час?

Калі маладосць фантанам пачуццяў узнімае цябе ўгору. Маленькія пырскі ляцяць у розныя бакі. На зломе промняў павісне вясёлка...

Што ёсць час?

Калі сталасць у палоне будзённасці і не верыць болей казкам, не пляце мрой. Дзеянні памяркоўныя, учынкі разважлівыя.

Што ёсць час?

Калі ты даўно дарослы, а яшчэ не хочацца называць гэта старасцю, таму што азіраешся назад, а там, здаецца, яшчэ ўчора дзяцінства гуляла з табой у квача. А наперадзе… яшчэ ж гэтак шмат трэба паспець.

Што ёсць час?

Калі старасць сівой галавой схілілася над маленькім ложачкам і распавядае казачку, у якую яшчэ верыць малое, або голасам, высушаным, нібы вятрамі, гадамі спявае калыханку.

Што ёсць час? Думкі? Хвалі? Гады?

Што ёсць час, калі ты толькі яго адрэзак?

А пасля смерці…

Што ёсць час?

## БЯРОЗА

Закаханая ў вецер, стаіць бяроза за маім акном.

Стаіць, сумуе. Ён сёння не прыйшоў. І галіны схіліліся ў сумным маўчанні. Лісцейка да лісцейка не азавецца. Было б нават зусім ціха, калі б не шалёныя вераб'і…

А ўсё адно сумна маёй бярозцы, што за акном. Ні да арэшніку, ні да вішні не адгукнецца. Ім што?! Ім абы для людзей настарацца: пладоў паболей. Іх будні не пужаюць. Інтэнсіўна працуюць, працуюць; і толькі ўвосень па календары адпачынак. А калі душа рамантыкі хоча?.. улетку і ўвосень…

Не! Няма сілы бярозцы белатварай без кахання жыць!

Дзе ж ён?

І менавіта тады, калі паветра наскрозь прасякла пахам п'янкой ляўконіі, а самотнасць цяжкая, як зімовы сон, менавіта тады, як ніколі, хочацца развеяцца.

А ён…

Яшчэ і жук на вуха гудзе: не журыся, усё ж не назаўсёды ён пажух. Стрэсці б нахабніка, каб не дакучаў…

Але ж сумна.

Ды і мне сумна, хочацца рамантыкі — адчыняю акно…

Фіранкі напяліся, нібы ветразі… Усё-ткі прыйшоў! Ветрык пад вечар да сяброўкі…

Развесялілася мая бярозка, уся ажно затрымцела.

Усё-ткі прыйшоў! Фіранкі напяліся, як ветразі, і ў пакоі запахла ляўконіяй.

## У АДНОЙ З КВЕТАК

Я адчуваю, як дыхае прырода, а сярод яе кветкі. Я люблю іх.

Люблю кветкі настолькі, што часам здаецца, нібы я нарадзілася ў адной з іх.

У адной з кветак, а яе сарвала мама.

Усе дні мае — пялёсткі. Белыя, ружовыя, блакітныя, чырвоныя…

Мае жаданні затоены за гарачым полымем лілей, пяшчота — гэта нябесная пульхнасць валошак, боль разбаўлены горыччу герані, мае фантазіі гайдае вечар на несамавітых кветачках п'янкога язміну, маё каханне — меданосная ліпа, а ўпартасць — прыяцелька духмянага кропу.

Гэта сёння.

Ды заўтра я змяню вянок свайго настрою.

## МАЁ ПАКЛІКАННЕ

Камусьці абыякавыя мае пачуцці.

Нехта ходзіць па маіх думках.

Для многіх я, такая як ёсць, не існую.

А я існую!

Больш за тое, я іду за сваім пакліканнем: быць вольнай, шчаслівай, патрэбнай.

Не верыце? Зазірніце ў мае зрэнкі! Я — камень. Камень. Скульптура. Шараговыя мінакі адшчэпяць ад яго лішнія кавалкі, і я стану помнікам.

Помнікам аптымістам. Тым, хто, нягледзячы ні на што, ідзе за сваім пакліканнем.

## СТОМА

Згубіцца між кніг, аддаць свой фотаздымак на памяць камусьці і забыцца, легчы спаць не таму, што хочацца адпачыць, а таму, што нудзішся ў гэтым нецікавым, некаляровым дні «сёння».

Але ты жывеш, і твой сон не вечны. Ты прачнешся і пабачыш кнігі, фотаздымак, падараваны табе, пабачыш квяцісты свет, таму што сон зніме стому. Ты прачнешся шчаслівая нават ад таго, што можаш прачнуцца.

Табе падаравана шмат дзён, каб быць шчаслівай.

## ЧАРНАВІКІ РОЗДУМАЎ

Чарнавікі роздумаў раскіданы па падлозе. Я пісала раман для людзей.

Графітным алоўкам, атрамантам, пастай — сіняй, чорнай, зялёнай…

На чарнавікі капалі слёзы і воск, свяціла сонца і настольная лямпа. Я пісала раман…

То ўпэўненаю рукой, то абы-як: літары распрасціраліся ў розныя бакі. Я штодзень спяшалася, але былі тыдні, калі ані рыскі не з'яўлялася ў запланаваным тварэнні, у якім праўда перамешвалася з ілюзіяй ды засявала старонкі. А сярод іх сцяліліся разьбяныя лісточкі клёна і дуба, пух таполяў і прыхаваныя жаданні, дробныя кветачкі і дзівакаватыя мроі.

Я пісала раман для людзей.

…Аднойчы ты падараваў мне ружы.

Я ўжо не пішу для людзей, таму што надта маладая, каб пісаць для іншых, але досыць свядомая, каб штодзень запісваць да ўласнага рамана новую старонку жыцця.

## МАКІ

«Як ты думаеш, макі яшчэ цвітуць?» — збіраюся запытацца, а ты, стомлены, вярнуўся з працы. Я з усмешкай сустракаю цябе. Маё нямое пытанне па-здрадніцку прасочваецца ў поглядзе. І ты нібы ўлоўліваеш яго, але не можаш распазнаць знакаў прыпынку, бо галава гудзе — дзень быў напружаны. У адзін момант табе здаецца, што гэта нявыказаная пяшчота. Ты падыходзіш і цалуеш мяне ў лоб.

Запытвацца — недарэчна, дакараць — бязглузда. Я іду на кухню разагрэць вячэру.

Тыдзень таму мы ехалі дадому ад бацькоў… Поле, якое непадалёк ад нашага дому, хвалявалася чырвонымі макамі ад подыху валацугі-ветрыка. Мы дамовіліся, што аднаго разу, як ты прыйдзеш з працы, сходзім туды і ты сфатаграфуеш мяне і «наш» жывоцік пасярод той маляўнічай красы.

Ды калі на наступны дзень я запытала пра макі, ты адказаў, што надта стомлены. Гэта была праўда. Мы адклалі шпацыр на «заўтра».

Мінуў тыдзень…

Мінуў месяц…

Міне год. Ужо не будзе жывоціка, будзе сынок.

Некалі я сфатаграфую яго сярод макаў. Абяцаю!

***Пераклад з украінскай Рамана і Ганны ЛАТУШКАЎ***



Ірына БАКАВЕЦКАЯ
(РАЧКОЎСКАЯ)

***Нарадзілася ў 1985 годзе, скончыла Нацыянальны ўніверсітэт «Острозька академія» па спецыяльнасці «Філасофія. Рэлігіязнаўства», атрымала спецыяльнасць «Харавое дырыжыраванне» ў інстытуце мастацтваў РДГУ. Працуе галоўным рэдактарам тэлерадыёкампаніі «Березне». Аўтар паэтычных зборнікаў «Фундаменти святинь» (2008), «Римовані весни» (2012). Лаўрэат літаратурнай прэміі Міхала Дубава (2012).***

# ДЫ ЙШЧЭ СТРЫЖКА — АВАЛ ГАЛАВЫ...

## НАДСЛУЧАНСКАЯ ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ

*Я тебя отвоюю у всех земель,*
*у всех небес,*
*От того, что лес моя колыбель*
*и могила — лес.*
*От того, что я на земле стою*
*лишь одной ногой,*
*От того, что я о тебе спою,*
*как никто другой.*

М. ЦВЕТАЕВА

Не грашыла я, як робіць хтось,
з’еўшы яблык, неасвечаны да Спаса,
зноў ідуць хлусіці штось
свечкам і крыжам, іканастасу...

Я,
як ты, свой пачынаю дзень,
кланяючыся храму з неба й лесу,
Песня песняў ў свеце найсвяцей,
складзеная толькі на Палессі.

Божа мой, які сасновы храм!
І у ім, каб не казаць, што чую,
ці не ўсім насуперак грахам
я цябе сама кананізую!

І злучыўшы ласкай дыптых рук,
агарну цябе хваёвай расай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вецер носіць спавядальны гук
тых, што рвуць нясвячанасць да Спаса...

* * *

Пасцілася, малілася, вянчалася,
Адхрышчвалася гадамі,
Каб толькі маёй святлоты
Ніхто не кранаўся рукамі.

Накрэсліла кола. І я ўся
Замолена — прэч няшчасці!
І скуль на мяне ты ўзяўся
З маім тым украдзеным шчасцем!

Хавала яго перад ноччу,
Радамі запальвала свечкі,
Каб толькі ніхто не сурочыў,
Каб толькі ніхто не знявечыў.

На шчасце абраная, я ўся!..
...Я ўся — перакаці-поле...
І адкуль на мяне ты ўзяўся
З такім нечаканым болем.

## НА РЭКАНСТРУКЦЫІ БОЮ УПА І НКВД У ЛЬВОВЕ

Я па сцэнарыі загіну...
Бягу са зброяю ў атаку,
ратуючы сваю краіну
на фоне львоўскага байраку*.

Наехаў танк. Рванула гільзу.
Так гераічна!.. У сэрцы ж — нервам,
што не за веру ды Айчызну
я не жывая й не памерла.

Палеглым — лес. Усталі прытка.
Хтось з уваскрослых неспяшліва:
— Пайшлі, палескі недабіткі,
хоць пакаштуем львоўска піва.

---

* Байрак — роў, парослы лесам.

## МАНАЛОГ

...Раптам зробіцца — ў сэрцы — мароз...
І шукаючы ўсюды аазіс,
Я спытаю Цябе: «ТЫ — ХРЫСТОС?» —
ТЫ як заўжды прамовіш: «АЗ ЕСЬМЬ».

Узлятуць раптам птахі з грудзей,
Гляну ў неба. І якая тут наўда!..
Ды й пайду з агнём да людзей —
У вачах іх шукаці праўду.

А калі заблукаю я — дзе
Храмы душ, а дзе душы храмаў,
ТЫ за руку мяне павядзеш
Пратаптанымі ўжо слядамі.

## ГІМН МАЁЙ ЭМАНСІПАЦЫІ

Ох мае вольнадумкі-пазіцыі,
Ды йшчэ стрыжка — авал галавы...
Каб вярнулі часы інквізіцыі,
Ганьбаваць бы мяне павялі.

У кайданах ідучы ў дэманстрацыі,
І з натоўпам адзін на адзін, —
І, калі п'едэстал аб'юрацыі,
То ўжо лепей — масты гільяцін!

Эшафот сілы духу не здужае
і тады,
як у агульны бардак
Паляціць галава мая стрыжаная
Пад гарсон... пад гарсон Жанны Д'Арк.

***Пераклад з польскай Святланы ВАРОНІК***





*Юлія БАНДЗЮЧНА*

***Нарадзілася ў 1984 годзе, скончыла факультэт украінскай філалогіі Роўненскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і магістратуру пры ім. Сакратар Роўненскай абласной арганізацыі НСПУ. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Валяр'яна Палішчука (2012). Аўтар кніг паэзіі «Не ходіть по душах» (2005), «Спадок» (2008), «Невивчена гладінь» (2012).***

# ПУСТАЯ. ПАРОЖНЯЯ. А МОЖА, НАДШЧЭРБЛЕНА ТРОШКІ

* * *

Ой, не хітры,
Каханы, не хітры!
Шукаць брады —
Няпростая забава.
Спрабуе нешта
Мудрасць гаварыць,
А ты ёй — прэч,
Якое маеш права?!
Ой, не хітры!
У вір, ты лічыш, лепш?!
Без берагоў імкнешся?!.
Ах, які ты!..
Усё адно
Ты нашча убярэш
Па кропельцы ў сябе
Што трэба —
Прагавіта.

* * *

Пустая. Парожняя.
А можа, надшчэрблена трошкі.
Больш не цешыць, што цешыла,
Хто з мяне так надпіваў?
Месяц, што малады,
Навастрыў залатыя рожкі.
Ён кахае, як я.
І кахаў.
Вочы — за шторамі вокны.
Як разгавецца ім
Прамянямі душы,
Што мільёнамі свеч?..
Хоць не бачу цябе, знаю:
Свецішся
І цяпло аддаеш,
Як хаціне гарачая печ.
Ты прыгубіш мяне.

І з мяне ты прыгубліваць станеш.
Стану кухлем ці чашай,
Каб прагныя вусны маглі
Распазнаць ува мне
Незямную, нябесную тайну.
Я — загадка-планета,
І прасцей, як зярнятка ў раллі.

* * *

То не ты — паўмяне,
То не я — паўцябе.
Толькі разам —
Адзінае цэлае.
Ды сядзіць на гарбе,
Не шкадуе, скубе —
Паўсядзённасць
Скубе пераспелая.
Не трывожаць вятры,
Не расхрыстваюць дні.
Толькі хмурыя лікі з іконаў.
Але ўсё — да пары.
Ты мне суджаны, і
Нас не страшаць любыя кардоны.

* * *

То не завея.
І не снегапад.
А кропелька, расінка
На далоні
Ад тых празрыстых,
Смак якіх салёны...
Пакутаў, кажуць,
Век ідзе на спад.
А мы плывем.
Як доўга веславаць,
Да сушы плыць —
У бухце якар кінуць.
Стаўпы відаць
Ці стромкія хрыбты.
А тут — жыццё…
Надзённыя хвіліны.

* * *

Смагу ўтаймуй маю.
Толькі табе пад сілу.
Лета траву скасіла.
З ім я з крыніцы п’ю.
Грушы на вербах — не,
Не для мяне пасагам.
Босаю і засмяглай
Дзень мой убачыць мяне.
Смагу маю наталі.
Годзе пустых абяцанняў…
Лічым сябе тварцамі.
Што ж тады не ў раі?

* * *

Мы былі
Паралельнымі прамымі.
На адным са скрыжаванняў
Перасекліся і сталі
Перпендыкулярнымі.
А збіраемся стаць
Адзіным цэлым.

*Пераклад з украінскай*
***Міколы СЯНКЕВІЧА***





*Юлія КАСЦЮКЕВІЧ*

***Нарадзілася ў 1988 годзе на Роўненшчыне. Са школьных гадоў удзельніца Народнага калектыву літаратурнага аб'яднання «Поетарх». Скончыла Нацыянальны ўніверсітэт «Острозька академія». Лаўрэат шматлікіх конкурсаў і фестываляў. Аўтар кнігі для дзяцей «На подвір'ї у бабусі» (2003), паэтычных кніг «Початок віршів» (2003), «А давай поговоримо про вічне» (2006), «Відчути безмежність» (2012). У творчасці арыентуецца на філасофскія катэгорыі дабра, прыгажосці, вечнасці.***

# Я Б ТАДЫ НЕ ПІСАЛА ВЕРШАЎ

**ЧАКАННЕ**

Крэпасці ў Хоціне
А ты ўсё там. Стаіш на беразе
Старажытнай шырокай ракі.
Тая ж шэрая сукня. І з косаў бярозавых
Стужкай светлай ты хочаш ўцячы.
Цячэ рака. Адчайным покрывам.
Нібы сляза сцякае ў далягляд.
Твой Бог крычыць Сваім гусіным голасам.
І свет маўчыць паўз вочы зёлкіх траў.

* * *

Марыне Цвятаевай
На вершы душа разбіта,
Нібы келіх — на сотні аскепкаў...
Марына! — Галосіць вецер.
Марына! — Крычыць святловая далеч.

А ты — як агмень у каміне:
Прыручаны-ўсё-яшчэ-дзікі,
як ягада арабіны
(Яе горач нязменная ціхая).

Бясстрашная ў парыве грэшным...
Трагічная ў шчасці зману...
Ты чуеш? Шапоча вечнасць:
«Бог верыць восеньскім вершам...
Марына...»

* * *

Травеньскі ўспамін трымаюць
Сумныя старыя дрэвы, —

Раскіданыя завеі
Узялі даўно думкі свае…
Крывава садзіцца сонца
Люстрам на снег сталёвым:
Сняжынкі ў кузні неба
Зазуля-зіма куе.

* * *

Час акутвае прастуджанае горла…
Зноўку вуліцы ў туманах.
Скрозь свет твой расце цыкута,
Ты зрываеш яе ў снах.
Горад. Звон манетаў зычны.
Страціць цішыню душа твая.
Ты ўсміхаешся людзям занятым,
Людзям, што замкнуліся ў справах, на сабе.
Ты ідзеш па Саборнай вуліцы,
Ліхтары быццам зоркі свецяць услед.
А дрэвы да неба туляцца,
Як і цені іх — да зямлі.

* * *

Калі б Гіём Апалінэр
Жыў у дваццаць першым стагоддзі,
Я б тады не пісала вершаў.
Абавязкова
Пляла б я саламяныя капялюшыкі.
Назіраючы за шэрымі хмарамі,
Імкнулася б прыгадаць
Сваё мінулае жыццё.
(Саламяныя капялюшыкі помняць думкі сваіх гаспадароў,
Светлыя і цёмныя, добрыя і злыя, павольныя і хуткія —
Усе аднолькава яны моцна
Трымаюцца між саламінамі).

Калі б Гіём Апалінэр жыў у дваццаць першым стагоддзі,
Я б усе высілкі паклала,
Каб вывучыць мову рук,
Якія сплятаюць сонечныя капялюшыкі з шырокімі палямі,
Якія прадаваліся б на кожным вакзале,
Дзе гудуць цягнікі,
Забіраючы хмары
На поўдзень — захад — поўнач — усход…

Калі б Гіём Апалінэр жыў у дваццаць першым стагоддзі,
Ён абавязкова прыехаў бы на адзін з такіх вакзалаў
І купіў бы сонечны саламяны капялюшык
Для сваёй Душы.

*Пераклад з украінскай*
*Адама Шостака*



Ірына МЕЛЬНІК

***Нарадзілася ў 1987 годзе ў горадзе Роўна. Скончыла факультэт украінскай філалогіі Роўненскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта. Цяпер выкладчыца Роўненскага аўтатранспартнага тэхнікума. Аўтар паэтычнага зборніка «Вікамы зшиті слова». Піша верлібры, вершы-казанні, а таксама рыфмаваныя вершы. Неаднаразова звярталася да прозы. Разнажанравым творам грамадзянскай і інтымнай лірыкі характэрны пачуццёвасць і эмацыйнасць, драматызм і напружанне.***

# КАШУЛЯ І МУНДЗІР

Прыйшоў недарэчны люты. Яго не было ні ў мінулым месяцы, ні ў замінулым, нават восенню яго не было...

Калі ляцець уніз і глядзець на зямлю, то стане прыкметным, што на вуліцах апошнія фарбы выпітыя, няйначай як з чорна-белага фота. Іней на электраправадах і на шаліках, якімі былі завязаны раты і роцікі, ужо не серабрыўся, а зманліва залаціўся пад промнямі марознай рыбы — сонца. Застылыя ўпрыгожаныя асобы здаваліся цьмянымі скрозь вокны маршрутак, утвараючы ўсмешкі і слёзы замаскіраваным белым карункам.

Дрэвы ўжо не саромеліся свайго працягла-звыклага голага стану. Птушкі абляплялі іх галовы з кволымі пасмамі валасоў. Не ставала хусткі, каб схаваць гэтую безнадзейную сівізну ад свету. Яблыні ў садзе перад домам скамянелі ў нязграбных рухах, як целы, самі сабе пакінутыя ў палях, рассыпаныя пад брукаванкамі, незбіраныя, між гарадоў і вёсак, новых і старых, знявечаных штодзённымі войнамі. Ім сніліся высечаныя дзеці.

Млявыя перамерзлыя яблыкі гайдаліся замызганымі галовамі на галінах, бы дагарэлыя зямныя ядры — яшчэ цёплыя, як мінулыя дні — яшчэ галодныя, як твары мам і жонак — яшчэ заплаканыя, што зазіраюць ва ўсе вокны, быццам пытаючыся: «Дзе ты, мой любы?» І вусны ў іх ужо не салодкімі былі, часам гарклявымі. Нягледзячы на гэта, стагналі: «Не губіце родных людзей на зямлі». Салёныя, пустынныя, яны аблізваліся і зноў: «Не губіце людзей...» У пакоі было чуваць тое

пустагалоссе лютага, гукі, як у збан сказаныя; так на пероне гудуць лакаматывы, заглушаныя воклічамі, клічам, рэхам. Галіны, нібы колы фургонаў, рэзалі шкло шыбаў, шкрабалі, усё роўна як цвікамі, і раз-пораз грукалі, быццам забіваліся ў бязгрэшныя далоні за правіны людзей у кватэрах.

Пры ўсіх прыкметах канца павінен наступіць пачатак. Кожны чакаў яго па-свойму: ляпіў, ляцеў, страляў, палохаў, суцяшаў, любіў... паміраў. Шкада вось, што кожнае доўгае чаканне спыняецца стомленасцю. Прынамсі, калі б вы блукалі ў пустыні гадоў наццаць, ці не стаў бы выхад адтуль абцяжарана-сумным?..

На святы ці асаблівыя падзеі ён апранаў мундзір, зусім не святочную вопратку, аднак менавіта ў ёй ён адчуваў асаблівы ўздым духу. У ім чалавек сапраўды выглядаў як з фота ваеннага часу. Сёння ён быў у блёкла-зялёнай кашулі, якая прыцягвала сваю ўвагу тым, што не падыходзіла яму. І гэта цешыла, хацелася паказаць усяму свету, што сёння яму не падыходзіць нічога, асабліва ўласнае жыццё.

Ён сядзеў побач на бальнічным ложку і трымаў жонку за руку. Час ад часу сціскаючы яе далонь, каб аднавіць адчуванне сваёй прысутнасці. Яму, пакуль яшчэ не самотнаму, бы той прыдарожны саўдэпаўскі хударлявы ліхтар ля дарогі, з апушчанай галавою і ледзь цьмяным святлом, складана было ўспрыняць тое, што побач памірае чалавек, які ўсё жыццё кахаў яго, неідэальнага, спрабаваў зрабіць шчаслівым, кожную ноч станавіўся на калені і рупліва маліўся Богу за яго. Менавіта гэта ратавала яго ад дотыку куляў, ад упівання аскепкаў гармат, ратавала цвярозым сэнсам у безвыходных, здавалася б, сітуацыях, трымала, калі не было сіл і жадання стаяць. Пра гэта была яе вечная размова з Богам. І толькі Яму вядома, пра што яны там гаварылі ў цемры каля ложка, у кухні за кубкам кавы, якая, здавалася, цякла ў ёй замест крыві, ці падчас дарогі. Мужчына разумеў, што, мажліва, момант надыходу новай смерці наступіць, мoжа, не цяпер, не тут, але ўсё ж наступіць. І яму, таму, хто бачыў на свае вочы тысячы смерцяў і павінен адаптавацца, трэба гэта перанесці. Здавалася б, чаго шкадаваць: яна кахала і была каханай, пасеяла ў сэрцы веру і любоў. Але дарагога чалавека ніколі не бывае зашмат...

Мужчыне, які сёння быў апрануты не ў мундзір, сядзець было добра побач, хацелася проста заснуць на ложку каля яе і не прачынацца. Але надыходзіў час ісці на цягнік. Ён досыць жорстка сказаў: «Я заўтра прыеду, дарагая, не памірай. Ты толькі дачакайся мяне. Абавязкова!» Хоць сам мужчына разумеў, што ні заўтра, ні цяпер яго прысутнасць нічым не зменіць няўхільнасць падзеі.

На наступны дзень жонка ўжо не казала. Вадзіла вачыма, пацвярджала слабым кіўком галавы, калі пра нешта пытаўся, вочы рэагавалі на тых, хто заходзіў у палату і выходзіў. Мужчына падаваў ваду па чайнай лыжачцы, пакуль яна магла згаджацца ці адмаўляцца ад прапанаванага. Ён накрываў яе коўдрай, апранаў, зноў раскрываў, саджаў вышэй, ніжэй. Так прайшло гадзіны са дзве. Пасля яна перастала рэагаваць на пытанні. Тады ён сам вырашаў, ці хоча яна піць, ці яе перавярнуць на другі бок, ці раскрыць, хаця, можа, яе цела крычала зусім супрацьлеглае. Усё, пра што ён думаў, ён казаў услых. І калі б яна магла вымавіць слова, аднойчы спыніла б яго на фразе: «Я кахаю цябе», сказала б, што ён паўтарае гэта вельмі часта, а яна тое і так ведае; а калі б магла паварушыць вуснамі, то ўсміхнулася б; калі б магла варушыць хоць адным пальцам, то прыклала б усе намаганні, каб пагладзіць яго па руцэ. Кожную хвіліну ўсё гучней і гучней пачынала клекатаць у яе грудзях. Гэтае клекатанне пасля перайшло да самага горла. Побач ляжала насоўка, якой ён выціраў пот з яе ілба, сліну з кутка рота, слёзы, што каціліся час ад часу ў вушы, а потым гэтай жа хусткай сціраў слёзы са свайго твару. Яму было ўсё роўна, што гэтае цела было фактычна мёртвае. Адсутнічалі брыд-

касць, жах. А насоўка стала бы пасудзінай, якая змясціла ў сябе жывыя эмоцыі, подых, фізіялагічныя выкіды абодвух.

Ён думаў, што самае страшнае ў жыцці чалавека — пераход ад жыцця да нежыцця: уласна «парог». Усведамленне і страх, што ўсё заканчваецца, а колькі яшчэ засталося не вымаўленым, не праведзеным, недакаханым, недажытым. Гэта напаўняла цела неапісальным фізічным болем, аднак і ён не мог параўнацца з тым, што адбывалася з целам жонкі. Мы, жывыя, далёкія ад смерці, нават на імгненне не адчуем смерць як канец уласнага свету. Як бы мы сабе гэта ні ўяўлялі, як бы ні залазілі ў скуру таго, хто згасае — мы не можам зразумець тое нават часткова. Толькі адзін раз у жыцці — перад уласнай смерцю — мы гэта адчуем і зразумеем, як было таму, хто паміраў.

Ён думаў, што цяпер ён выразней разумеў фразу «смерці бязбольнай просім». І навошта ж нараджаецца чалавек, калі так цяжка і няўцешна сумна пакідае гэты свет? Навошта яму даецца выдатнае цела, рэфлексы, рухі, даведзеныя да аўтаматызму, выдатная чалавечая натура? Чаму, калі нас нараджалі, то, акрамя нашай волі, падпісалі нам страшны прысуд: бачыць, як сыходзяць бацькі, сябры, паміраць самому.

Мужчына назіраў, як цела жанчыны, якое ўсё жыццё здавалася яму анёльскім правобразам, быццам за страшныя грахі пераносіла катаванні, звядала, згасала. Узгадалася, як яна кожны раз падфарбоўвала і без таго прыгожыя вочы, а пасля пыталася, ці выглядае цяпер хораша, хоць ён любіў яе і без макіяжу. У такія світальныя моманты яна выглядала да непрытомнасці чыстай, пяшчотнай, добрай. Успомнілася яе любімая кашуля, якую яна апранала на нейкую асаблівую падзею, а часам — проста на вячэру, калі вярталася дадому першай, жадаючы зрабіць вечар асаблівым. Яна і цяпер заставалася прыгожай, толькі ўнутры. Быццам на падсвядомым узроўні цягнула на ногі капу, ведаючы, што недазваляльная частка ног агалена, часам папраўляла валасы і загортвала ў іх вушы, цяпер ужо з заплюшчынымі вачыма. Жанчына народжана жыць прыгажуняй і паміраць, відавочна, прыгажуняй таксама.

Як бы страшна тое ні гучала, але ён пачаў маліць Госпада, каб забраў яе, хутчэй вызваліў ад пакут, каб быў літасцівым да яе, каб забраў у яе страх смерці, паслаў супакаенне і даў адпачынак. Яго слёзы, здавалася, ужо высахлі навек. Аднак усярэдзіне хацелася галасіць. Бог не прыходзіў да яе бальнічнага ложка, сам ён стаў для яе тым, хто вырашыў усё. Не жадаючы турбаваць сонных медсясцёр, падкалоў укол, сказаўшы, што будзе лягчэй. Сказаўшы не «да пабачэння», а «бывай, родная», — пайшоў, не паварочваючыся, з роўнай спінай, быццам ён у тым самым мундзіры ўдзельнічаў ва ўрачыстым шэсці па вуліцах горада.

Праз 15 хвілін дзверы цягніка зачыніліся і пачуўся званок. Ён прыкладна разлічыў дзеянне лекаў і ўжо ведаў, пра што яму паведамяць.

Дзіўна, але калі мы ведаем пра тое, што хтосьці павінен знікнуць, становіцца пуста, нейкі жаль невымоўны, не бачыцца нават жыццё на зямлі без гэтага чалавека. А гэта ўсяго толькі як, прынамсі, з кватэры знікае вазон: спачатку інтэр'ер зусім не тым падаецца, нібы чагосьці не хапае, а пасля яго адсутнасць становіцца звыклай, усё зрастаецца, робіцца роўным, сціраецца, сонца ўзыходзіць, усё па-ранейшаму. Аказваецца, любая адсутнасць не спыняе рух зямнога шара, да любога знікнення прызвычайваешся.

На вешалцы віселі спакойная і ласкавая Кашуля ды стрыманы, прыстойны Мундзір. Калісьці ў гэтай далікатна-ружовай у драбнюткія ружы вопратцы адна прыгажуня піла каву, грала ў тэатры, кахала. А ў мундзіры адзін хлопец абараняў сваю жонку, маму і тату, іх дом і іх горад. Шафа мела шчыліну на ўсю даўжыню,

такія і ў людзей бываюць шчыліны, праз якія ў цела запаўзаюць радасці і смутак. Адтуль бачны недзе 37-ы дзень зацяжнога сакавіка.

— А ведаеш, пра што я мару? — спытала Кашуля, павагаўшыся. — Я мару пра тое, што мяне надзене дзяўчына, згуляе ролю той, якая не магла жыць без кавы, якая марыла паскакаць па парыжскіх лужынах, любіла да слёз, захаплялася «Маленькім прынцам» і Псалмамі. Я вось выглядаю часта з-за шчыліны і бачу, як яна грацыёзна паўтарае тэкст ролі перад люстэркам, услых смяецца гучным смехам, а затым махае рукой, маўляў: «Не, не так», — і зноўку паўтарае фразу. І так магло працягвацца гадзінамі.

— Вось у гэтым мы з табой розныя: няма ў мяне мары граць чалавечыя жыцці, мой герой сыграў сябе без астатку. Шкада, што часам нашыя мары спраўджваюцца ў кагосьці іншага. Наша Старая запрасіла акцёраў тэатра, і яны заўтра прыйдуць па мяне, я ім патрэбны для новай п'есы на ваенную тэматыку.

— Я радая, што ты шчыра і аддана ўзрадуешся за мяне, і мая мара ў табе адбудзецца…

Калі б людзі падслухоўвалі за адзеннем, то абавязкова пачулі б іх штодзённыя размовы. Яны запавольвалі свой шэпт, ваганні. Кашуля заснула з марамі пра гіганцкія афішы, касцюмерныя, феерычныя агні, пакрэсленыя тэксты... Хоць Мундзір ведаў, што рай не там, дзе спраўджваюцца мары, а там, дзе навакольныя, там, дзе тыя, каму ты такі дарагі і мілы, там, дзе ты прыносіш карысць, дзе нічога не баліць, дзе Старая бабулька ахутвае ў водар парфумаў усю вопратку, дзе ёсць Мундзір і Кашуля разам.

Мундзір ужо даўно таемна ад Кашулі вырашыў, што ўпадзе з вешалкі, з надзеяй, што яго не ўбачаць, а вытанчанасць, прыглушаная вытанчанасць Кашулі не застанецца па-за іх увагай і яе мара збудзецца. Усе «за» і «супраць» ужо даўно былі вызначаны. І хіба існуе радасць большая за радасць асобы, што кахае. Рывок і глухое шамаценне суправаджалі палёт Мундзіра ўніз. Гэта быў не палёт птушкі, акрылены і вольны, а быццам непатрэбную анучу шпурнулі з балкона; як палёт самагубцы, які пашкадаваў пра зробленае. Імгненне падалося доўгім, аднак няўхільным, і насуперак усім законам фізікі хацелася ўзляцець. Толькі цяпер Мундзір адчуў, наколькі нікчэмна яму са дна шафы глядзець уверх на сваё каханне, як на Бога, і ведаць, што, нягледзечы на ўсе малітвы, іх заўтра развядуць, апоўдні ўжо.

Раніца не прымусіла чакаць. Пачуўся грукат. Так грукоча і так уздрыгвае толькі цішыня перад тым, як павінны ўвайсці. У пакоі пачуліся галасы. Мундзір не знайшлі. Кашулю Старая не аддала, маўляў, гэта адзінае, што засталося ад дзяўчыны, якая любіла яе сына.

***Пераклад з украінскай Адама ШОСТАКА***



# СЛУХАЦЬ РЫТМІКУ КРОКАЎ І КАШАЛЬ ПАДЭШВАЎ

*Вікторыя ДЗІКАБРАЗ*

* * *

Мы насамрэч былі адмарозкамі,
хаця ж бы той ноччу, на трасе,
ды калі з цягніка скакалі
пасля сумеснага абуджэння
на верхняй, правай… левай?
Ды ўрэшце, якая розніца!
Мы на трасе і ноч сцішэлая,
а мы двое з табой танцуем
пад сігналы міглівых прывідаў,
што з двума канусоідна-белымі.
Ты смяешся, ты дражніш байкераў,
я смяюся, збіваюся з рытму.
Мы шалеем, сп’янела, акрылена!
Нашы клеткі грудныя адкрытыя.
І травою, густою і чорнаю
між далоняў, ад лёгкіх, пад спінамі
нас у космас кідае віхарна
паравоз самалётам абрынутым!
Ты смяешся, але, як шторм які,
твой спакой з неўтаймоўным грукатам
па гартані пускае хвалямі
мора з радасці, шчасця, муркату.
Я смяюся, няўтомна дыхаю:
як нажамі сусветнае варыва.
Нам без даху дарогі розныя
раз за разам найлепшыя! разам мы.

* * *

А ты паверыш — мне?
Не было ў нас міру. У бацькоў не было вайны.
Што ты раскажаш тады на ўроку гісторыі?
Выкідай свой айфон, бо не мелася ў свеце прычын
скіраваць эвалюцыю
толькі дзеля ўзбраення.

А ты ці паверыш мне?
Ты, у сваёй шкарлупіне?
Кітай засяліў Меркурый ці янкі — Зямлю.
Што ты ўбачыў па-за лесам антэн?
І што пачуеш, апроч фастфуду ў навушніках.

Божа, як яшчэ церпяць цябе атэісты.
Ты, мабыць, не маеш спакою адікаўкі.
Мне б тваю ўладу над масамі медыя,
Замяніла б табе нікнэйм, каб мог хоць калі падрамаць.

Ты паверыш мне?
Калі я забяруся ў скрынку,
Спрадукую героя, рэлігію й брэнд у дадатак.
Я ствару ўсе ўмовы, каб мог ты дыхнуць і чыхнуць.
А ўсё астатняе — «прыйдзе», «міне» ці ўрэшце «якая розніца».

Ксенія СУБУРАЙ

* * *

Збіраю пластмасу світанкаў,
Раскіданых па акулярах.
І ў гэтым затурканым свеце
Так хочацца вершы пісаць
І нават жыць.
Так хочацца слухаць рытміку крокаў
І кашаль падэшваў.
І ў той самы момант забыць пра каметы,
Мінулага не вярнуць.
Ў бетоне ўсе атамнастанцыі
Сноў.

І несупынна наперад.
Стэрыльна — адкрытым асфальтам,
Бурштынавы погляд накідваю
Ў постаці дрэў.
І не мігаць.
Зусім.
Маляваць па небе
Пальцамі.
Такая бязважкасць,
Што й сонца не падае зноў.

* * *

ведаеш, ноччу на столі адсветліны фар.
гэта, зрэшты, стасункі мае і ночы.
што сказаць табе… ў сэрцы асколкі петард.
не баліць. толькі дзіка ласкоча.
было б добра ўчыніць хоць якійсьці тэракт
супраць восені, ведаеш гэта.
ці закрыць усе вокны, ды як
весці мне гаману і далей з усім светам.
а калі ж ты не спіш, прашу, не забывай,
што на столі святло дыі восень, то — я.
расчыняй для мяне насцеж вокны штоночы.
і петарды кідай паміж рэбраў,
а іскры — у вочы.

## Маргарыта САМБОРСКА

* * *

мая галава трымае так многа марнага,
шуфляда кожная мае свае альвеолы,
на верхніх паліцах ззянне палярнае
ды ў шафе вялікай ёсць моры  і сухадолы.
насамрэч не знаю чаго мне хочацца,
па свеце блукаю знайсці сваю праўду ў надзеі,
і гэты цяжар безупынна за мною валочыцца,
не ведаю пэўна й сама чаго гэта дзею.

завірушаць вятры, час загойвае раны,
па слядах я іду, час твой згадваю весні,
твае дзіўныя песні і далеч нірваны
і здаецца на міг, што вось-вось уваскрэсну.
і здаецца на міг, што няма нічога ўжо болей,
сэрца поўніцца шчасцем, і гэта не дзіва,
я адчула цяпер, што стала дыхаць павольней.
бо табою жыву і на сценах пішу курсівам.

і калі ты пракінешся часам пад ранак
не здзіўляйся палярнаму ззянню між хмар за акном.
проста я даставацьму асколкі смугі з сваіх ранак,
іншы раз так баляць мне пад левым крылом.

## Марк АПЛАЧКА

* * *

і нікога нідзе.
усё навокал прапахла бензінам
і негерметычнымі туалетамі.
месцы нашыя побач —
верхні плацкарт.
наталяемся цішынёй,
а ў нашых навушніках —
адны на дваіх —
граюць Ролінгі.

знаеш, калі б столькі
не сноўдалася люду,
я б пацалаваў цябе.
бо вечнасць у цягніку
можна прамяняць на жыццё,
усё роўна не даедзеш
да канцавой станцыі.

а між намі
толькі паўметра.

не хачу разрываць артэрый,
бо ядзерны выбух —
дробязь,
калі цябе няма.
за берагамі рэк,
у пустынях ці між хмарачосаў
не забудзь згадаць пра мяне,
калі ў тваёй галаве
заіскрыцца музыка.

ты спіш.
мне не да сну.
і нікога нідзе.

***Пераклад з украінскай***
***Міколы АЛЯХНОВІЧА***

*Сяргей СІНЮК*

# ПРАХОДЗЬЦЕ ПАЎЗ
## *Маладыя галасы Пагорыны: 2013*

Пісаць пра маладую літаратуру цікава і адначасова няпроста. Першая цяжкасць — у саміх крытэрыях адбору. Каго лічыць маладым літаратарам? З аднаго боку — малодшыя (у самым добрым значэнні гэтага слова — энергічныя, свежыя, па-добраму задзірыстыя) вершы, з прачытаных мною на Ровеншчыне, належаць пяру пяцідзесяцігадовага Міколы Трубілкі. А часам, загортваючы з палёгкай перапоўнены немаччу і дэпрэсіяй рукапіс васямнаццацігадовага даравання, думаеш: «Не хацеў бы я дажыць да такой старасці». Праблемны таксама і крытэрый адбору: каго можна лічыць літаратарам? Гэта значыць, асобай, якая ўжо адбылася ў літаратуры, хаця б на пачатковай стадыі. Можаце прымаць мяне за кансерватара. Але для мяне парогам найвышэйшай лігі ў літаратуры дасюль застаецца першая прададзеная ў кнігарні кніжка, першы білет на п’есу драматурга ці фільм па яго сцэнарыі…

Творчай моладзі Ровеншчыны можна зайздросціць: тут маюць магчымасць заявіць пра сябе сапраўдныя таленты. Ужо два дзясяткі гадоў абласное аддзяленне таварыства «Прасвета» пры падтрымцы Ровенскай абласной арганізацыі НСПУ праводзіць конкурс на лепшы твор «Пярліна шматкаштоўная» («Перло многоцінне»). Творы пераможцаў друкуюцца на старонках альманаха «Парасткі» («Проріст»). З 2012 года абласная арганізацыя Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны ўручае прэмію імя Міхайла Дубава — узнагароду маладым аўтарам за лепшы дэбют. Творчасці маладых аддае істотную частку сваіх старонак абласны літаратурны часопіс «Пагорына» («Погорына»). У Нацыянальным універсітэце «Астрожская Акадэмія» адкрыта спецыяльнасць «Літаратурная творчасць».

**Малодшыя (у самым добрым значэнні гэтага слова — энергічныя, свежыя, па-добраму задзірыстыя) вершы, з прачытаных мною на Ровеншчыне, належаць пяру пяцідзесяцігадовага Міколы Трубілкі**

Трыццацігадовы юбілей адзначае сёлета народнае літаратурнае аб’яднанне «Паэтарх» Ровенскага гарадскога палаца дзяцей і моладзі (кіраўнік — Таццяна Габукова). У большай ці меншай ступені «Паэтарх» паўплываў на сталенне і творчы светапогляд усіх маладых творцаў, якія ўвайшлі ў ровенскую літаратуру пачынаючы з дзевяностых гадоў.

Творчы маладняк раз-пораз выяўляе схільнасць да стыхійнай самаарганізацыі. З 1998 года ў Роўне запрацавала моладзевае літаб’яднанне «Крэйда». Выйшлі два альманахі. У 2000-м у кіберпрасторы з’явіўся сайт «Крэйды». Стаўшы трамплінам для двух сваіх удзельнікаў — Алены Ефімчук і Аляксандра Еўтушка, аб’яднанне спыніла сваю дзейнасць у 2004 годзе.

Напрыканцы ліпеня 2013 года ў Роўне прайшла дзяржаўную рэгістрацыю моладзевая грамадская арганізацыя «Літаратура.РВ». Яе стварыў Марк Аплачка, які ў кастрычніку 2011 года пачаў праводзіць паэтычныя чытанні ў невялічкай кнігарні. Сёння ў складзе арганізацыі шэсць чалавек.

За паўтара года дзейнасці праведзена каля 20 прэзентацый і творчых вечароў. У большасці выпадкаў гэта сустрэчы, разлічаныя на 40—70 гледачоў. Але ёсць і выключэнні. Напрыклад, на творчы вечар Івана Малкові-

**Парогам найвышэйшай лігі ў літаратуры дасюль застаецца першая прададзеная ў кнігарні кніжка, першы білет на п'есу драматурга ці фільм па яго сцэнарыі...**

ча, дырэктара вядомага ўкраінскага дзіцячага выдавецтва, зала ўніверсітэта на 400 месцаў была перапоўнена. А на творчы вечар «Бу-Ба-Бу», што праходзіў у вялікай зале Ровенскага акадэмічнага музычна-драматычнага тэатра, сабралася больш як 600 чалавек.

Актывісты арганізацыі праводзілі таксама чытанні «Проста неба», дзе маладыя аўтары маглі чытаць свае вершы пад адкрытым небам. З іншых цікавых праектаў варта адзначыць паэтычны інтэрнэт-конкурс «СвятлоFOR», які прайшоў двойчы, і «Проста.та» — закрытыя паэтычныя чытанні. Апошні характэрны тым, што на ім прысутнічаюць толькі аўтары, якія абмяркоўваюць і ацэньваюць паэзію адно аднаго. Такая прастора для маладых паэтаў вельмі патрэбная, бо дае магчымасць раз на два тыдні абмяняцца вопытам і атрымаць парады, як пісаць лепш.

Асабліва хочацца адзначыць праект «Праходзьце паўз». Гэта дабрачынная акцыя па зборы кніг для дзяцей з абмежаванымі здольнасцямі. Падчас першага этапу, які прайшоў у Роўне, сабралі 480 кніг. А праз нейкі час жыхары Кіева дзякуючы мясцовым актывістам перадалі для дзяцей каля 1000 выданняў. Сабраныя кнігі папоўнілі бібліятэкі ў інтэрнатах Ровенскай вобласці.

Пяройдзем да разгляду лепшых дасягненняў маладой ровенскай літаратуры.

**Юлія Бандзючная** закончыла факультэт украінскай філалогіі Ровенскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта. Магістр украінскай філалогіі. Сакратар Ровенскай абласной арганізацыі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны. У 2004 годзе ўбачыў свет яе першы паэтычны зборнік «Не хадзіць па душах». Паводле аўтарскай задумы, зборнік меўся называцца «Жыццёвы вектар». Пра гэтыя свае пошукі паэтэса паведаміла чытачам радкамі першага ў зборніку верша.

Пачынаю з нуля,  
Трэба ж з нечага неяк пачаць.  
Заглядаю ў мінулае.  
Наскрозь пранізваю час.  
Так, як ёсць, як было — не жадаю.  
Прыкапаць бы ўсё гэта…  
Пачынаю з нуля.  
І шліфую сумленне, думкі.

Зборнік мае два раздзелы: «Рэаліі — нібыта цеціва», «І ў маім сэрцы рэнесанс». Па тэматыцы тут вершы грамадзянскага зместу, пейзажныя замалёўкі, лірыка настрою, роздум пра сучасныя жыццёвыя праблемы, пра супярэчнасці нашага быцця.

Вершы наступнага зборніка «Спадчына» (2008) выбіваюцца са стандарту жаночай паэзіі невялікім адсоткам асабістай лірыкі, больш значным, амаль рэпартажным поглядам на свет і Украіну.

Пэўным падсумаваннем юнацка-паэтычнага перыяду ў творчасці стаў зборнік «Невивчена гладінь» (2012). Першая частка 128-старонкавага томіка «Выбоіны будняў» — погляд неабыякавага чалавека, які творча засвоіў і пераасэнсаваў украінскую класічную паэтычную традыцыю, на незлічоныя праблемы і выпадковыя радасці неадназначнага ўкраінскага сёння. Аднак вяршыні сучаснай паэзіі немагчымыя без непасрэднай сувязі з асновай нацыянальнай славеснай культуры. Юлія Бандзючная добра ведае радавод валынскай паэзіі і шануе здабыткі валынскай паэтычнай традыцыі, спадкаемцам якой лічыць сябе з поўным правам. Пацверджанне таму — цудоўная «Партрэтная галерэя», у якой прадстаўлены паэтычныя партрэты народжаных на Валыні класікаў украінскай паэзіі і сучасных майстроў вершаванага слова: Лідзіі Рыбенка, Сцяпана Бабія, Алексы Стафановіча, Уласа Самчука, Алены Пчолкі, Галіны Гардасевіч.

У 2013 годзе Юлія Бандзючная дэбютуе як празаік. Яе раман «Ідзе любоў» («Гряде

**Асабліва хочацца адзначыць праект «Праходзьце паўз». Гэта дабрачынная акцыя па зборы кніг для дзяцей з абмежаванымі здольнасцямі**

**Уважлівага чытача, які засумаваў па сапраўднай паэзіі, што патанае сёння ў каламутных хвалях хранічна-перспектыўнага пачаткоўства і заведама бесперспектыўнай графаманіі, не можа не радаваць, што «Святло ў далонях» — не ахапак разнапланавых вершаў**

любов») стаўся ўдалым прарывам ровенскіх аўтараў у сферу постмадэрнізму, дзе добра спалучаюцца сюжэтная аснова і знешняя стылістыка папулярнай літаратуры (за знешнімі прыкметамі гэта — тыповы любоўны раман), надзвычай багаты фактаж з гісторыі Валыні ў цэлым і валынскай літаратуры ў прыватнасці і глыбокі, выпакутаваны гістарычны і грамадскі светапогляд аўтаркі.

**Арцём Вішнеўскі** — выпускнік Ровенскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта, настаўнік-гісторык. Працаваў памочнікам рэжысёра тэатра-студыі «Ад ліхтара» пры Ровенскім гарадскім палацы дзяцей і моладзі. Неўзабаве стварыў Маладзевы эксперыментальны тэатр у Роўне «МЕТР», у якім рэжысіраваў С. Мрожака, В. Байчука, В. Мастрасімоне, К. Хензеля, Ф. Кафку. Увёў у рэпертуар тэатра некалькі сваіх п'ес.

Ранняя п'еса «Аплявуха на памяць», напісаная ў стылі «не горш, чым у людзей». Яе сюжэт — вечарына прыдуманы дзень нараджэння былога школьнага настаўніка. У п'есе выразныя і падтэкст, і кантэкст — неадпаведнасць юнацкіх ідэалаў і жорсткага рэальнага свету.

«Розніца», напісаная ў 2002 годзе, — рашучы крок у напрамку пост-абсурдысцкай драмы і фармальнага эксперыменту з выкарыстаннем абстрактных персанажаў і славесна-дзейных метамарфоз. Дзеянне адбываецца ў майстэрні мастака Дальтоніка, які не заўважае розніцы. Пераканаць яго ў тым, што розніца ўсё-такі ёсць, прыходзяць Зялёны і Карычневы. Мучацца яны з ім доўга, але зусім не нудна, ды, мабыць, трэба, каб прыйшла менавіта Яна… Дальтонік перакананы ў тым, што Розніцы няма, і ўпарта жадае давесці гэта Зялёнаму і Карычневаму. Але тут прыходзіць Розніца… П'еса ўвайшла ў Анталогію маладой драматургіі «У пошуку тэатра» (2003).

Наступная п'еса «Клаптикова порода» кіруе ў будучыню, прычым нацыянальная праблематыка перарастае ў глабальную. У форме своеасаблівага фэнтэзі аўтар мадэлюе адмысловы хімерны свет «з клаптиковими людинамі», дзе пануюць штучная рэальнасць і бяздушныя механізмы. П'еса не прэтэндуе на прагноз будучыні, а, хутчэй за ўсё, дыягнастуе сучасныя хваробы грамадства. Галоўны герой Эней стаміўся ад няшчырасці і выбраўся шукаць першасную прыроду. На сваім шляху сустракае Адміністратара, Шафёра і Дзяўчыну (Дзяўчо), якія яшчэ больш павышаюць яго ўнутраную дэпрэсію. Да часу яго ратуе каханне…

За п'есу «Пра цягнік, чамаданы, анучы і сёе-тое яшчэ…» аўтар атрымаў трэцюю прэмію ў намінацыі тэатральных п'ес на «Каранацыі слова — 2006».

Прыход у літаратуру **Валянціны Люліч** можа здацца выпадковым. У 2011 годзе Ровенскі часопіс «Погорына» апублікаваў вялікую падборку «Церпкі прысмак восені», якая красамоўна засведчыла: ёсць сапраўдны паэт з акрэсленым светапоглядам і сталым самастойным аўтарскім голасам. Дэбют быў адзначаны прэміяй імя Міхайла Дубава за 2011 год. На шчасце, лаўрэатка ўспрыняла ўзнагароду не як фінішную стужку, а як трамплін для новага творчага ўзлёту. Напачатку наступнага года ў выдавецтве

**Ці ж не ў кожнага з нас было ў жыцці пачуццё, якое скончылася да таго, як адбалела? Але згадваецца, перадусім, са светлым сумам, усмешкаю. І з удзячнасцю за тое, што зрабіла больш моцным, прыгожым ці, па крайняй меры, дасведчаным**

**Дальтонік перакананы ў тым, што Розніцы няма, і ўпарта жадае давесці гэта Зялёнаму і Карычневаму. Але тут прыходзіць Розніца...**

«Раса» ўбачыла свет дэбютная кніга вершаў «Святло ў далонях».

Уважлівага чытача, які засумаваў па сапраўднай паэзіі, што патанае сёння ў каламутных хвалях хранічна-перспектыўнага пачаткоўства і заведама бесперспектыўнай графаманіі, не можа не радаваць, што «Святло ў далонях» — не ахапак разнапланавых вершаў, уціснутых пад адну вокладку, а сапраўдная паэтычная кніга. З уласным эмацыйным сюжэтам. Напісаная з жыцця жывых людзей. І прызначаная для жывых людзей. Бо ці ж не ў кожнага з нас было ў жыцці пачуццё, якое скончылася да таго, як адбалела? Але згадваецца, перадусім, са светлым сумам, усмешкаю. І з удзячнасцю за тое, што зрабіла больш моцным, прыгожым ці, па крайняй меры, дасведчаным.

Лірычная гераіня «Святла ў далонях» яднае ў сабе рамантычную традыцыю і дух сучаснасці. Яна здатная не толькі да цёплай, шчырай адданасці, але і да халоднага ўмення рассякаць яе вузел:

Я цябе не крануся, мілы.
Можа, думкаю неасцярожна.
Пройдзе ўсё, восень м***а***е сілы
Стому змыць з дня наступнага кожнага…
Не скажу, не трымаю больш я.
Ты спяшаеш лятаць без крылаў?
Але ведай: *што* можа быць горшым,
Як любіць без кахання, мой мілы.

Такой гераіняй цяжка не захапіцца. А яшчэ цяжэй не пазайздросціць аб’екту такога палкага і мудрага пачуцця.

**Юля Касцюкевіч**, самастойна навучыўшыся чытаць у пяцігадовым узросце, літаральна «глытала» кніжкі, што меліся ў немалой хатняй бібліятэцы. Звычайнай з’явай у сям’і былі гульні «У словы», «У рыфмы», што і паспрыяла развіццю творчых здольнасцей. Вершы пачала пісаць змалку. Калі Юлі было дзесяць, яе першы верш надрукавалі ў газеце. Дзяўчынка тады наведвала літаратурна-мастацкі клуб «Крок» пры тэрытарыяльным цэнтры рэабілітацыі інвалідаў, і яго кіраўнік параіла бацькам паказаць Юлю літаратурнаму аб’яднанню «Паэтарх». У 2003 годзе выйшлі кніжачка для дзяцей «На падвор’і ў бабусі» і зборнік «Пачатак вершаў» (2003). Неўзабаве Юля стала дыпламанткаю Міжнароднага конкурсу лепшых твораў маладых літаратараў «Гранаслоў-2005», пераможцам усеўкраінскага конкурсу «Веру ў будучыню тваю, Украіна» (Кіеў, 2005). Паэт і крытык Іван Андрусяк адзначыў: «Юля сталася цікаваю і таленавітаю асобай. Так, яшчэ нястрымнаю, яшчэ сям-там нязграбнаю, але вельмі і вельмі абнадзейлівай».

Зборнік вершаў «А давай пагаворым пра вечнае» выйшаў у Ровенскім выдавецтве «Валынскія абярэгі» ў 2006 годзе. Пачынаецца з радка «А давай пагаворым пра вечнае». Што можа сказаць пра вечнае юная асоба, за плячыма якой не такі ўжо і вялікі жыццёвы досвед? А на справе — можа, ды яшчэ як… Тэматычным працягам папярэдняй кнігі на якасна новым выканаўчым узроўні стала сёлетняя кніга Юлі «Адчуць бязмежнасць». Летам 2013 года Юлю прынялі ў Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны.

У адным з інтэрв’ю Аляксандр Ірванец на пытанне: «Хто для цябе самы цікавы ў маладой літаратуры, што ты там для сябе бачыш?» адказаў: «Вось у мяне ў Астрозе, на аддзяленні літаратурнай творчасці, вучацца вельмі таленавітыя дзеці. Некаторыя з іх маюць ужо кніжкі — Яўхім (Юхым) Дышкант, Аксана Пухонская, Юля Касцюкевіч — гэтыя імёны мне будзе прыемна праз два-тры гады пачуць ужо на кіеўскім узроўні, калі «Факт» ці «Грані-Т», ці іншае сталічнае выдавецтва надрукуе іх першую кніжку». Прадказанне класіка ровенскай літаратуры збываецца. А на падыходзе новыя імёны, новыя цікавыя тэксты. А значыць — тэма маладой ровенскай літаратуры яшчэ не хутка будзе вычарпана.

*Пераклад з украінскай*
*Міколы АЛЯХНОВІЧА*

Жанна ШАЛАДОНАВА

# СУПОЛЬНАСЦЬ АКАДЭМІЙ

## З хронікі беларуска-ўкраінскіх літаратуразнаўчых сувязей

**Памяці У. І. МАРХЕЛЯ**

***Некалі акадэмік Дзмітрый Ліхачоў звярнуў увагу на «адкрыты характар усходнеславянскіх культур», залічыўшы іх у шэрагі «моцных культур, ... якія атрымліваюць свае нацыянальныя асаблівасці ад стасункаў паміж сабою і з іншымі культурамі, ад узаемаўплываў і ўзаемаўзбагачэння, што дазваляюць творча засвойваць і перапрацоўваць на свой лад дасягненні суседзяў». Шаноўнае стаўленне да нашай роднаснасці, да якога заклікаў вучоны, прадугледжвае глыбіню і грунтоўнасць вывучэння як нацыянальна-мастацкай самабытнасці суседніх народаў, так і плённага вопыту іх кантактаў, супрацоўніцтва і узаемадачыненняў. Гэта абавязвае прадстаўнікоў навукова-гуманітарнага профілю першымі знаходзіць і фіксаваць эстэтычныя праявы жывой практыкі міжнацыянальнага духоўнага збліжэння.***

Эстэтыка мастацкага слова заўжды ў цэнтры ўвагі літаратуразнаўчай і культуралагічнай думкі. Шырокі спектр актуальных праблем беларуска-ўкраінскага ўзаемадзеяння даследаваны ў працах такіх вядомых навукоўцаў, як П. Ахрыменка, М. Ларчанка, Э. Мартынава, К. Хромчанка, А. Мальдзіс, В. Рагойша, Т. Кабржыцкая, М. Тычына і іншых. Асаблівае значэнне ў напаўненні тыпалогій надаецца ўзаемнасці пачуцця агульных славянскіх каранёў, адзінству гістарычных лёсаў і інтарэсаў, этнічнай і моўнай агульнасці і духоўнай роднаснасці беларускага і ўкраінскага народаў. У найноўшых працах (Нарысы суседазнаўства: Украіна, Польшча ў прасторы і часе вачыма беларусаў: знакавыя адметнасці міфалогіі, фальклору, культуры, народазнаўчых канцэптаў мастацкага твора / Т. В. Кабржыцкая, М. М. Хмяльніцкі, Э. Ю. Дзюкава. — Мінск : Кнігазбор, 2012. і інш.) параўнальны ракурс заканамерна ахоплівае ўсё больш шырокія абсягі духоўных стасункаў, выходзіць на міжкультурны ўзровень, узбагачаецца фактамі тыпалогій у сферах міфалогіі, фальклору, веравання і іншага.

Шматвектарныя даследаванні ў галіне параўнальнага аналізу эстэтычных сістэм, мастацкіх традыцый і этнакультурных рэалій беларускай і ўкраінскай літаратур планамерна і мэтанакіравана ажыццяўляюцца ў аддзеле ўзаемасувязей літаратур Цэнтра даследаванняў беларускай мовы, культуры і літаратуры НАН Беларусі. Этапным выданнем, што надало ўстойлівыя наватарскія імпульсы росшукам у галіне кампаратывістыкі, з’явіліся «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: Культурна-гістарычны і літаратуразнаўчы аспекты праблемы» (навук. рэд. У. Мархель, М. Тычына; Мінск, 2002). У зборніку літаратурна-мастацкія, культурна-гістарычныя працэсы ў Беларусі і Украіне аналізуюцца праз прызму катэгорый кампаратывістыкі, што дазволіла выявіць як нацыянальную самабытнасць, падабенства,

Шматвектарныя даследаванні ў галіне параўнальнага аналізу эстэтычных сістэм, мастацкіх традыцый і этнакультурных рэалій беларускай і ўкраінскай літаратур планамерна і мэтанакіравана ажыццяўляюцца ў аддзеле ўзаемасувязей літаратур Цэнтра даследаванняў беларускай мовы, культуры і літаратуры НАН Беларусі

## Паэтычная спадчына Тараса Шаўчэнкі раскрываецца як адно з уплывовых крэатыўных культуралагічных і мастацкіх выяўленняў беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей

так і зарыентаванасць на агульначалавечыя каштоўнасныя ўніверсаліі. У 2004 годзе аўтарскі калектыў аддзела (кандыдаты філалагічных навук В. І. Локун, У. І. Мархель, Ж. С. Шаладонава) за распрацоўку на аснове матэрыялаў калектыўнага зборніка супольнага з акадэмікам НАН Украіны Р. П. Піўтаракам праекта «Культурна-гістарычныя беларуска-ўкраінскія сувязі: літаратурна-моўны аспект» быў уганараваны прэміяй прэзідэнтаў трох акадэмій навук — Беларусі, Украіны і Малдовы.

Вынікам навукова-даследчай працы стаўся выхад у свет нашай манаграфіі «Духоўныя спектры агню: Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура пачатку ХХ ст.» (Мінск, 2009). Прааналізаваны ўплыў філасофіі творчасці ўкраінскага Кабзара на эстэтыку і паэтыку беларускай класікі пачатку ХХ стагоддзя. У раздзелах, напісаных для калектыўных манаграфій («Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура ХІХ — пачатку ХХ стст.: асаблівасці рэцэпцыі» // Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур ХІХ—ХХ стст. (навук. рэд. У. Мархель, Мінск, 2006); «Паэмы Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі ў кантэксце еўрапейскага рамантызму» // Еўрапейскі рамантызм і беларуская літаратура ХІХ—ХХ стст. (навук. рэд. У. Мархель, Мінск, 2008)), паэтычная спадчына Тараса Шаўчэнкі раскрываецца як адно з уплывовых крэатыўных культуралагічных і мастацкіх выяўленняў беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей. Тыпалогіі дазволілі ўлавіць рэзанансныя матывы і агульныя тэндэнцыі ў развіцці культур братніх народаў, рэльефна акрэсліць нацыянальную спецыфіку, індывідуальна-аўтарскую непаўторнасць і, адначасова, падабенства творчасці Тараса Шаўчэнкі і Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, узбагаціць яе канцэптуальныя мадэлі.

Распрацоўку беларуска-ўкраінскага праблемна-тэматычнага дыяпазону працягвае даследаванне «Прыродна-рэчыўная прастора ў творах Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі» // Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць (навук. рэд. М. Мікуліч; Мінск, 2012). Тут раскрываецца спецыфіка мастацкага выяўлення прасторавых топасаў як эстэтычных аб'ектаў, і ў той жа час актуалізуецца іх анталагічная сутнасць як феноменаў беларускай і ўкраінскай прыроды і культуры, падкрэсліваецца ўласцівасць прасторы дэтэрмінаваць нацыянальна-этнічнае аблічча кожнага з народаў, уплываць на светапоглядныя і жыццёвыя ўстаноўкі. Даследаванне мае міждысцыплінарны характар, бо акрамя літаратуразнаўства звязана з такімі галінамі ведаў, як этнапсіхалогія, геаграфія, філасофія, культуралогія.

З 1998 года супрацоўнікамі Цэнтра праводзілася карпатлівая праца па зборы і апрацоўцы матэрыялаў для «Шаўчэнкаўскай энцыклапедыі ў 6-ці тт.», якая рыхтуецца ў Інстытуце літаратуры імя Тараса Шаўчэнкі НАН Украіны. Два першыя тамы гэтага шыкоўна аформленага і ўнікальнага па змесце акадэмічнага выдання (выйшлі ў 2012 годзе) ад імя кіраўніцтва кіеўскага Інстытута перададзены ў бібліятэку Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. У падрыхтаваных артыкулах для ШЭ («Беларуская літаратура і Шаўчэнка» і іншых) максімальна поўна і падрабязна прадстаўлены шматлікія факты рэцэпцыі Кабзара ў Беларусі, якія характарызуюцца як уплывовы чыннік беларуска-ўкраінскіх узаемасувязей. Выяўлена значная колькасць новых звестак, а даўно вядомым нададзена сучасная навукова і канцэптуальна абгрунтаваная інтэрпрэтацыя.

Супрацоўнікі аддзела (Н. Л. Бахановіч, С. Л. Мінскевіч, Ж. С. Шаладонава і іншыя) задзейнічаны ў плённых навукова-творчых стасунках з украінскімі калегамі з Кіева, Луганска, Львова, Цярнопаля. У выніку адкрытага і канцэптуальна насычанага супрацоўніцтва адбываецца ўзаемаабмен навукова-тэарэтычнымі напрацоўкамі, прэзентацыя дасягненняў айчыннай літаратуры і культуры.



## Прадмова рэдакцыі

*Гжэгаж Міхалоўскі, галоўны рэдактар «Падляскага квартальніка культуральнага» (regionalia@mbp.org.pl), з'яўляецца рухавіком і натхняльнікам «польскай часткі»: паэзія і проза трэцяй часткі нумара — з яго клапатлівай падачы.*

*Малюнкі — спецыяльна да твораў і проста каб стварыць настрой — прадастаўлены мастаком Аркадзіушам Саўчуком, творчасць якога больш шырока прадстаўлена на сайце «Маладосці» ў праекце «Выяўленчы дадатак».*

*Дзякуем за выдатныя пераклады з польскай на беларускую Арцёму Кавалеўскаму, Ірыне Зімневай, Ірыне Жукавай, Тамары Сарачынскай і Паўлу Ляхновічу.*

*Дзякуем таксама Янушу Леону Вішнеўскаму і Машы Дуброўскай: першаму — за тое, што завітаў у Мінск быццам спецыяльна, каб трапіць у «польскі нумар», другой — за сустрэчу з ім.*

*Яшчэ адна ўдзячнасць адрасуецца пісьменнікам Збігневу Фрончаку і Анатолю Крэйдзічу: за тое, што другі прапанаваў нам творы першага, бо яны сюды пасуюць.*

# Wizerunki uczuć nierozpoznanych.
# Старонкі-казкі Бяла-Падляскі





*Агата ШЧОДРАК*

***Лаўрэатка Агульнапольскага конкурсу імя Крашэўскага, удзельніца літклуба «Махіта», філолаг па адукацыі, нарадзілася ў 1988 годзе. На думку польскіх крытыкаў не вельмі давярае сонцу, але і цёмны бок месяца таксама не для яе. «Флюід распуснага неба» — так называецца зборнік, вершы з якога прадстаўлены тут.***

# ЦІ ТО СУМЛЕННЕ, ЦІ ІНШАЕ НЕБА…

* * *

як будзеш мецьь ужо крылы
і будзеш плысці
то ўспомні імя маё
прыйду
буду з табой і не засну…

бо хачу яшчэ раз
каб гэтыя матылі
запляталіся ў валасы
а твае разгубленыя пальцы
пачалі іх нязграбна шукаць

як будзеш мець ужо кроплі расы
што разаб’юцца на скуры тваёй
зрабі так
каб я спазнала іх холад
шапні
і я задрыжу за тваім голасам…

бо хачу яшчэ раз
каб мне не хапіла паветра
працягні толькі слова
і я пакіну ўсе берагі
і патану ў той
крылатай глыбі

* * *

ведаеш, што я люблю?
мяшаць верш з дажджом
віно з табой
кветкі з мокрым мохам
люблю
ранкі поўныя табой
пакрытыя мяккай вясёлкай
зялёным пледам

асцярожна каб дні не ўцяклі
пачынаю лічыць спакой
памнажаю яго на дзесяць
дзялю з табой напалам

часам здаецца
што я люблю хадзіць проста
і глядзець усім у вочы
не люблю
мне хочацца ламаць сэнс
падаць долу
наталяцца паветрам
пляваць на вецер
ляжаць на даху
і пісаць словы
разам з табой

* * *

*Лукашу*

я абуджаюся ўдзячная
абуджаюся
ў сонцы
якое кліча мяне

мы стамлёныя
бо трава пахне
так іржава
так блішчыць
напаказ
як нашыя ступні

і ніхто не хоча казаць
ці то сумленне
ці іншае неба
так калыхаецца
у захапленні
можа то тваё рэха
можа шолах вейкаў
укладае стужку вясёлкі:
я бяспечная



і кожная струна
твайго голасу
будзе граць ува мне…

* * *

здаецца
я заўтра павінна быць
такой як штодзень
здаецца
павінна выпіць кавы
хістацца
калі прыйдзе думка
выйсці роўным крокам
так як заўжды…
гэта не так
гэтага не адбудзецца
бо сёння я не засну
ты сказаў што
маеш працоўную завінавачанасць
і таксама не будзеш спаць

гэта так…
я буду ляжаць слабая
на плоскай паркетнай падлозе

* * *

абудзі мяне…
я кідаюся ў вір
прашаптанай смерці лета
якое яшчэ не пачало пульсаваць
а эскізы з маіх не апранутых думак
плоска хістаюцца
на падушачках
зор

абудзі мяне…
я пастараюся плакаць толькі ўвосень
а цяпер танцаваць у падзяцы
за шэпт што як віно
цалуе брудную кроў

абудзі мяне…

***Пераклад з польскай***
***Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА***



Катажына САЎЧУК

***Лаўрэатка літаратурных конкурсаў, у тым ліку Агульнапольскага імя Марыі Канапніцкай. Нарадзілася ў 1993-м. «Час кідання камянёў» — назва дэбютнага зборніка, з якога выбраны вершы для гэтай падборкі. Паводле рэцэнзіі, гэта «падарожжа ў дарослассць», якая «адчынена і замкнёна адначасова».***

# НЕПАЭТЫЧНАЕ НЕПАРАЎНАННЕ

## ПСАЛОМ 1938 І 1947

***А ў гэтым годзе Буг быў неспакойны…***

Над рэкамі Бугу —
там мы сядзелі і плакалі,
калі зносілі нашыя цэрквы.
Калі яны казалі: Руйнуйце, руйнуйце —
аж да фундаментаў!
мы спявалі сіёнскую песню
і выцягвалі іконы з-пад руін.

А тыя, што нас увялі,
хацелі, каб песня змоўкла.
На таполях таго краю
мы павесілі нашы іконы.
Мы гучна спявалі
Гасподнюю песню
і на чужыне.

Падляшская зямля, калі забудуся на цябе,
хай язык прысохне мне да паднябення!
Хай Бог разаб'е аб скалы маіх дзяцей.



**ГАРА КРЫЖОЎ**

Мікола калісьці быў кімсьці
быў кожным меў усё
а сёння не мае амаль нічога

гэта гара — яго апошняя мэта

каля маленькай цэркаўкі
    на той гары крыжы
на лаўцы расклаў ён
    спарахнелы палітон
і адвечныя старонкі
пажоўклых божых слоў

адзіную маёмасць

галаву пакрытую гушчаром сівых
заўсёдных пытанняў
што не патрабуюць адказу

заснуў

стаў ля падножжа гары
Бог сказаў яму вазьмі крыж на плечы
і ўзнясі на гэтую гару

а крыжоў было мноства
а людскіх пакут было столькі ж

ён узяў найвялікшы найпрыгажэйшы
залаты
такі каб спадабаўся Богу

упаў

узяў меншы жалезны

упаў

узяў яшчэ адзін і яшчэ…

упаў

узяў найменшы драўляны
быў ужо ля вяршыні
манастырскія званы клікалі на вячэрню
прачнуўся

і вырашыў зрабіць крыж
з двух галінак з грабарскага лесу

**ДА АСЬ!**

калі забываюся
што такое паэзія
чытаю твае вершы

і зноў ведаю

[не магу казаць гэтага наўпрост
гэта не ў маім стылі]

гэта не верш
гэта хутчэй прызнанне
выклік
падазрэнне
сцвярджэнне
тэорыя
упэўненасць

твой талент
і мой

непаэтычнае
непараўнанне

гэта была забава маленькіх дзяўчынак
якія вельмі хацелі
перастаць баяцца
і кагосьці мець
але ж нельга кагосьці мець
можна толькі марыць

малыя паэткі
не вырастаюць са сваіх募 мараў
ідуць з імі ў дарослацсь

ведаеш Ась
баюся што гэта праўда

*Пераклад з польскай*
*Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА*



*Паўліна МАЦЕЮК*

***Нарадзілася ў 1987-м, вывучае паліталогію, за шчасце прымае дзіўны стан духу — мінулы. У вершах гэтай дзяўчыны, як напісана ў прадмоўцы да яе зборніка «Не ведаю адкуль... салёная сляза», заўважана шмат дзеясловаў, бо «яе лірычны герой — нецярплівы, а лірычная сітуацыя — патрабуе дынамікі».***

# ЁСЦЬ ТАКІ ЗАКУТАК РОЗУМУ, ЯКІ КАХАЕ ЦЯМРЭЧУ

## НЕЗНАЁМАМУ

я заблукала,
Спадару,
гэта можа было
у мінулым месяцы
калі ідучы
па Кракаўскім Прадмесці
я збочыла на не тую вулку

так гэта было
несумненна тады,
Спадару

хай Спадар мне паверыць,
з той хвіліны
дрэнныя здарэнні
пацяклі бы лавіна
і сёння я напраўду не ведаю,
ці пакіну я калі-небудзь гэты горад
без боскай дапамогі



* * *

думкі знікаюць у змроку
ёсць такі закутак розуму
які кахае цямрэчу
успаміны знікаюць у змроку
ёсць такая частка цябе
якая хоча забыць
усё калісьці канчаецца
праўда?



## ПЕРВЕРСІЯ

вочы твае
спакушаюць
і прыцягваюць
але адначасна
я іх баюся
столькі ў іх бунту
жадання быць
незалежным
і можа быць толькі таму
што мы знаёмыя ўжо столькі гадоў
я ведаю
што гэта просьба
каб я была

## МАЛЫЯ ВОЙНЫ

заблытаныя
у павуцінні праблем
нават тых
найменшых
пальцамі
фармулюем новыя законы
змагаемся за побыт
вуснамі
шукаем надзею
вачыма
падманваем свет
і сэрцам плачам
але так ціха
каб ніхто не пачуў

і менавіта гэта
нашы малыя войны

## II. 2010

я кахаю гэты горад
і ненавіджу
жадаючы ўцячы ад яго
ад брудных вуліц
жабракоў на іх рогах
уцячы
ад шэрай штодзённасці
сталіцы ўсходу
але кахаю аднак
кожны сонечны ранак тут

я хацела б сказаць
што буду тужыць
па гэтым горадзе

*Пераклад з польскай*
***Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА***



*Аляксандра ПЕНЬКОШ*

***Нарадзілася ў 1992-м, на 16-м годзе жыцця стала лаўрэаткай Агульнапольскага конкурсу імя Крашэўскага. Пра імідж паэткі гаворыць назва яе зборніка — «Я толькі крохкі дэман». Піша не вершы — асабісты лірычны дзённік, нататнік настрояў, перажыванняў, дасведчанняў...***

# КРЫЧУ БЯЗГОЛАСНА «АДЧЫНІ»

* * *

Ты для яго нічога не значыш
бо мае цябе ён заўсёды ўдосталь
як паветра
Адпусці яго руку
бо і так ён
не адчувае

У пакоі пустым
я, бы жабрак, прашу міласцівых
пяшчотаў
саграваюся рэшткай
мройных абдымкаў



**СТУК-СТУК**

Пасярод густой цішы
не пачуеш схаванага хутка пад курткай
сэрцабіцця на пальцах
страху што плюецца панікай
гэта я іду
крычу бязголасна «адчыні»
робячы ціхае стук-стук пальцам

адчыняеш
я хутка хаваюся ў кішэню
і цябе няма

гэты сон паўтараецца штоноч



## САМОТА

Як жа ж люблю
я малы свой акраец паветра
уласны небакрай пакоя
адну пару
вачэй рук вушэй
Мая малая ціша гучыць
прыгажэй за любую іншую
Тупат толькі двух ступняў
Мільён думак
Нічога болей
нічога
болей

## * * *

Ну хадзі
я пачуцці табе асвяжу
Ты маеш дваццаць дзве нагоды

Ну хадзі
я маю цела якога ты не кранаў
свежыя вусны

я люблю іх увільгатняць
салодкім забароненым вінoм
добрай вытрымкі

Я муза Набокава
пухкі крохкі
дэман

## ВЕЛЬМІ НЕЭЛЕГАНТНЫ ВЕРШ

Вельмі элегантная дама
у жоўтым малым аўтамабіліку
Вельмі элегантным
Вельмі элегантная дама з вельмі
 неэлегантнай
мордай
Вельмі
Едзе сабе — «брум-брум»
А лістота ляціць
А гады лятуць
Вельмі неэлегантна
Цьфу

*Пераклад з польскай*
*Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА*





Яанна САВІЦКАЯ

***Нарадзілася ў 1993 годзе. Паэтэса і празаік, лаўрэат літаратурных конкурсаў. Любіць «палемізаваць з так званымі класікамі» і шукаць новыя формы для раскрыцця традыцыйных тэм. Галоўнае, што яе вылучае, — «свежасць мовы». І тое, што яе пачуцці, перададзеныя праз радкі, перагукаюцца з пачуццямі чытача.***

# ДРЫЖАННІ — МІГАЦЕННІ — ЗАСТОІ

* * *

Мы зжыліся са смуткам і адзінотай. Нам цяжка, мы бессэнсоўна варушым канчынамі, пакуль жыццё развіроўваецца наўкруг і танчыць. З нашых пачуццяў мы выпякаем кексікі, а пасля аддаем на корм птушкам. Нам цяжка. Процьму часу прысвячаем рэчам, што, як надзённасць, мільгаюць перад вачыма: *упадабаць-не ўпадабаць*? Так пацешна гучыць гэта ў… вушах, у думках, што ты адключаешся. Але ж не. Не цяпер. Жадаеш толькі занурыцца ў цёплыя абдымкі бяспечнасці і заснуць. І вярнуць сабе тое, што жыццю аддаеш штодня.

*30 жніўня 2009*

* * *

*Мажліва*… Мажліва, так. Мажліва, менавіта цяпер павінен прыйсці той, з кім разам атрымаецца сплесці вялікія пярэстыя крылы з тоненькіх шаўковых ніцінак. Відаць, гэта цяжка заўважыць з-пад сцяны вялізнага, нядаўна ўздзетага на сябе замка. Я жыву ў вяліка-невялікай вежы на ўскрайку сусвету і мяне там ніхто не дапаткае. Жыву сабе са сваімі прусакамі ў галаве. І нават не спрабуй іх выцягнуць за вусікі, бо я не дам іх есці палачкамі. Палачкамі есці можна толькі ў Кітаі. А я — гэта толькі я. Такая як ёсць.

Але ўсё ж. Мажліва, менавіта цяпер павінен з’явіцца той, хто дапамог бы параскладаць усё па палічках, загарнуць у стракатыя скрыні. Усю лютасць, болесць, сум і палёгку. А лепш бы нікога не было. Не хапала яшчэ заразіць яго варожасцю… бо заражу.

Але ж я хачу тое зрабіць. Скінуць з сябе цяжар і дачакацца пацалунку ў нос. Хаця не. Каханне — рэч недасканалая, небяспечная і баліць.

Але… усё баліць. І чаму б я не змагла ў такім выпадку праглынуць на колькі штук больш, яшчэ пару тых агіднасцей, што спажываю штодня?

Халерная двухсэнсоўнасць слоў у двузначнай прасторы лопнула. Раздваенне знікла. Свет зрабіўся празрыстым. Знаёмыя, я і паветра. І восень. Мажліва, так. Мажліва, трэба закахацца.

*11 верасня 2009*

* * *

Ахутай маё цела перад наплываючай хваляй халоднага паветра, таго, менавіта таго, што цягнецца да вушэй сваім бессаромным шэптам. Ахутай маю душу, каб не змерзла ад холаду, што прасочваецца скрозь прычыненае аконца, схавай ад навальніцы з крывымі кіпцюрамі, бо гэта так раніць, ахалоджвае сэрца, печань і ныркі. Засцеражы мае вусны ад усяго гэтага, як у песні «*Ноч як ноч*», завядзі мяне на луг і прашапчы словы, што ўзмоцняць сапраўдную немач тых моцаў, якія не існуюць. Не дазволь, каб мае вусны смажыла засуха, каб вочы мае так хутка згаслі і сталіся бледна-жоўтымі, каб яны сталі нагадваць скрыню праклёнаў, расхінутую рукой Пандоры.

І ўрэшце, засцеражы сябе ад мяне, мяне ад сябе, нас ад нас, а свет ад таго, што станецца і таго, што яшчэ не настала, і перад тым, што магло адбыцца, калі б магло быць. ***Але ж мне даўно не было так цудоўна.***

*28 кастрычніка 2009*

* * *

Твая ўсмешка скаланула мяне. Шок. Адразу кожны клопат схаваўся ў небыцці, а блізкія людзі раптам сталі зусім далёкімі. Ступар.

Мне б хацелася тое ведаць, так, толькі скажы, ці гэта ўсяго толькі зачараванасць вуснамі, ці ты праз тое праявіў ініцыятыву на большае? Ад сёння і я буду ўсміхацца.

*14 кастрычніка 2009*

* * *

***Два мільёны нерашучасцей***

Не магу сёння спаць, але ж і ўчора таксама не надта добра спала. Мяне зачароўвае вобраз будучыні, узлажу на дрэва і чакаю. Мне не дае спакою маральнае пахмелле, баліць жывот і слязяцца вочы. Я дрыжу. Кап, кап, кап, дах крывіць, кропелькі разбіваюцца аб донца тазіка. Мяне абуджае нешта падобнае да плоскага эмацыйнага пахмелля. Я хачу. Хаця і не маю дастаткова яснай мяжы, хаця не зрабіла сабе тату на ілбе. Я хачу. Можа, ужо і не маю такой вострай ахвоты, як калісьці, на тое, каб заставацца самотнай сярод некалькіх мільёнаў людзей. У людзей вострае вока, людзі хутка прывязваюцца, я — ліса і вывучаю людзей; я — Прынц, што мае свой уласны



сад з ружамі. Я хачу! Такі просты адказ, такі неабавязкова абавязковы і важны фінт асобы, што спазматычна хоча, але не ведае, ці можа. Але ўсё роўна аптымізм ёсць. Я хачу. Закінуць рукі табе на шыю, толькі тым разам… Менавіта. Тым разам… Хм. Тым разам хачу належыць камусьці. Хачу навучыцца кахаць. Хачу, каб ты мяне навучыў. Можа, гэта захутка? Калі так, то хутка разбяжымся, патусуемся і застанемся сябрамі. Вядома, найважнейшы — час палёту. Вядома, ніхто не патрабуе супер якасці ад гэтага, усяго толькі пачуццяў, якія надбудоўваюцца над галавой у выглядзе сэрцайкаў і мышцы з левага боку, што б'ецца як шалёная (а ў маім выпадку гэта можа скончыцца катастрофай), і тых зверыкаў у жываце. Нехта хоча, людзі хочуць мець як найбольш. Зверыкі — гэта адзнака пачуцця. Каханне? Я сказала ўголас. Каханне? А я ж не веру ў гэта, але Хачу. Два мільёны нерашучасцей і адна вялізная ўпэўненасць. Дзякуй.

*24 кастрычніка 2009*

* * *

Мяне ўразілі бацькавы вочы, што, пазіраючы на мяне, умольвалі пра дапамогу. Маленькай я проста не звяртала ўвагі на такія каляіны лёсу. Упэўненым крокам ішла, маючы за плячыма мізэрны жыццёвы досвед. Сёння я больш далікатная, але, хто ведае, ці гэта не тэмпература, якая жарам дражніць тканкі і ўсыпляе чуйнасць. Шэптам клічу цяпло, далікатнасць і дотык. Я сталася падобнай да ружы, за якой патрэбны належны догляд; адной з тых, што з планеты Маленькага Прынца. Можа, гэта і не найлепшае рашэнне, але так дзеецца само па сабе. Я існую і таму ператвараюся ў нешта вышэйшае за выканаўчы механізм. Магчыма, гэтак пратрываю.

Сёння мяне даладавалі энергіяй. Не будзем доўга разважаць пра гэта, але дзякуючы далёкім мне людзям я стала адчуваць сябе ўтульна. Мае ступні адрываліся ў палёце ад зямлі, я лячу разам з халодным лістападавым паветрам, што нагадвае пра хуткі надыход зімы.

Ненавіджу зіму. Я цёплая і далікатная вясна. Я — восень, непрадказальная і яскравая. Я дакладна магу быць летам, што пяшчотна казыча праменьчыкамі. Ненавіджу зіму.

* * *

Быў момант, калі ён быў толькі маім. Прынамсі, так мне часам здаецца. Выключна для маёй персоны з'яўляўся ў часапрасторы, каб перакінуцца парай слоў. Цяпер няма яго ў маіх планах на дзень, раскладзе руху, і той ладнай камедыіі, што стваралася ў маіх думках. Я раніла, раню і буду раніць, бо я на тое запраграмавана. І нават, забяспечыўшы кветкі на фоне неба на маім балконе, прыгожы краявід за маімі вокнамі ці мілосныя айсбергі побач з маёй канапай, ты не ў стане змяніць майго падыходу.

Пачуваюся так, нібыта ўсе мае раны залатаны стужкай для ўшчыльнення вокнаў. Вядома, гэта засцерагае ад холаду, зімы, калюжын, успамінаў, дажджу.

Ад чаго яшчэ трэба адмовіцца, каб забыцца на цябе?

*26 лістапада 2009*

* * *

Неяк не веру, што яшчэ калісьці давядзецца павуркатаць з кімсьці за кубачкам гарбаты, ці па тэлефоне, на вушка. Мне не хапае, страшная справа, адчування таго, што ты дрыжыш, трымаючы мяне ў абдымках; не ведаю, ці нехта іншы гэтаксама

будзе дрыжэць. Мне не хапае, які жах, упэўненасці, што вось прачнуся заўтра — і ўсё праміне. Паабяцай мне, што такое заўтра настане. Паабяцай, што будзеш намагацца, каб так было. Скажы, што ў мяне на гэта ёсць шанец, што ўсё не зусім безнадзейна. Скажы, што ты знікнеш, не застанешся. Бо мне так цябе не стае.

* * *

Каханне нічога не азначае, бо яно ўсяго толькі подых ветру, што часам пралятае пад нашым носам. Яно пакідае водарны шлейф ванілі, а мы паспяшаем за той саладжавасцю, прыдумляем іншыя прычыны бегчы за гэтым шлейфам, каб хоць на хвіліну, хоць на пяць хвілін забыцца на сваю адзіноту, што нават зусім не ціснe нам з левага боку.

Ад учора да будучыні, ад будучыні ў вечнасць, мы бяжым у пошуках сэнсу; а на фінішы кожнай сцяжыны нас чакае толькі яно — Ягамосць Каханне з поўным корабам ванільнага марозіва. Вырашайце самі — ці пачаставацца.

*20 студзеня 2010*

* * *

*Каханне XXI стагоддзя*. А раптам зноў пашчасціць стаць той адзінай у жыцці кагосьці, бо тужліва. Засумавала па вечаровых ЭСЭмэсках, па доўгіх вечаровых размовах і словах, што прыносілі максімум задавальнення. Дакранаюся да вуснаў, каб праверыць, ці ўжо канец. Бо на іх і цяпер адчуваю твой смак, а на шыі твой подых. У вушах яшчэ чутно словы, перад вачыма прабягаюць напісаныя намі сказы. Сумую па шпацырах, чаканнях, чуласці, а сам-насам са сваімі думкамі, задаю пытанне: ці (не) шукаць далей?

*25 студзеня 2010*

* * *

Не хачу нікога побач, надта вялікі ўва мне сметнік, шмат мела б адказнасці, збыт моцна трымала б у руках. Мяне ж захлёбтвае кожны павеў халоднага ветру, што дзьме ў мае плечы і распускае рукі. Людзі любяць пра мяне пагаманіць, паволі на мне збягаюцца пасмешкі, а я працягваю паўтараць паціху свае надзейныя мантры. Не моцы мне не хапае, а жадання і матывацыі. Па шкале ад аднаго да дзесяці мая энергія складае шэсць. Я ўжо даўно патанула на дне сваіх планаў, сваёй хворай амбіцыі, сваёй унутранай пустэчы. Ты кажаш, што я не пустая, але ты не ведаеш дакладна, — бо толькі я бываю сама з сабою, толькі я адчуваю, што маю пустку там, дзе нешта патэнцыяльна можа быць. Павольна гнію ў сярэдзіне. Ува мне ўжо столькі чарвякоў, столькі небяспечных думак на карку, што нават не кажы, што чыёсьці жыццё я магу трымаць у сваіх руках. Гэта вышэй за мае сілы. А так здараецца, калі я з кімсьці. Не кажы, што ў навале працы, усяго таго, што перажываю і маю, — я магу адчуць хаця б хвіліну, хвіліну таго добрага. Хвіліна, напэўна, станецца электрычным уколам і зусім стаўчэ маю мудрасць. Мудрасць? Мая мудрасць згасла, замест яе толькі нейкі субстракт, але я не ў стане знайсці назву для гэтага чагосьці. Рассмоктваючы сваё «я», рэальна адчуваю пагарду. Не, не, не, не кажы, што я не пустая… ты не жывеш са мной столькі, колькі я сама з сабой. І я ўжо не ў тым узросце, каб верыць, што будзе лепш. Не будзе.

*20 лютага 2010*

***Пераклад з польскай Ірыны ЖУКАВАЙ***



Вераніка ІВАНЮК

***Нарадзілася ў 1981 годзе на Падляшшы. Адукацыю атрымала ў сферах эканомікі і турызму. Некалькі гадоў правяла ў Вялікабрытаніі, пасля вярнулася ў Бяла-Падляску. Паэзія для яе — адзін са шчытоў, асабісты спосаб экзістэнцыі і абароны перад чалавечай няўражлівасцю. У выніку кожны верш — быццам экскурс у філасофію жыцця.***

# ВЫЯВЫ НЕЗРАЗУМЕЛЫХ ПАЧУЦЦЯЎ

**ЯНА. Дзень першы**

XXI стагоддзе, а свет эмацыйна поўзае на карачках.
Падпіраючыся локцем,
робіць першыя крокі
ў пошуку свайго месца.
Я далёка за ім.
Прыніжаюся перад люстэркам, як немаўля,
Захопленае невядомым адбіткам.
Скрыўляю рот,
фарбуючы вусны пігментам і вейкі шчоткай
не вельмі значных памераў.
Больш часу прысвячаю ўдасканаленню
свайго выгляду,
чым незразумелым пачуццям.
Адзінае, што мне вядома, гэта тое, што іх, відаць, шмат.
Сустракаюся з імі кожную раніцу, калі свядомасць
яшчэ ў паўсне.
Вабіць мяне туга па чымсьці,
што далёка адыходзіць ад рэальнасці.
— Ты ёсць. Ты ёсць. Ты ёсць…
— Я ёсць?
Хто я ёсць, калі маё імя вербалізуе толькі жаданне яго пачуць.
— Ты ёсць!
Гэта я агучыла думкі?
Ці нарэшце нешта пачула?
— Ты ёсць, мая Фао!

**ЁН. Дзень першы**

Клічу і клічу, напружваючы слых з надзеяй,
што пачую штосьці,
акрамя рэха падманлівых пытанняў,
якія я задаю сам сабе ў дадатак.
Ведаю, што яна там.
Дзесьці яшчэ хаваецца ад мяне.
Выпрабоўвае мае абяцанні.
Цікава, як яна выглядае?
Ці мае моцныя вусны, якімі не будзе баяцца гаварыць?
У мяне ёсць дастаткова жанчын, якія давяцца беспадстаўным смехам
і шчабечуць нешта пад нос малымі літарамі.
Яна іншая, я ў гэтым перакананы.
Пра гэта сказаў мне сон,
а ён жа яшчэ ніколі не памыляўся.
Пачакаю.

**ЯНА. Дзень другі**

Бязлітасны ранак.

Пасля распранутай ночы — люстэрка, шафа і кава з малаком. Я мушу нарэшце яе неяк апрануць,

Каб прачынацца з большай ахвотай і лепш складзеным планам.

Патрабую, каб мяне прывялі ў рух, патрабую штуршка, кропелькі беспамылковага распазнання, як пашанцуе.

Хтосьці да мяне сёння прамаўляў. Ведаў маё імя.

Хацеў наблізіцца,
але я баялася прызнацца, што чую яго.
Бо што б я рабіла, калі б ён мне спадабаўся?
Калі б змог змясціцца ў гэтым стэрыльна закансерваваным сэрцы і свядомасці.
Пайду з гэтым на шпацыр. Развею гэтую дзікую тугу.
Можа, нейкая думка народзіцца выпадкова,
я, халера, даведаюся, што з гэтым рабіць.

**ЁН. Дзень другі**

Адчуваў яе кожны мой мускул ажно да галавакружэння.
Ці гэта не вар’яцтва?
Нават калі так, то я не змагу яго спыніць.
Цікава, ці любіць яна самотнасць, ці ўмее ёю дзяліцца.
Ці чуе запрашэнне і ці разумее яго.
Ці прыме яго і калі?

Я Савуар і ўжо трохі пажыў.
Быў паэтам, біржавым маклерам, настаўнікам…
Быў у Японіі, Паўночнай Карэі…

Быў з безліччу жанчын…
Але толькі цяпер адчуваю,
што мая дарога перастае балець.
Я ўжо не згублюся.
Пайду да яе і пра ўсё спытаюся.

**ЯНА. Дзень трэці**

Шпацыр быў бескарысны.
Дзьмуў вецер, ліў дождж, а потым з цяжкасцю прыйшоў сон.
Але ён прыйшоў і здзівіў мяне.
Гэта страшна, але я не хацела прачынацца.
Чакала з асцярожнасцю і ўвагай,
якіх мне даўно цяжка пазбыцца.
Чакала той голас з цікавасцю,
ці ён запросіць мяне зноў на размову.
І ён загучаў
так жа прыгожа, як у мінулую ноч.
Быццам я ведала яго заўсёды.
Я звар'яцела!
Адкуль Ён узяўся? Як знайшоў мяне тут?
Я ж схавалася тысячы гадоў таму і сцерла сляды.
Спрабуючы памножыць сілы, як мне зараз здаецца,
для яго з'яўлення.
А можа, вяртання?
Але я ўцякла, як апошні дзікун, ці ідыётка.
Так, ідыятызм усё тлумачыць.
Ён хацеў паглядзець на мяне,
а я схавалася за дрэвам,
якое вырасла хіба толькі для таго, каб за ім хаваліся.
Што тут адбываецца?
Божа, баюся нават падумаць.

**ЁН. Дзень трэці**

Я бачыў кавалак яе начной кашулі.
Яна была белая, як яе скура.
Яна ўцякла, баронячыся і захіляючыся дрэвам.
Якому трэба было расці якраз там.
Я не падыходзіў бліжэй.
Не хацеў яе напалохаць.
Мне падабаецца, што яна такая няўлоўная і непазнаная.
Гэта моцна зачароўвае і шмат значыць.
Яна мае характар, а гэта цяжка ў сённяшні час. Усе кудысьці імчаць, спяшаюцца, імкнучыся да хвілінных захапленняў, якіх потым і не ўспомніць.
Я хацеў бы дакрануцца да яе нутра і накіраваць будучыню
менавіта ў гэтым напрамку.

**ЯНА. Дзень чацвёрты**

Яго не было. Напэўна, падумаў, што я вар'ятка.
Альбо, што ён не прыйшоўся мне да густу,
бо я ж уцякла.
Я не ведаю, што горш. І што мне зараз рабіць?
Гэтая цішыня мяне заб'е, калі я сама ёй раней не дапамагу.
Пра што я ўчора думала, робячы з сябе вар'ятку?
Гэта нейкі жах.
Я нават не спрабую аналізаваць тыя паводзіны,
бо ніводная канструктыўная заўвага не прыйдзе
мне да галавы.
Мушу сабрацца і пачаць паводзіць сябе як жанчына,
а не як баязліўка.
Ён заняў столькі месца ўва мне, а я нават яго не ведаю.
Я гэтага не разумею, і гэта мяне найбольш інтрыгуе.
Апрануся сёння прыгожа і засну з надзеяй, што ён вернецца,
што знойдзе мяне і што я яму спадабаюся.

**ЁН. Дзень чацвёрты**

Не адзавуся сёння ёй і не прыйду.
Гэта заўсёды дзейнічае.

**ЯНА. Дзень пяты**

Я не магу плакаць. Я ж не слабая.
Я столькі змагалася за незалежнасць, самастойнасць
і гэты цяжкі для вызначэння рост
унутранай раўнавагі.
І што?
Ён усё, нібы стрэліўшы ў лоб, знішчыў.
Не магу нідзе падзецца, знайсці сябе.
Усе думкі заняты ім.
Гэта нейкая пачвара або чараўнік,
бо мяне няпроста да сябе схіліць.
Не прыйшоў. Можа, ён робіць гэта спецыяльна?
Можа, хоча да мяне наблізіцца такім банальным чынам?
І што з таго?
Чым мне дапаможа веданне прычыны ці стратэгіі?
Не прыйшоў,
і я адчуваю сябе, нібы неба звалілася мне на галаву,
а я так любіла на яго глядзець…

**ЁН. Дзень пяты**

Гэта цяжка, але я не магу пайсці да яе.
Яна павінна сама знайсці да мяне дарогу.

**ЯНА. Дзень шосты**

Глухі бескарысны сон і параноя па ім цяпер. Сцягнулася з ложка, быццам у пакаранне.
Столькі пустых гадзін перада мной,
бо ўвесь гэты час — толькі чаканне.
Мушу апамятацца
і знайсці дарогу, па якой ён прыйшоў да мяне.
Гэта не можа быць цяжка.

За акном бель.
Зіма малюе сваю прысутнасць, дакранаецца
халодным пальцам, і я не маю нічога супраць.
Я люблю кожную пару года,
а гэтая нясе ў сабе столькі нявіннай пасняховасці.
Гіпнатызуе абмерлым святлом
як амаль згаслая свечка,
цяпло якой я пачынаю адно што ўяўляць сабе.
Разглядаю праз шыбу яе лад.
Засыпалася ёй цалкам да краёчку коўдры.
Савуар, засні са мной.

**ЁН. Дзень шосты**

Прыгажосць Фао не належыць да ўзорных.
У яе няма ані ног ад вушэй, ані поўных вуснаў.
У ёй ёсць нешта маладое,
чароўна недарослае з пэўнай доляй супярэчнасці,
што не змяшчаецца ў ніводным азначэнні…
Яна падманула час.
Мне падабаецца яе востры нос і касцістыя плечы.
Яна выглядае, як скульптура, якая падышла б усюды,
да кожнага стылю.
Яна змяшчае ў сабе такую прастору
зусім ёю не авалодваючы.
Быццам яе стварыў нейкі экзатычны бог…
Вось як я сабе яе ўяўляю.

**ЯНА. Дзень сёмы**

Я бачыла яго, знайшла.
Ён сядзеў, задумаўшыся, у глыбокім крэсле.
Было ўражанне, што ён знікаў у ім,
а можа, гэта ён патанаў у думках?
Я ўглядалася ў ягоны спакойны твар, нерухомы і ўладны. Адчула зайздрасць.

Я па сённяшні дзень не ведала, чаго жадаю.
А ён сядзеў
з такім захапляльным
унутраным прымірэннем.
Адзін у вялізным пакоі,
які напаўняў водар.
Добра пахне.
Так добра, што я заставалася ва ўкрыцці да самога ранку,
баючыся забрудзіць гэты беззаганны водар цішыні. Там заканчваўся стары шлях,
і распачыналася пазнанне.
Вярнуся заўтра, і можа, я адважуся…

**ЁН. Дзень сёмы**

Яна такая, як я і думаў.
Фао! Давай больш не будзем чакаць.

**ЯНА. Дзень восьмы**

Я заблукала сёння ў лесе.
Я была ўпэўнена, што памятаю дарогу.
Мінула свае дубы і крыж на дарозе,
а потым пачула ягоны вокліч.
А мо гэта проста старыя дрэвы
апавядалі сваю старую гісторыю?
Адкуль я магу гэта ведаць?
Я спужалася.
Насамрэч я не ўпэўнена, ці я баялася таго,
што не вярнуся дадому, ці, хутчэй, таго,
што сёння яго не ўбачу.
Мне цяжка патлумачыць свае паводзіны
як на яве, так і ў сне.
Відаць, я перастала адрозніваць адно ад другога.
І якое гэта мае значэнне?
Я ж нарэшце трапіла ў ложак, але і надалей адчуваю сябе жахліва…

**ЁН. Дзень восьмы**

Яна была блізка.
Я ўжо ішоў адчыніць ёй дзверы, калі заўважыў, што яна зноў знікае за дрэвам.
Як толькі пачнецца дзень, я іх усе павысякаю.
Я знішчу кожную перашкоду, што стаіць на нашым шляху.
Няўжо сон — гэта адзінае магчымае спатканне?

Не думаю.
Я ўпэўнены, што існуе спосаб
выйсці па-за сонныя мроі.
Я хачу яе абняць.
Я хачу аддаць ёй свой час і крэсла.

**ЯНА. Дзень дзявяты**

Усё поле зроку — бель.
Гэта снег? Колеры пра мяне забыліся?
Гэта дзень? Ці гэта ноч выдурняецца,
выходзячы з цемры, як дух?
Чаму я не баюся?
Гэта ўсё зусім не маё: гуляць да раніцы, клікаць, шукаць, выходзіць з сябе.
Калі б я хаця б ведала, навошта гэта раблю
і ці варта.
Ужо тыдзень блукаю ў ягоным іншасвеце,
спадзеючыся на спатканне.
А што калі я нарэшце дасягну яго?
Што я яму скажу?
Калі я пра гэта думаю, словы губляюць вартасць.
Раней моцныя і вялікія, сёння яны белыя, як усё астатняе,
а гэта значыць, што іх увогуле няма.
Калі не словам, то чым я яго прывітаю?

**ЁН. Дзень дзявяты**

Я знішчыў некалькі дзясяткаў дубоў
і бярозу перад уваходам на ганак.
Я плакаў, як дзіця.
Яна была маім найлепшым сховішчам.
Яна гайдала мяне, мы размаўлялі, як шчырыя сябры. Маці навучыла мяне пашане да яе.
Яе пасадзіў дзядуля. Гэта быў напамінак пра яго.
Я не адкуплю гэты грэх
нават праз некалькі наступных уцелаўленняў.
Я не змыю гэтай крыві нікчэмным жалем.
Калі яна зараз не прыйдзе, калі паверне назад…

**ЯНА. Дзень дзясяты**

Гадзіннік у пярэднім пакоі заснуў.
Будзільнік у спальні таксама перастаў абводзіць гадзіны. Я заварыла ў імбрыку гарбату з ружаў.

Разглядаю дым, які, быццам Аладзін, зачароўвае пакой. І я разам з ім лунаю, дакранаючыся да сцен і адсутнага часу.

Яго няма, аднак я адчуваю тое, што было і што будзе. Пальцам азначаю краі,
малюю абрысы нашага супольнага: я ёсць.
Ці ён яшчэ чакае мяне?
Ці не надакучыла яму мая нясмеласць?
Ці павінна я гэта праверыць? Відаць, павінна.
Выбару ж ужо даўно няма.
Расчашу валасы.
Апрану сукенку, якая калісьці мела фіялетавае адценне. Фіялетавы дражніўся з гранатавым,
і быццам не могучы вырашыць, каторы з іх прыгажэйшы, яны пайшлі на кампраміс і стварылі ўласную фарбу.
Ці ён пазнае гэты колер?
Ці палюбіць яго?
Ці знікне бель?
Ці ён вызваліць мяне з яе абдымкаў?

**ЁН. Дзень дзясяты**

Я даю ёй апошні шанец.

**ЯНЫ. Дзень адзінаццаты**

Аднак зараз зіма. Цяпер я бачу гэта.
Снег рассцяліўся перада мною, як дыван,
на ім застаюцца сляды ног, каб я магла вярнуцца. Калі я гляджу ўверх, здаецца,
быццам неба абтрапала хмары,
каб маім вачам было прыемна.
Я іду.
Нейкая птушка шчабеча сабе нешта пад дзюбу.
Не паляцела туды, дзе цёпла і прыемна.
Калі б прырода пазбавіла нас такіх вось адхіленняў ад нормы,
мы б не маглі захапляцца жыццём некалькі аброслых тлушчам зімовых месяцаў.
Птушка энергічна спявала ўсю дарогу,
дадаючы мне бадзёрасці. Я ўдзячная ёй за гэта.
Але дзе падзеліся дрэвы?
Раптоўна вырас перада мной знаёмы будынак.
Значна большы за той, які я памятала
з папярэдніх наведванняў. Падміргваў мне адным вокам, падсветленым акном.
Ці ён ужо ўбачыў мяне?
Ці я змагу адвярнуцца і знікнуць?
— Фао, застанься!
Раптам перада мной расчыніліся дзверы.
Яны запрашалі зведаць святыя месцы.

Вабіў шэпт, які прамаўляў маё імя.

Значыць, я існую. Я сапраўды тут і ён тут. Хай усё прападзе па-за гэтым домам і ягоным уладальнікам.

Няхай знікнуць усе схованкі.

Няхай яны нарэшце перастануць спакушаць мяне

магчымасцю адступіць.

Хай ён схопіць мяне за рукаў і не адпусціць.

— Фао, застанься!

Гэты голас здаецца пакутай і ласкай адначасова. Ён пасылае струмень гукаў

Наўпрост у малыя сэрцы вушэй.

Я перакананa, што кожны орган пачуццяў чалавека

кіруецца асобным сэрцам,

якое хоць і не валодае матэрыяльнай формай,

але паціху шле сігналы, каб яго заўважылі і ацанілі.

Савуар гэта ведае.

Ён умела кранае струны, і гэтым прыводзіць мяне да такіх адкрыццяў.

Вытанчанае сэрца, схаванае ў вушах,

перадае інфармацыю далей.

Імгненна

з ім прагне сустрэцца кожны орган пачуццяў.

Выбухае рэвалюцыя.

Шукаюць яго вочы. Шукае яго мой нос.

Што рабіць?

Чаму сціхла мая пакута?

— Застанься, Фао!

Ён прыгожы. Стаіць у дзвярах на адлегласці выцягнутай рукі.

У свабодным цёмным світары, у джынсах

і замшавых тапках.

Здаецца, быццам яго не хвалююць справы,

якія апанавалі сучасны свет.

Здаецца, быццам гэта ён пануе над ім.

— Увойдзеш?

Я апынулася ўнутры.

У ідэальна вызначанай сярэдзіне пакоя стаяла крэсла. У яго быў колер.

Дзякуючы гэтаму назіранню я ўпала ў яго,

не чакаючы дазволу. Савуар глядзеў на мяне. Глядзеў глыбей, чым на знешнюю абалонку.

Маё цела гэта адчувала і рэагавала трымценнем. Нарэшце і я паглядзела. Калі б не наступны сказ,

якім ён мяне абудзіў, я б напэўна страціла прытомнасць.

Вочы Савуара былі чорныя, як вугаль.

У ягоных чорных радужных абалонках губляліся зрэнкі.

Гэтае адкрыццё абудзіла страх.

— Дзе ты, калі цябе няма? — спытаў ён.

Я не магла больш маўчаць.

— Проста я задумалася.

— Пра што ты думаеш, Фао?

— Я думаю, што ты адбіраеш у мяне менавіта тое,
што я найбольш люблю — маю Самотнасць.
А можа, ты хочаш толькі на хвілінку яе пазычыць?

Зморшчаны лоб С. прыносіў палёгку.
Зморшчынка над брывамі
выразна выяўляла засмучэнне.
— Ты любіш бярозы?
— Ты пытаешся пра дрэвы?
— Як фомы жыцця я лічу іх дасканалымі.
Яны мудрыя і могуць слухаць.
Ты лічыш, што я мог бы ператварыць падворак у могілкі
дзеля адзінай размовы? Дзеля адзінай гэтай хвіліны?

**ЯНА**

Мяне апанаваў сон на паўстагоддзя.
Гэта быў прыгожы і спакойны сон.
Сярод бярозавай алеі штогод раслі маргарыткі.
Усё было незалежнае і бесклапотнае.
Часам я прыходжу да высновы, што яно такім і застаецца.

**ЁН**

Калі б мае старыя дрэвы і дзядулеў дом
маглі размаўляць…
Калі б я змог прачытаць іхнюю памяць,
якую з кожнай хвілінай супольнага існавання мы з Фао запісвалі пад іх скурай,
я б знайшоў яе ў чарговы раз.
Штосьці мне падказвае, што гэта калісьці надыдзе.

***Пераклад з польскай Тамары САРАЧЫНСКАЙ***





*Адрыяна ТРЭПЁТА (НЕХВЯДОВІЧ)*

***Нарадзілася ў 1987 годзе. Двойчы лаўрэатка Агульнапольскага літаратурнага конкурсу імя Крашэўскага. У сваіх тэкстах шукае адказы на пытанні пра шляхі і сэнсы, а таксама неабходнасць сувязі з прыродай і ўласным «Я». Робіць гэта рознымі сродкамі, але заўсёды праз пэўную долю асабістага, спавядаючы «канцэпцыю жаночай натуры».***

# ХА...ХА...ХА... КОЖНАЯ З НАС КРЫХУ ЧАРАЎНІЦА!

*Урывак*

Я з’ехала, каб падзарадзіцца энергіяй. Не магу пастаянна жыць у такім шалёным тэмпе. Дзве сукенкі, штаны, кашуля, плашч-палатка… і я ўжо тут, на Падляшшы. Як кожны год, бабуля сустракае мяне прытульнымі абдымкамі, і я заўжды чую ад яе цёплы пах булак ды сметанковага масла. Яна старэнькая, як свет… і такая нямоглая; не хачу нават думаць, што… гэта можа здарыцца заўтра. Яна амаль празрыстая, як вада ў рацэ. Праз яе скуру можна разгледзець кожную жылку з жыццядайнай вадкасцю, кожны другі ўздых напаўняе паветра крэхтам, зморшчыны, нібыта бараздкі векавога дрэва, у залежнасці ад глыбіні пражыванняў, а можа, яны — сляды ад куль?

Калі я прыязджаю сюды, то заўсёды здзяйсняю рытуал свайго духоўнага абуджэння. Заплечнік ляціць у кут і: «*Бабуля, я іду да яра, хутка вярнуся»*. Не важна, ці на вуліцы л’е, ці з неба б’юць агнямёты — я павінна пайсці туды, да майго любага яра. Адразу за хатай Ірыны пачынаюцца палі, некалькі гектараў, а далей малы лясок. Пасярод той зялёна-стромістай некранутасці расце магутны дуб. Яго вялізныя карані паўстаюць з зямлі, і быццам насуперак маці-прыродзе, цягнуцца да Бога. Я сядаю на іх і ўглядаюся ўніз, у прорву. З часам там з’явіўся невялікі кар’ер. Упершыню мяне сюды прывяла сяброўка дзяцінства. Было нам тады гадоў па дванаццаць. Памятаю, я ў яе начавала (яна жыла адразу за хатай бабулі). У вёсцы распалілі вогнішча, таму маці Караліны не ведала, што мы швэндаемся па лесе. Страх падумаць, што было б, каб яна даведалася! А мы цешыліся сяброўствам, адданым і нявінным. Тады ж Караліна, узяўшы мяне за руку, прывяла да таго дуба і сказала: «С*ядзець тут, на тых карэннях, і выглядаць спадаючыя зоркі так таямніча!»* А ўнізе была прорва. Калі я зірнула ўніз, мне спадабалася тое месца, як мне падабалася мая сяброўка, таму я прывязалася да яго ўсім сэрцам. Сёння і не ведаю, дзе Караліна, і што з ёй.

Столькі гадоў мы былі разам. Хапіла аднаго хлопца, аднаго недарэчнага юнацкага выпадку — я тут, а яе няма… Я заўсёды вяртаюся сюды з той думкай, што ў свет дзяцінства няма адваротнага шляху. Няма шляху ў свет, нескажоны першародным грахом, калі твой дзявочы пах належыць выключна табе, а ты прагнеш толькі цеплыні матчыных рук ды баішся, што бацька цябе строга асудзіць. Ужо няма тых чыстых думак, кудысьці знік давер да людзей, бо давялося перажыць здраду, і позірк бяжыць па-за хатнія сцены, размовы святых — ужо не ў маёй галаве, вечнае жыццё — у маёй дачушцы. Амінь.

Спачатку я праходжу праз залатое калоссе, што прыгожа рассеялася па палях. Яго косы далікатна расплятае вецер, вакол пахне сенам і сонцам; хутка жніво, у паветры лётае пах пылу і спацелых целаў. Басанож іду грунтавой дарогай і, ступаючы на гарачыя каменьчыкі, адчуваю ад іх боль у ступачках. Я наўмысна зняла красоўкі, дзе-нідзе бачны зялёны бутэлечны друз, але я яго не абыходжу. Гэта будзе маё пакаянне за ўвесь грэшны год! Здавалася б, шкло павінна раніць, але, на дзіва, не так моцна як словы, што выгаворваюцца ў гневе каханаму чалавеку. Бацькоўская любоў складаецца з чырвані, каханне да мужчыны мае пурпуровы колер. Каралеўскі пурпур, прашыты чорнымі ніткамі здрады.

Сонца да прыемнай смагі спякае вусны, а ногі на гэтым этапе ўжо моцна брудныя. Аднак я іду і праз гэтыя пакуты адчуваю павольнае разграшэнне. У край дзяцінства няма адваротнага шляху… думаю сабе і іду далей. Слёзы аж ціснуць на вочы, аднак асалоду, што я адчуваю падчас гэтага кароткага штогадовага крыжовага ходу, можна параўнаць са смакам першага пацалунку, што здарыўся ў вясновы юнацкі час. Маё сённяшнее жыццё з'яўляецца цудам, і думкі — гэта цуд, хвіліны адпачынку — палёгка для спрацаванага розуму. Дык чаму я нястомна вяртаюся ў тую вандроўку з дзяцінства? Так, іду сабе і думаю, што толькі на цяперашнім этапе спазнання жыцця можна ўсвядоміць сэнс *Даліны Ісы* Мілаша. Мне 24-ы, адносна невялікі жыццёвы досвед — нарастае быццам горб на спіне, мая прафесія — філолаг-паланіст, і як, халера, растлумачыць Чэслава Мілаша пятнаццацігадовым падлеткам? Сама я чытала яго рана. Але менавіта цяпер, дакладна ў гэты момант, на гэтай пясчанай сцяжыне зразумела яго. Патрэбна рэформа школьнай адукацыі, і шмат хто даўно гэта заўважыў. А Гамбровіч і *Фердыдурке*? У свой час я адна з класа ўцяміла сэнс гэтага твора. Калі я чытала, то плакала, бо гэта ж пра мяне! Відаць таму і стала філолагам. *Зашмат думаю і бяру да сэрца* — словы з песні блукаюць у галаве. І на той аптымістычнай ноце я дайшла да месца духоўнага абуджэння. Нацягваю красоўкі, бо хопіць гэтай пакуты, час на забыццё. Самакрутак, забруджаныя ступні, мой задок займае месца для абраных, на найвялікшым карчы — з заглыбленнем у форме фатэля. Я сядаю, запальваю цыгарэту і назіраю. Усё выглядае гэтаксама, як дванаццаць гадоў таму, толькі бруду навокал назбіралася. Відавочна, не толькі я сюды прыходжу. Мне хочацца думаць і я не магу… у грудзях нешта сціскаецца. Калі я ішла сюды, было так добра, я скінула грахоўны груз, бачыла золата ў валасах, кроў на ступнях, дзе трэба быў фігавы лісток, ды пахла шумам дрэў.



Так, пахла шумам! Шум дрэў пахне зменай надвор'я, а цяпер, калі ў вушах пагалоскі мінулых гадоў і шоргат сучаснасці, у галаве віруюць вобразы. А я чамусьці разважаю, ці з'есці на абед макароны, ці варэнікі з чарніцамі? Штосьці не спрацоўвае? Я збіралася вяртацца думкамі ў гэтае месца, цяпер, у гэты момант, на гэтым карчы, на гэтай зямлі. А «вяртанне» здарылася на шляху… можа, так і павінна быць? Хачу павярнуць, як спяваў Рыдаль … *экіпаж часу, гэта быў бы цуд*… аднак я раскрываюся і ачышчаюся толькі калі іду, а як прыходжу сюды, то нічога не дзеецца. Мяне пакідае гэты стан, я не пішу залатой ніткай, не спяваю срэбранай слязінай, не размаўляю бронзай пустыні. Пайду дамоў. Калі тут я нічога не адчуваю, то лепш несупынна ісці. Бабуля чакае на абед.

Мне баляць ногі. І навошта толькі я здымала красоўкі? Маўляў, я ўся такая натхнёная! Дурніца, і нічога іншага! Праехала амаль 200 кіламетраў на аўтобусе з Варшавы, імкнулася сюды — *да каляровых ніў, дзе жыта серабрыцца, і залачоная калышацца пшаніца* … і замест таго, каб пайсці адаспацца ў бабуліных пенатах, я, як заўсёды, знайшла сабе клопат. Але ж калі я ўжо тут, то можна пайсці іншай сцежкай. Гэтая, як для разграшэння, пачынае ўжо надакучваць. Таму, пайду ў бок Копісевай гаспадаркі — даўно тым шляхам не хадзіла. Увосень там заўсёды гразка, нават мае надзейныя красоўкі прамакаюць. Цяпер там суха, ды і трохі скарачу дарогу.

Каплічка пры дарозе, прыгажэйшая за золата касцёлаў, аднак я не прыстойваю пры ёй. Штосьці змянілася, я ўжо не тая, як калісьці. Калісьці я бязмежна верыла ў пераможных слаўных апосталаў і аповеды пра тое, як перад хадакамі расступаецца мора. Пазней пачаліся пытанні, на якія бацькі не ведалі адказаў. А пасля з'явіўся сумнеў, што ёсць жыццё на нябёсах. Аднак штосьці цягне мяне і легіёны лятучых метэораў у сферу трансцэндэнтальнага.

Ізноў ува мне з'явіліся думкі. Што гэта? Там? У густым лесе? Што гэта? Нейкая старая паветка? Цямнее. Я пайшла б паглядзець ды няма сілы. І зноў у вушах напеў: *не глядзі назад, плыві, хлопча… Цёмна, людзі…глуха, людзі… штосьці будзе… штосьці будзе*. Вечаровыя росы ўжо затапілі лес. Не, не пайду туды. Мае красоўкі не надта прыдатныя для такіх вільготных паходаў. І зноў той напеў: *...такая хвіліна здараецца раз на сто год…* Ідзі ж туды, ты тут і цяпер, паддайся і не змагайся. Змагацца будзеш пазней. Пераступаю праз даўгі равок, на дне якога заўсёды ў працы бегаюць мурашы. Мая ступня ўгразае ў зямлю. Несвядома правай нагой я страсаю нейкі агрызак. Лісце папараці дакранаецца да майго твару, блытае мне валасы. Я адкідваю цёмную пасмачку за плячо, левая рука драпае скроню. Іду далей, занураюся ў ліловыя зарасці верасу, і зноў ува мне віруе вызначаны музыкай рытм жыцця: *Са мной ты знойдзеш сховішча на боскім верасовішчы… са мной ты зікнеш у святлістай далі... Эх, Стахура, Стахура, ты на нябёсах, а наш свет — пануры.* Столькі напеваў у маёй галаве, ды ўсе яны не мае; аднак, глядзі ж ты, прычыніліся яны да фармавання розных індывідаў. Пра гэта казаў Міхаіл Бахцін. Спадару Міхаіл, я вашая фанатка, асабліва цаню Вашую філасофію жыцця. Кожны чалавек складаецца з падказак і шэптаў іншых людзей, кожны з нас нагадвае палімпсэст. Любая больш глыбокая размова, што дасягае радовішчаў нашай свядомасці, раскрывае карты нашага жыцця.

Мінаю яшчэ адну палянку пасярод гаю з бялюткімі ландышамі і спыняюся на думцы: — адкуль тут гэтыя кветкі? Бо яны ж квітнеюць увесну, а не спякотным летам? І раптам чую бурчанне. На напеў лесу гэта не падобна. О, гэта нейкі дзіўны гартанны буркат. Дакладна, гэта прамаўляе чалавек. Відаць, буркат даносіцца з той паветкі. Я нават не заўважыла, як сцямнела. Ці баюся я? Не. Я ўжо застарая на гвалты ў лесе…ха … ха … ха. Іду далей, бо ў гэтых мясцінах усе адно аднаго ведаюць.

Падыходжу бліжэй. Бачу старую паветку, што парасла імхом, а дзіўны голас становіцца больш выразным. Бурчанне перайшло ў маналог. Хачу яшчэ падысці, але ногі не ідуць. Праз лісце даплывае чыясьці незадаволенасць:

*Ай ты ж, ай, ай! Зноў не атрымалася, не атрымалася! Дзе ж падзеўся той чортавы паяльнік! Толькі ён можа разагрэць смалу да шалёнай чырвані! Дзе тая смала! Хутка вочы адсохнуць і скончыцца забава. Ай!*

Здаецца, я рэальна пачынаю баяцца. Лёгкія дрыжыкі бягуць па скуры. Адчуваю вільгаць у сціснутых далонях. Падыду бліжэй, толькі шшш… Што там адбываецца?

*Трохі засушанай крапівы, ах, і добра ж яна засушылася! Лісце папараці прыкладу да раны. Трэба тую дзірку заляпіць. Даражэнькая, не да твару табе з той дзіркай. Цалкам ты ў мяне гожанькая атрымалася, але дзірка тут не патрэбна. Яшчэ трохі растопленага акрылу ўлію ў вусны — так, ты не павінна нічога казаць, будзеш сумная да канца свету. Каб толькі мне ніхто не перашкаджаў! Месяц на небе зноў мне спрыяе, адчуваю наплыў цёмнай энергіі. Мае рукі нібыта не мае, гэта не я іх уладарыня — яны мною кіруюць! Божачкі ж мае! Дзеля такіх хвілін варта жыць!*

Ад пачутых слоў у мяне ажно ў галаве памуцілася. Раней мяне пужала толькі хуткаплыннасць жыцця. А тут я, напраўду, баюся! Аднак магнітызм гэтай прасторы не прамінуў. Што там адбываецца? Хто гэта? Хто гэта такі? Забойца, тут, у гэтай вёсцы? Не, больш падобна да чараўніцы! Але тут, у гэтай вёсцы, на гэтай планеце? Такога ўжо не бывае! Так здараецца толькі ў казцы. Цішыня… Я рушу далей. Рукой прыгладжваю старую драўніну. Ай… стрэмка! Увайшла лёгка і неспадзеўна, амаль як расчараванне маладосцю.

*Мне патрэбна кіло спелых вялікіх пладоў шыпшыны ды нечага 40-градуснага, ды літр ліпавага мядку, дзве шклянкі вады, 6 гваздзічын, сухое квецце рамонку, мята. Якая ж яна прыгожая, дасканалая! Цяпер, даражэнькая, адпачывай. Заўтра на цябе спадзе каса святла, сёння цябе чакае падарожжа праз Млечны Шлях. Досыць, пайду я, валюся з ног. Усю энергію ты з мяне высмактала. Люцык, хадзем. Дзе гэты кот? Заўсёды кудысьці знікае…*

Шукаю якую-небудзь шчыліну ў плоце. Павекі зліпаюцца, я баюся, уцякаю, бягу з усіх ног! Ногі правальваюцца ў лясную поросль, загразае абутак, а я бягу… хутчэй… ды хутчэй. Баліць галава, зноў пачуваю сябе, нібыта загнаны конь! Дабіць яго! Дабіць і не глядзець яму ў вочы! Ізноў чую голас знутры — не, не, не праводзь мяне! Навязлівыя словы! Боязь, адыдзіся, не чапай мяне! Злазь з майго плечука! Жах угрызаецца ў маю шыю, адчуваю, як яго кіпцюры раздзіраюць мокрую ад поту скуру. Адыдзіся! Прэч! Кідаюся ў бакі пасярод лесу, як дзікая, збягаю з месца падзей; ужо зусім цёмна, а я лячу праз гушчар! Халодны пот праступіў на твары. Адыдзіся!!! У маёй душы апошні крык!

Бабуля стаіць на парозе з мядзвежым часнаком, малаком ды мёдам:

*Б'ешся, даражэнькая, з жыццём, на вось папі і засні. Заўтра ўмыешся, а Леля і Палеля паўсюль можна стрэць. Вялікім горадам не заб'еш прывідаў. Спі, засні, дзетка.*

***Пераклад з польскай Ірыны ЖУКАВАЙ***

***Твор цалкам знойдзеце на сайце часопіса WWW.MALADOST.LIM.BY. Поўная версія***

# БЭЗ ПАХНЕ ЗОРАМІ

## *Марта СВІЦЬ*

* * *

Бель чыстая як сляза
      Прыгожа апранула мой свет
У наймаднейшы ўзор
Найпрыгажэйшыя кайданы
Скіну калі знікне бель

* * *

Абудзілася
Пачуццё чалавечнасці
Сышла немач
Я вельмі патрэбнае
Крэсіва для дзеяння

* * *

Ты хацеў быць блізка
Абараніць мяне ад страху
Я ўцякла моўчкі
Не хацела зачыненых дзвярэй
Вольнасць не хоча тваіх абдымкаў

## *Кшыштаф ПАГАЖЭЛЬСКІ*

**ПАЭТУ З МАЛОГА ГАРАДКА**

не размаўляй пра паэзію
у кампаніі

сядзі ціха
пі сваё піва

усміхайся шырока
глынай глыбока

заўтра будзе табе балець
толькі галава

**ПАЭТЫ**

ходзяць звычайна паміж
людзей
і пад капелюшамі
не носяць трусікаў

ногі што адрываюцца ад зямлі
гэта толькі аптычны падман
а жываты
як правіла запоўнены
трывіяльнай ежай

толькі часам
з іх вуснаў выслізне
нейкая абракадабра
альбо іншыя *ночы-вочы*

толькі часам
зачараванай асадкай
яны адчыняюць папяровыя брамы
блакіту іншых светаў

* * *

калі я пішу
папяровыя лодачкі слоў
пускаю ў касмічную
прастрору

часам адна з іх недзе заплача
няўклюда
і трапіць у кішэню твайго палітона
выпадкова

калі я хачу выказаць найважнейшае
старонка пустая
не кажа нічога
толькі глядзіць у твае вочы

## Міраслаў ХАДЫНІЦКІ

* * *

а калі смутна то
Kyrie eleison
і вечаровая балбатня салаўя

бэз пахне зорамі

у такі вечар
толькі ісці

у перспектыву вуліцы
умаляваныя хмары горы
белыя
пад плотам вершы
квітнеюць чорна-шэра-залатыя

я іх сарву
складу букет
каб табе яны пахлі сном
і казкай

* * *

і стала ціха і цёпла
пастой яшчэ так у акне

а я з пэндзлем і мальбертамі
і месяц з ліхтаром

тон карціны будзе блакітны
на тры чвэрці

мы затанчым
на рынкавым пляцы
зачараваную ноч

## Дамінік СОБАЛЬ

**HOMO SAPIENS SAPIENS**

чалавек разумны
гэта гучыць горда

выраз гэты страчвае сэнс
калі мы ўчыняем памылку

абразу
прыніжэнне
пагарду

**ДЗЁННІК СНОЎ**
***(нататкі з мінулага тыдня)***

Панядзелак — Яна і Я
Аўторак — Я і Яна
Серада — Мы
Чацвер — Пра нас
Пятніца — Разам
Субота — Супольна
Нядзеля — Адзін





у маім выпадку
толькі нядзельныя сны
маюць адлюстраванне наяве

самота не адступае

## *Хелена РАМАШЭЎСКАЯ*

### ЧАС

кожную хвілю
старанна адмервае
гадзіннік
б’е няспынна
у скронь

### ШЧАСЦЕ

маё шчасце
кружляе па арбіце
часам заўважаю яго па баках
але як схапіць яго?
не паспяваю
нават падскокваючы

## *Рышард КАРНАЦКІ*

### ЦЯЖКА ПРАЧНУЦЦА

Скажам шчыра
сон не можа ціснуць
як набітая падушка.
Зрэшты ён мае ў сабе
рэанімацыйныя мажлівасці як лекар
які прыехаў да пацыента
абсалютна цвярозы.

Таму лепей бачыць сны
у цвярозым стане

Толькі тады
цяжка прачнуцца.

## *Анна КАРУЛЬЧЫК*

* * *

часам ты не задумваешся
куды падзелася
твая Анна?
я ўвесь час думаю пра гэта
нават часамі шукаю яе
ў кроплі што звісла
на недазакручаным кране
і ў фільме быццам бы
з нашага вяселля

ведаеш…
толькі цяпер я бачу
як па-сапраўднаму ты ўсміхаўся

і як па-сапраўднаму я тады існавала

***Пераклад з польскай***
***Арцёма КАВАЛЕЎСКАГА***

## З ЛІСТА Ў РЭДАКЦЫЮ

***З польскім пісьменнікам, рэдактарам часопіса «Люблін. Культура і грамадства» Збігневам Фрончкам я пазнаёміўся некалькі год таму ва ўкраінскім Луцку падчас двухдзённай сустрэчы ўкраінскіх, берасцейскіх ды польскіх літаратараў. Пасябравалі. Спачатку нас зблізілі сумесныя чытанні твораў на мове арыгіналаў. Мы добра разумелі адно аднаго. Увечары, пасля фуршэту, мы сабраліся ў ягоным гасцінічным пакоі, спявалі народныя песні, а калі пан Збігнеў разам з сябрам і калегам Войцэхам Песткай, з якім таксама пабраталіся, падхапілі песню Віктара Шалкевіча «Калі на захадзе заблiскаюць зарніцы…», якой я вырашыў іх здзівіць, дайшло і да абдымкаў. Вынікам той сустрэчы сталася публікацыя ўрыўка з маёй прозы ў згаданым вышэй часопісе ў перакладзе на польскую Агнешкі Баравец. Часопіс прывёз і ўручыў мне сам пан Збігнеў на свяце беларускага пісьменства ў Смаргоні. Да гэтага яны пабывалі на аналагічным свяце ў Барысаве. Дарэчы, тыя запрашэнні таксама сталіся вынікам сустрэчы ў Луцку. Творы польскага калегі мне дужа спадабаліся, а вось перакласці іх як след не здолеў. Гэта вельмі ўдала зрабіў Павел Ляхновіч з Пінска, за што яму нізкі паклон. Прапаную пераклады спадара Паўла шаноўнай «Маладосці» з вялікім спадзевам, што з імі здолеюць пазнаёміцца шматлікія чытачы і што сяброўства сучасных польскай і беларускай літаратур будзе мацавацца ды шырыцца.***

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

*Збігнеў-Влодзімеж*
*ФРОНЧАК*

# ЦІ МАГЧЫМА ГЭТА?

## ЦЁЦЯ МАНЯ ЛЯЦІЦЬ У АМЕРЫКУ

Трымае ў руцэ квіток і візу ў Амерыку. У Чыкага чакае сын Кшыштаф, нявестка і ўнукі. І праца. Будзе прыбіраць, гатаваць, даглядаць садочак.

На аэрадроме побач дочкі са сваімі мужамі. Пазірае над нашымі галовамі. Можа, бачыць вёску, сваю Домбе, хату, падпёртую каламі, і развалены плот. Там прайшлі яе вёсны і восені, леты і зімы. Міналі пасяўныя і дажынкі. Штогод вагон буракоў і бульбы. Адна. Дзядзька рана спачыў на цвінтары.

Здолела перажыць, вытрываць. Адкарміць парася, выгадаваць ката і сабаку. Набыць для дзяцей абутак, сшыткі, часам кніжкі. Заўжды здаровая. Была раз у шпіталі, дык ад тугі памерла сучка Сойка. Ці ад чагосьці іншага? Невядома. Папраўляе сівыя валасы. Ужо 65 гадоў. А жыццё толькі пачынаецца.

## МАНАХ. ПТАХ ЦІ АНЁЛ?

Увесну паехаў у Падую да святога Антонія. Мне паказалі ягоныя хабіт і косці. Не хацеў верыць, што яго няма. Гэта ж апякун няўважлівых, які ўжо семсот гадоў падкідвае людзям згубленыя рэчы.

З велічэзнага падуанскага храма я выйшаў на маленькі дзядзінец. Пах магноліі запоўніў яго. Куст, а дакладней, цалкам ужо сфармаванае дрэўца, абсыпанае белаfunctionsружовым квеценем. З хвіліну цешыўся незямным водарам. Грэшна падумалася: так

павінен пахнуць анёлак пасля купання. І раптам... Высока, за тры метры над зямлёй небяспечна выгнутыя галіны. І там, быццам птушка, учапіўшыся за вяршынку, сядзеў манах. Сядзеў, але хацеў спусціцца. І не мог. Немалады ўжо, нават стары, страшэнна перапалоханы. Заўважыў мяне і пачаў крычаць. Я ведаў восем, можа, пятнаццаць італійскіх слоў, але ніводнага знаёмага не пачуў. Здагадаўся толькі, што ён просіць дапамогі. А я быў адзін, і не мог яго ратаваць.

— Божа! — узмаліўся я, — зрабі яго птушкай.

І мне здалося, што ён каркнуў.

— Можа, у цябе вырастуць крылы! — з надзеяй усклікнуў я. — Вытрывай яшчэ хвілінку. Пацярпі трохі!

Манах няўцямна глядзеў на мяне, і я адчуў сябе ніякавата. А раптам ён пакрыецца пер’ем? Не, быць сведкам цуду мне не па сілах. Я кінуўся ў цёмны калідор кляштара. Трэба было нешта рабіць. Залемантаваў: драбіна, драбіна, дайце драбіну!

Дзіўным рэхам загучалі польскія словы ў цёмным і таямнічым італійскім інтэр’еры. Але да кагосьці даляцелі. Высунулася лысая галава манаха.

— Ваш Шымон Драўнянік хоча яшчэ раз ступіць на зямлю! — закрычаў я.

Мяне не разумелі. Манах бездапаможна развёў рукамі.

— Божа, — прашаптаў я. — Здымі з гэтай Бабілонскай вежы!

Жэстамі паказаў, што трэба драбіна. Маю пантаміму той не зразумеў. Не дзіва. Акцёр я кепскі. Расчараваны, вярнуўся пад квітнеючае дрэўца.

На бруку стары манах абтрасаў ад пылу ўбранства. Пазнаў мяне.

— Бачыш, сынку, што тут робіцца! — казалі ягоныя вочы.

— Зляцеў?

— А як было інакш?

На яго стаптаныя сандалі вецер кінуў пёрка з птушыных, а мо анёльскіх крылаў.

## ЛУСТА ХЛЕБА

Раней за многіх пасяліўся ў вёсцы Ясёны чорцік Кічка. З хвастом, рагамі і незвычайнай сілай. Мог, шэльма, кола млынарскае круціць. Сваволіць любіў. Быдла напалохае, загоніць у балота ці лужыну, вандроўнікам шлях зблытае. Дзяўчатам у абутак крапівы напхае. Але Кічку можна было прагнаць — пырснуць свянцонай вадой ці знак святога крыжа зрабіць.

Працаваў неяк на полі бедны вясковец. Надрываўся са світанку з матыкай, бо не меў каня, бядак. На мяжы паклаў загорнутую ў ільняную хустку лусту хлеба. З хмызоў за чалавекам чорт назіраў, і выгледзеў на мяжы сняданак. Падкраўся, схапіў, а як скібу ўпісаў, зарагатаў задаволена. А селянін, што хлеба пазбавіўся, заплакаў. Звычайна, па-чалавечы. Плакаў, бо забраў з дому апошнюю лусту. Мог дзецям пакінуць, але забраў, каб сілы падтрымаць — працаваць жа ўвесь дзень. А яе чорт з’еў. Кічка ад радасці ажно сабе па кумпяках заляскаў. І тут з’явіўся адзін з паслугачоў самога Вельзэвула, гаспадара пекла. Невядома, ці яго чалавечы плач узрушыў, ці смех таварыша. Паглядзеў і зразумеў, што адбылося.

— За свой непрыстойны ўчынак, — вылаяў Кічку паслугач, — будзеш працаваць у таго бедака. Канём! І датуль, пакуль ён не набудзе якую кабылу!

І нікуды не дзенешся.

Працаваў Кічка нястомна. Раздвойваўся і растройваўся. Араў, сеяў, касіў, збіраў. А як ужо вясковец сабраў грошай і набыў спраўнага коніка, пакінуў Кічка вёску. Ад сораму. Чэрці таксама свой гонар маюць. Пасяліўся побач, у трыснягах ля возера. У адзіноце. Па суседстве з дзікімі качкамі, маўклівымі рыбамі і ракамі.

Гадоў сто пяцьдзясят, а мо дзвесце пазней ехаў роварам праз Ясёны Стах Капэрак. На багажніку прыціснуў спружынай бохан хлеба. Набыў дзецям, бо як кабета спачыла на могілках, сам гадаваў чатырох дашкольнікаў. Не даехаў да дому, як з хаты Тадзіка Клоса, таксама ўдаўца, пачуў узбуджаныя мужчынскія галасы.

— П'юць! — адразу скеміў Стах Капэрак. — Пэўна, яблыкі прадаў. Сапраўды, Тадзік ранкам нарваў тры скрынкі садавіны са сваёй адзінай у садочку антонаўкі. Хапіла на паўлітра чыстай гарэлкі і пляшку самага таннага віна.

Пакінуў ля плота ровар, хуценька пераскочыў чатыры спарахнелыя прыступкі, парог расчыненай насцеж хаты — лічыў, што яму тут не адмовяць. І гэтым разам не памыліўся.

Шум п'янкі завабіў яшчэ і Зыгмунта Дуду. Стаяў ён пад плотам у горычы: хацелася далучыцца да кампаніі, цягнула, але ведаў, што келіх не паднясуць. Бо сам ён, хоць і аматар выпіць, нікога ніколі гарэлачкай не ўганараваў.

Стаяў так, ажно пакуль не ўгледзеў ровар з боханам на багажніку. Выпіць не выпадала, але хлеба паспытаць мог. Той быў на адлегласці працягнутай рукі. Дастаў, палову з'еў, палову кінуў сабакам.

Ніхто не бачыў, як Дуда ламаў хлеб, запіхваў яго сабе ў рот, а потым карміў сабак. Заўважыў толькі паслугач Вельзэвула, бо гэты са сваёй пякельнай місіяй няспынна шнарыць па зямлі.

— Будзеш смажыцца ў пекле! О то ж я паклапачуся! — шалёна завыў нячысцік.

Дуда пра чортава рашэнне нічога не ведаў, таму не хваляваўся. Зрэшты, ані ў пекла, ані ў байкі не верыў.

Пякельны вястун пайшоў далей і ўбачыў Кічку. Сядзеў той пад вярбой і грэў старыя косці. Чэрці хоць і не паміраюць, але старэюць. Так бабуля казала. Адкуль гэтыя веды чэрпала — невядома, але кабета была разумная.

«Заплаціў за свой учынак стагадовымі пакутамі, — падумаў ён. — Гэта ж трэба было? Ні пеклу ніякай радасці, ні людзям ніякай навукі».

На імгненне шкада зрабілася яму пякельнага таварыша. Але што Кічцы да спачуванняў, хай сабе нават і ад такога саноўніка? Ведаў гэта прыслужнік, таму прыспешыў крокі, каб Кічка не ўгледзеў.

А праз хвіліну ішоў Зыгмунт Дуда. На сажалку. З кашом, уюноў лавіць. Убачыў, што пад вярбою чорцік спіць.

— А што гэта за страшыдла? — спытаўся сам у сябе і нахіліўся за каменем. Шпурнуў і трапіў чорту ў вуха...

Заскавытаў Кічка ад болю. От жа бедны чорт.

## ЯК БУСЕЛ ВУЧЫЎ ЗАЙЦА ЛЁТАЦЬ

На небе вісеў месяц. Жоўты, круглы, быццам крыху пузаты, таму цяжкаваты і інакшы, чым звычайна. Быццам бы бліжэйшы да зямлі. Так здавалася Эдку Мазуру. Мала таго. Ён уяўляў, што, як выедзе на ўзгорак, то дастане да яго пугай! І Эдак, калі ўз'ехаў на вяршыню, моцна размахнуўся.

Каля яго сядзеў поўны пыхі солтыс Ян Бонк. Глядзеў з сярдзітым шкадаваннем, і, відаць, думаў, што Эдак дае шмат падстаў для высмейвання жыхароў Ксенжых Гурак. Жартаўнікі сцвярджалі, што вароны над Ксенжымі Гуркамі, калі не хочуць бачыць невуцтва, павінны лётаць дагары нагамі. Солтыс ведаў гэтыя жартачкі і злаваўся. Гэта ён яшчэ не ведаў, што на ягонай тэрыторыі бусел вырашыў навучыць лётаць зайца. Чаму зайца — таго ніхто не ведае. Каб лётаць трэба было солтысу, то, несумненна, ведалі б усе.

Ну, дык тут Бусел нeяк казаў Зайцу:
— О, каб ты мог лётаць, было б на што паглядзець.
— Някепска было б, але гэта нешта нерэальнае... — зусім не засмучана запярэчыў Заяц. Ён не падзяляў буслінага зачаравання палётам.
— А хацеў бы? Прызнайся шчыра! — налягаў Бусел.
— Можа, і хацеў бы, але як?
— Я скажу як. Лезь на дах, — закамандаваў Бусел.
— Цяпер не магу. Выпіў замнога, — выкручваўся Заяц.
І тады Бусел падумаў, што не проста дасягнуць сваёй мэты.
Добра мець мэту.
Жыць бяз мэты цяжка. Але і дасягнуць яе нялёгка. Трэба шмат намаганняў, часам нават гадоў самаахвярнасці. Так кажуць.
Цяжка не паверыць. Можа, таму некаторыя, перш чым закасаць рукавы, разважаюць, падлічваюць, думаюць — ці варта яно працы.
Якую мэту дасягнуць лёгка? Пытанне...
Хто адкажа на яго і развее сумневы? Колькі гадоў будаваў Ной каўчэг? Доўга? Колькі гадоў выскладваліся кітайскі мур, Бабілонская вежа, варшаўскі Дом Селяніна? Як доўга дабіваўся ў свой час солтыс ордэра на «Фіат»?
Што мог ведаць пра гэта Бусел?
Эдак паганяў каня.
Над ім зорнае неба, пад ім асфальтаваны гасцінец. Сноп іскраў з коміна. Можа, асядуць на небасхіле, і зор стане болей.
Вось стары дом. У ім ніхто не жыве. Хто ж тады паліць старую печ? Старую печ чорт паліць.
Конь панёс, Эдак чорту пугі даў. Звычайныя справы.
Вёска ўжо блізка. Злева лугавіна, справа солтысава поле канюшыны. У канюшыне заўважылі самалёт. Блішчэў, як бляшаны дах на гумне. Калі з вёскі выязджалі, яго там не было. З неба ўпаў, вядома. Такое не кожны дзень здараецца. Падышлі. Укленчылі перад ім, намачылі калошы вячэрняй расою.
«Бусел» — прачытаў солтыс надпіс на фюзеляжы. Калі б тут размясціўся харцэрскі табар, солтыс ведаў бы, як з імі гутарыць. А гэты тырчэў нерухома, і хоць нёс ганаровую назву, мёртвы быў і бяздушны.
Яго нават пугай перацягнуць не выпадала.
Солтыс вылаяўся і помсліва наступіў на крыло.
І паўтарыў: «Бусел».
— Хе-хе, бусел, — радасна зарагатаў Эдак. — Бусел, а як заяц — у канюшыне.
Узлезлі на воз.
Солтыс плюнуў:
— Аэрадром сабе прыдбаў.
— Добра, што на полі, бо мог і на даху, — разважаў Эдак.
Солтыс да сябе такіх думак не дапускаў.
— Я яго навучу!
— Запозна, — хіхікнуў Эдак.
— Вучыць ніколі не позна, — расхадзіўся солтыс. — Запамятай гэта. Запамятай настаўніка!
Адчуў у сабе пакліканне, патрэбу вучыць працавітасці, парадку, павазе. Устаў. Падняў рукі. Як святар на амбоне. Як Хрыстос у чаўне. Вочы разгарэліся. Воз ехаў. Месяц свяціў. Эдак угледаўся ў солтыса. Са здзіўленнем. Набожна. Як на прапаведніка. Як на прарока. Падумаў, што солтыс мог бы навучыць нават зайца лётаць, але агучыць думку не адважыўся.

Распаленая фантазія. Раскілзанае ўяўленне.
Жах.
У сэрцы — агонь, у горле — як пасля шклянкі спірту.
— Ці магчыма гэта? — выпытваў Заяц.
— Заяўляць, што магчыма, то не. Але цябе пакінуць у спакоі і кухарка, і тым больш паляўнічы. Іначай я б цябе ніколі не намаўляў.
— А чаму ты так у гэтым зацікаўлены? — не ўступаў Заяц.
— Нідзе не напісана, што зайцы не могуць лётаць. Праўда, не выключана, што ў цябе антыталент да палёту...
— Антыталент? — спахмурнеў Заяц.
— Ты зразумей, — працягваў Бусел. — Я магу табе дапамагчы. Ніхто не супраць, каб зайцы лёталі. Ніхто іх адмыслова не пераследуе, не тушыць як вашых пабрацімаў трусоў. Маеце зашмат свабоды, якая, аднак, з кожным годам скарачаецца, бо арэал культурнай глебы таксама змяншаецца. Яшчэ скачаце, але гэта часова. Потым будзеце як трусы ў клетцы, як гіпапатамы ў заалагічным парку. Заплывяце тлушчам, мускулы страцяць эластычнасць, будзеце есці канюшыну з рук. Кепская перспектыва. Але яшчэ можаш рашыцца на прыгожы жэст, рыкнуць ільвом. Твой прыклад падштурхне да дзеянняў іншых. Баязліўцы стануць дзёрзкімі, цяльпукі — энергічнымі, няўклюды — гнуткімі і скакучымі, усіх агорне энтузіязм, натхненне, давера да спантаннасці, упэўненасць у лепшыя дні. Праўда, з часам мяняецца і мода. Толькі не знікае патрэба ў героях нашага часу. Бо няма часоў без герояў. Недахоп герояў — гэта апатыя, стома, упадак духу. Бо памяці няма за каго зачапіцца. Я хачу стварыць для цябе выключную магчымасць, непаўторны шанец! Ты прыгадваеш першы палёт у космас? Памятаеш тое імя — ЛАЙКА?
— Пра тое шмат казалі!..
— Вось бачыш! — узрадваўся Бусел. — Ці ёсць дзе вуліца Зайца? Няма і не будзе. Нідзе! Ёсць Гагарына і Заёнчака. Генерал Заёнчак не меў з вамі, палявой галотай, нічога агульнага. Таксама і Гагарын. Але ты можаш быць як ён, як Юрый Гагарын! Падобным да яго. Даб'ешся такога вялікага поспеху!
— Але ж і вуліцы Лайкі — няма? — удакладніў Заяц.
— Не будзь у гэтым вельмі ўпэўнены. У польскім горадзе няма. Аднак свет на ім не канчаецца.
— Хачу знаць праўду. Толькі сур'ёзна, — загарачыўся Заяц. — Што мне дасць гэты палёт? Ці варта рызыкаваць?
— Даведаешся, які прыгожы бывае свет для таго, хто дабіўся поспеху. Уганараванні, павага... Атрымаеш пасаду. Можа, нават...
— Дэлегата! — вырвалася ў Зайца.
— Дэлегата можа і не, але ў кіно запросяць дакладна. Лятучы шарак! Такога яшчэ не было. Пакажаш трусам, што здольныя толькі для даставання з капелюша, ці яшчэ лепш — у смятану!
— Што з гэтага людзям? Хто я для іх, кім буду?
— Ты для іх толькі мяса. І не адрозніваешся ад труса. І ўсё ж такі палёт. Падумай! Палёт над зямлёй!

*Пераклад з польскай Паўла ЛЯХНОВІЧА*

***Працяг гэтага твора і некалькі іншых знойдзеце на сайце часопіса WWW.MALADOST.LIM.BY. Поўная версія***



*Яцэк ХОМЮК*

***Нарадзіўся ў 1995 годзе ў Бяла-Падлясцы. З'яўляецца навучэнцам трэцяга курса ліцэя. За твор «Падарожжа на Месяц» — свой літаратурны дэбют — атрымаў другую ўзнагароду на Агульнапольскім конкурсе імя Крашэўскага ў катэгорыі прозы. Цікавіцца фантастыкай.***

# ПАДАРОЖЖА НА МЕСЯЦ

*Скарочана*

## Раздзел І

**Энн.** Вальт, табе не падаецца, што ён самы прыгожы ў свеце?

**Вальт.** Хто ён?

**Энн**. Ён.

Энн паказала рукой на неба.

**Вальт.** Месяц?

**Энн.** Так, Месяц. Ён заўсёды аднолькава прыгожы. Быццам бы далёка, а быццам вісіць вось тут над намі. Часта думаю, што калі б я стала на лаўку, табурэт або якую-небудзь скрынку і моцна выцягнула руку, то змагла б яго схапіць. Але ў мяне гэта ніколі не атрымліваецца.

Абое, седзячы на лаўцы, замоўклі на хвіліну. Энн углядалася з захапленнем у неба, а Вальт — у зямлю, трымаючы рукі ў кішэнях сваёй улюбёнай кашулі з каптурам. Разважаў над тым, што яна сказала хвіліну таму, успрымаў яе вельмі сур'ёзна, ведаў, што нічога не кажа проста так. Энн павярнулася да яго, схіліўшы галаву і на хвіліну прыплюшчыўшы вочы, быццам трохі саромелася.

**Энн.** Дурная я, праўда?

**Вальт.** Няпраўда. Ты не вінаватая ў тым, што так адчуваеш. Ты зусім не дурная, хутчэй, выключная…

**Энн.** Эээ?

Вальт пачырванеў і адвярнуў галаву, гледзячы перад сабой.

**Вальт.** Гэта значыць... У сэнсе, ты не для мяне выключная, а так, увогуле… Напэўна, не ўсе адчуваюць тое, што адчуваеш ты, таму пэўным чынам ты вылучаешся. Магчыма, у табе ёсць нейкая сіла…

**Энн.** Кажаш абы-што. Я проста выказала тое, пра што думаю. Гэта не так, што яно для мяне важнае ці штосьці такое. Хоць, шчыра кажучы, часта несвядома жадаю калісьці туды паляцець.

**Вальт.** На Месяц?

Вальт, здзіўлены, павярнуўся да Энн, якая сядзела, углядаючыся ў неба, быццам загіпнатызаваная. Нібы яе душа была менавіта там, на Месяцы, а тут, на лаўцы, сядзела толькі яе цела.

**Энн.** Так, на Месяц. Паляцеў бы са мною?

**Вальт.** Мяне завуць Вальт, мне 9 гадоў. Хаджу ў адзін клас з маёй сяброўкай Энн, якая старэйшая за мяне. у дзяцінстве яна вельмі часта хварэла і пайшла ў школу пазней. Аднак мала хто пра гэта ведае, бо яна вельмі нізкая і выглядае нават малодшай хаця б на клас. Спачатку хлопцы называлі яе «курдуплем» і смяяліся з яе, што вельмі дзіцячая. Ужо тады яна падалася мне вельмі цікавай асобай, таму мы хутка пасябравалі. Яна вельмі любіла чытаць кнігі і часта лётала ў аблоках, таму некаторыя хлопцы з яе насміхаліся. Калі я загаварыў з ёю ў першы раз, яна сказала мне: «Ты падобны да таго, хто перажывае шматлікія прыгоды». Шчыра кажучы, ніколі ніводнай я не перажыў. Можна сказаць, што самай вялікай маёй прыгодай было знаёмства з Энн. Часта яна забірала мяне ў свае фантазіі. Я любіў ейны свет. Яна часта казала мне рэчы, якіх пазней саромелася: «Я не павінна гэтага гаварыць, гэта глупства». Я так не лічыў, сам думаў такім чынам, але заўсёды баяўся прамовіць гэта ўслых, магчыма, таму так лёгка мне было яе зразумець. Праз некаторы час я прыйшоў да высновы, што ейны свет стаў маім, а яна ўсё глыбей пачала пранікаць у мой. Можна сказаць, што мы пражывалі агульнае жыццё. Нават калі мы знаходзіліся далёка, нашыя думкі былі разам, існавалі ў агульным свеце. Тады я думаў, што так будзе ўвесь час, што мы будзем разам заўсёды.

**Вальт.** Энн! Знайшоў!

**Бібліятэкар.** Вальт, не крычы так. У бібліятэцы трэба захоўваць цішыню.

Сказаў гэта бібліятэкар, якому за сорак і які добра ведаў гэту парачку, тады, калі Вальт скакаў між стэлажоў. Ён любіў гэтых дваіх, бо яму падабалася іх захапленне кнігамі. Дый сам ён, седзячы ў бібліятэцы і пільнуючы парадак, любіў паглыбіцца ў добрую белетрыстыку.

**Вальт.** Прабачце.

Вальт падышоў да століка, дзе сядзела Энн.

**Вальт.** Глянь, што я знайшоў.

**Энн.** Што гэта?

**Вальт.** Навуковы часопіс. Тут напісана пра касмічны турызм і адпачынак на Месяцы.

**Энн.** Выдатна!

**Бібліятэкар.** Шшшш …

**Энн.** Прабачце.

Энн папрасіла прабачэння, прыплюшчыўшы пры гэтым вочы. Адклала кнігу і схілілася над часопісам, які прынёс Вальт.

**Энн.** Цудоўна. Што там пішуць?

**Вальт.** Тут напісана, што першыя людзі ўжо выбраліся на вакацыі на Месяц, але пакуль гэта вельмі дарага. Аднак на працягу некалькіх гадоў, можа, некалькіх дзясяткаў гадоў, гэта павінна стаць магчымым для ўсіх. Прадбачаць таксама, што можна будзе паляцець на адпачынак і на іншыя планеты.

**Энн.** Не магу паверыць. Вакацыі на Месяцы. Хоць я жадала б паляцець туды толькі з табою, без іншых турыстаў.

## Раздзел II

**Вальт.** Хоць ты і ляжыш, але ўсё адно здзейсніш сваю мару. Я не памыляўся, ты сапраўды валодаеш нейкай невядомай людзям моцай. Ты доўга чакала гэтага, сёння вернешся дадому. Я паклапачуся пра гэта.

Вальт выйшаў з залы і пайшоў у свой пакой, дзе заняўся працай. Вакол яго не было шмат людзей, таму што ўсё яшчэ было рана. Вальт аналізаваў вынікі тэстаў касмічнага карабля, правяраў, ці ўсё ідзе згодна з планам. Працаваў за камп'ютарам без хвіліны адпачынку, папіваючы каву з аўтамата. Калі ў 8.10 сталі прыходзіць першыя працаўнікі, тэлефон на стале Вальта пачаў званіць.

**Вальт.** Слухаю.

**Мэг.** Алё, Вальт? Прывітанне!

**Вальт.** Прывітанне.

**Мэг.** Што ў цябе чуваць?

**Вальт.** Усё добра.

**Мэг.** Не перапрацоўваешся?

**Вальт.** Не.

**Мэг.** Не напружвае цябе тое, што не начуеш дома?

**Вальт.** Тое, што я не начую дома, не павінна цябе хваляваць. Акрамя таго, ты ведаеш, што сёння ў мяне старт, таму я павінен быў застацца на працы.

**Мэг.** Так, але мы сумуем без цябе. Малая сёння клікала «тату».

**Вальт.** Мгм.

**Мэг.** Ты кахаеш мяне?

**Вальт.** Хопіць! У чым справа? Кажы хутчэй, бо я на працы.

**Мэг.** Менавіта ў гэтым справа! Ты заўсёды на працы. Не забывайся, што ў цябе ёсць дзіця, і ты павінен яго выхоўваць.

**Вальт.** Пра што ты?! Слухай, не будзем пра гэта… гэта не тэлефонная размова. Да таго ж я заняты, у мяне сёння старт, таму прашу, дай мне папрацаваць!

**Мэг.** У цябе заўсёды нейкі старт!..

**Вальт.** Мэггі, супакойся. Пачынаеш трызніць. Вярнуся дадому праз тры дні, тады пагутарым.

**Мэг.** Цябе не будзе дома тры дні?!

**Вальт.** Ты ведала пра гэта раней. А цяпер прабач, мушу ісці. Да сустрэчы.

**Мэг.** Ты...

Вальт адклаў слухаўку, закрыў далонямі твар і ўздыхнуў. Сядзеў так хвіліну, пасля чаго ўстаў і пайшоў ў спартыўную залу. Потым падышоў да лініі старту. Гадзінная падрыхтоўка падыходзіла да завяршэння; члены экіпажа ўжо заходзілі на палубу касмічнага карабля. Звонку заставаўся толькі Вальт, калі на стартавую пляцоўку прыбыў ложак з Энн, прыбранай у медыцынскі скафандар. Працаўнікі пачалі ўносіць яе на палубу. Да Вальта падышоў спадар Франклін — адказны за ўсю экспедыцыю.

**Франклін.** Пільнуйце яе. Яе здароўе на вагу золата.

**Вальт.** Абяцаю.

**Франклін.** Поспехаў.

**Р а з д з е л III**

Даследчы двухасабовы зонд акурат адарваўся ад касмічнага карабля, падвешанага ў змрочнай, бясконцай прасторы. На яе палубе засталіся толькі Вальт і Энн.

**Вальт.** Пасля столькіх гадоў мы спаткаліся зноў. Дзякую Богу за кожны дзень, калі магу цябе бачыць. Нават калі ты мяне не бачыш, не чуеш, я заўсёды з табой. І не пакіну цябе…

Вальт углядаўся ў твар Энн, пагружанай у сон, праз шкло яе скафандра. Адчуваў, што скідаюць хуткасць, чуў, як працуюць рухавікі. Зонд высадзіўся на паверхні Месяца. Па радыё Вальт пачуў голас спадара Франкліна.

**Франклін.** Вальт, усё добра, ведаеш, што ты павінен рабіць?

**Вальт.** Так.

**Франклін.** Тады за працу. Хай вас апякае Бог.

Вальт падышоў да Энн і пачаў здымаць з яе скафандар, упэўніваўся, гледзячы на экраны жыццёвых функцый, што з ёй усё ў парадку. Калі зняў з яе ўсё, падышоў да люка і ўключыў опцыю рэгулявання ціску ў кабіне.

**Вальт.** Усё будзе добра. Я трымаю цябе моцна… з табой нічога не здарыцца.

***Пераклад з польскай Ірыны ЗІМНЕВАЙ***

***Твор цалкам знойдзеце на сайце часопіса WWW.MALADOST.LIM.BY. Поўная версія***



# У ПАЛЯВЫХ УМОВАХ

Канал «Культура» Беларускае радыё

Ён стаў вядомым як аўтар рамана «Адзінота ў Сетцы». Пасля выхаду кнігі электронную пошту Януша Вішнеўскага закідалі лістамі ўражаныя творам жанчыны, а ў СМІ з'явіліся высакамоўныя фразы кшталту «тое, як творца ведае і разумее жанчын, часам не могуць патлумачыць нават самі прадстаўніцы прыгожай паловы». З часу першых каментарыяў кніг у пісьменніка стала значна больш, а эмацыйныя, на мяжы з істэрыкай, водгукі запоўнілі большасць інтэрнэт-прасторы. За апошнія два тыдні перад візітам Януша Вішнеўскага раскупілі ўсе квіткі на платную закрытую прэзентацыю, а самыя настойлівыя спрабавалі акрэдытавацца на прэс-канферэнцыю для СМІ (не маючы рэдакцыйных пасведчанняў).

Януш Вішнеўскі адразу папярэдзіў, што руская — не родная яму мова і папрасіў не задаваць пытанняў пра палітыку, бо надта яе не любіць. Традыцыйна прыгадаў, як бацька казаў яму ў дзяцінстве: «Не будзеш вучыцца — станеш палітыкам».

Ён паўтарае тое, што расказваў безліч разоў: пра першую кнігу, працу, сям'ю. Гучаць старыя жарты, упершыню пачутыя беларускімі журналістамі.

*«Я навуковец і пішу кнігі. Працую ў інстытуце ў Франкфурце-на-Майне, дзе ствараю камп'ютарныя праграмы па хіміі для адной з буйнейшых баз дадзеных. Навука — мая жонка, літаратура — каханка. Звычайны мужчына марыць мець і жонку, і каханку. Я спадзяюся, яны адна пра адну не ведаюць. Але не магу займацца навуковай дзейнасцю і літаратурай аднолькава дрэнна. Таму хачу вярнуцца ў Польшчу, працаваць ва ўніверсітэце і пісаць кнігі».*

Па словах Януша Вішнеўскага, «Адзіноту ў Сетцы» ён пачаў пісаць у суме супраць суму.

*«Ніколі не пісаў для грошай. Мне выдатна плацілі за камп'ютарныя праграмы. Добра, што працадаўцы не ведаюць, што за палову заробку я б іх таксама пісаў».*

Фільм паводле «Адзіноты ў Сетцы» адважыўся зняць польскі рэжысёр Вітольд Адамек. Крытычныя заўвагі адносна карціны пасыпаліся на Януша Вішнеўскага, які неабачліва пазначыў у кнізе свой электронны адрас.

Творца і на прэс-канферэнцыі адказвае, якой ён знаходзіць гэту работу.

*«Там выдатная музыка, прафесійныя акцёры, прыгожыя сцэны. Але стужку трэба глядзець менавіта як фільм, а не як экранізацыю».*

Януш Вішнеўскі раіць па добрую пастаноўку па кнізе ехаць у Пецярбург.

*«Тэатр Балтыйскі дом зрабіў па ёй спектакль. Для мяне было загадкай, як яны ўвасобяць усе гэтыя пачуцці, эмоцыі на сцэне. Дзейства доўжыцца з антрактам чатыры гадзіны. У іх насамрэч атрымалася нешта ўнікальнае. Мне давялося і самому два разы выходзіць на сцэну ў вобразе бамжа з маёй кнігі. Гэта неверагоднае хваляванне».*

Пісьменнік не чакаў пытанняў пра апошняе выданне «На Фэйсбуку с сынам», а адразу стаў зацікаўліваць сюжэтам.

*«Кніга аўтабіяграфічная. Я вельмі любіў маму. У мяне засталося адчуванне, што мы не скончылі многіх важных размоў. Так нара-*



*дзіўся гэты твор. Мама была вельмі сучаснай жанчынай. Мяркую, абавязкова б мела ўласную старонку на Фэйсбуку і ліставалася са мной. Яна казала, што калі памрэ, трапіць у пекла, бо была грэшнай жанчынай: мела трох мужоў. У кнізе яна ў пекле сустракае шмат цікавых вядомых людзей: Мэрэлін Манро, Анры Тулуз-Латрэка, Мары Кюры-Складоўскую, Кшыштафа Кеслёўскага. Толькі сумныя людзі трапляюць у рай. Мы абмяркоўваем з мамай важныя пытанні: чаму Бог антыфемініст, як так здараецца, што некаторыя людзі вераць у Бога, некаторыя — не. Я нават задаю ёй табуяваныя пытанні пра сексуальнае жыццё».*

«Прэс-канферэнцыя скончана», — абвяшчае мадэратар і журналісты становяцца ў чаргу па аўтографы і каментарыі.

У 19 гадзін пачынаецца закрытая прэзентацыя кнігі Януша Вішнеўскага ва ўнутраным дворыку музея гісторыі горада Мінска. Прастору вакол стала пісьменніка, лесвіцу, верхнюю галерэю акупіравалі 200 прыхільнікаў творцы, большасць з якіх жанчыны да 30-ці гадоў, некаторыя прыцягнулі на сустрэчу сяброў, мужоў, знаёмых. Вішнеўскі змагаецца са стомай, пазірае пранізліва з-пад напаўадкрытых павек, пачынае аповед пра навуку, літаратуру і першую кнігу. Наведвальніцы ў захапленніназіраюць за аўтарам, «які так выдатна разумее жаночую псіхалогію».

Я шукаю вачамі якое-небудзь крэсла — занямела спіна. На гэтыя праблемы абсалютна не зважаюць астатнія: хтосьці сядзіць на падлозе, нехта зняў нязручныя туфлі з абцасамі. Пасля прэзентацыі ўвесь натоўп становіцца за аўтографамі. Чакаю яшчэ гадзіну. Падыходжу з надзеяй задаць некалькі «кухонных» пытанняў без асаблівага спадзявання на поспех. Пісьменнік са стомленай усмешкай згаджаецца. За спінай чую шэпт арганізатараў: «Не больш за дзесяць хвілін!»

**— Вядомы савецкі навуковец Леў Арцымовіч казаў: «Навука — сродак задаволіць сваю цікаўнасць за кошт дзяржавы». А з якой мэтай вы сталі займацца навуковай дзейнасцю?**

— Вельмі саркастычнае і цынічнае вызначэнне (*смяецца*). Дзяржава ж атрымлівае грошы, калі даследаванні праходзяць з поспехам. Я абраў навуку, таму што мне было цікава, хацеў разумець, як працуе Сусвет. Фізіка адказвае на істотныя пытанні.

**— Вы казалі, калі адпачываеце не можаце займацца ні навукай, ні літаратурай. А што тады абіраеце?**

— Падарожнічаю. Для мяне гэта важна. Проста іду куды-небудзь далёка.

**— Ці ёсць у вас музыка і літаратура выключна для адпачынку?**

— Напісанне кніг — гэта не праца. Гэта іншы від адпачынку. Калі я не пішу, сапраўды магу нічога не рабіць. А музыка заўжды са мной. Здараюцца моманты, калі неабходна проста пабыць у цішы, але яны бываюць рэдка.

**— А што вы слухаеце, калі пішаце?**

— Залежыць ад таго, над чым працую. Кніга «Каханне і іншыя дысанансы» — гэта гісторыя двух чалавек. Герой-мужчына — музычны крытык. Мне даводзілася слухаць шмат рускай музыкі, якая яму падабаецца. Люблю папулярную музыку. Слухаю Леанарда Коэна, балады, кантры, спакойныя кампазіцыі. Іх выбар залежыць ад настрою і колькасці ўжытага віна.

**— Вы казалі, што вам падабаюцца раннія творы Барыса Акуніна. Некалі ён абвясціў літаратурны конкурс, пераможца якога атрымаў вельмі незвычайны прыз. Адзін з персанажаў новай кнігі пісьменніка займеў імя і прозвішча шчаслівчыка.**

— Добрая ідэя. Я павенен пачаць гэта рабіць. Чаму не? Часам ёсць праблема як назваць героя кнігі. Можна гуляць з імем. Людзі проста могуць даваць мне імёны, каб я карыстаўся імі.

**— А што павінна быць у кнізе, каб яна вам спадабалася, стала вашай?**

— Гісторыя. Я б хацеў даведацца пра чалавека, прачытаць цікавы сюжэт, які я не перажываў, пра які ніколі не чуў.

**— Калі самі пісалі, ці часта звярталіся да нейкіх навуковых крыніц, дапаможнікаў?**

— Вельмі часта. У кнізе «Бікіні» дзеянне адбываецца падчас Другой Сусветнай вайны. Я шмат чытаў пра палітыкаў, гарады ў тыя часы, як людзі жылі, што апраналі. Доўга сядзеў у бібліятэках, архівах.

**— Вы казалі, што жыццё — падарожжа. Які апошні прыпынак?**

— Каханне. Яно павінна быць.

***Маша ДУБРОЎСКАЯ***